БЕЛАРУСКАЕ ДОБРААХВОТНАЕ ТАВАРЫСТВА
АХОВЫ ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ
СЕКТАР ЭТНАГРАФІІ ІНСТЫТУТА МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ
І ФАЛЬКЛОРУ АН БССР

# ПОМНІКІ ЭТНАГРАФІІ

## МЕТОДЫКА ВЫЯЎЛЕННЯ, АПІСАННЯ І ЗБІРАННЯ

Пад рэдакцыяй
члена-карэспандэнта АН БССР
В. К. БАНДАРЧЫКА

МІНСК «НАВУКА І ТЭХНІКА» 1981

# УВОДЗІНЫ

Камуністычная партыя і Савецкая дзяржава, праводзячы ў жыццё ідэі У. І. Леніна аб ролі культурнай спадчыны ў пабудове камуністычнага грамадства, ажыццяўляюць вялікую работу па ахове помнікаў гісторыі і культуры народаў СССР. Пра гэта сведчаць заканадаўчыя акты і, у прыватнасці, прыняты ў 1978 г. Вярхоўным Саветам Беларускай ССР закон «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры».

Ахова помнікаў з'яўляецца абавязкам кожнага савецкага грамадзяніна. У арт. 66 Канстытуцыі БССР гаворыцца: «Клопаты аб захаванні гістарычных помнікаў і іншых культурных каштоўнасцей — доўг і абавязак грамадзян Беларускай ССР».

Важнай састаўной часткай культурнай спадчыны кожнага народа з'яўляюцца этнаграфічныя помнікі, у якіх увасоблена гісторыя матэрыяльнай культуры — народнага дойлідства, прылад працы, промыслаў і рамёстваў, рэчаў штодзённага ўжытку. У адрозненне ад археалагічных, гістарычных і мастацкіх помнікаў, большасць якіх узята пад ахову дзяржавы, помнікі этнаграфіі з'яўляюцца асабістай уласнасцю грамадзян і ў значнай меры яшчэ дагэтуль выкарыстоўваюцца паводле свайго функцыянальнага прызначэння, а гэта стварае пэўныя цяжкасці іх уліку і аховы.

Сацыялістычная перабудова вёскі, шырокае выкарыстанне ў сельскім будаўніцтве новых матэрыялаў, а ў сельскагаспадарчай вытворчасці — сучасных прылад і механізмаў карэнным чынам змянілі характар працы хлебароба. Гэты працэс не абмінуў і побыт калгаснага сялянства. Рэчы штодзённага побыту, якімі цяпер карыстаецца вясковы жыхар, як правіла, фабрычна-заводскага паходжання. Яны больш дасканалыя і зручныя ў карыстанні. У цэлым інтэнсіўны працэс трансфармацыі матэрыяльнай культуры мае пазітыўны характар. Узнікла рэальная пагроза страты шмат якіх помнікаў этнаграфіі. Многія з іх маюць не толькі значэнне помнікаў матэрыяльнай культуры, але і належаць да ліку каштоўных твораў мастацтва. Больш таго, яны часта з'яўляюцца адзінай крыніцай інфармацыі пра асаблівасці жыцця і побыту народа ў мінулым.

Захаванне помнікаў народнай архітэктуры, прылад працы, бытавых рэчаў мае вялікае значэнне не толькі для навукі, але і для практычных мэт. Выкарыстанне традыцый народнага дойлідства абагачае сучаснае жытло, надае яму зручнасць і арыгінальнае высокаэстэтычнае аблічча. Звесткі пра традыцыйную культуру і побыт народа неабходны пры стварэнні фільмаў, спектакляў, твораў літаратуры і мастацтва. Сабраць і захаваць для будучых пакаленняў помнікі этнаграфіі — наш пачэсны абавязак.

Адной з дзейсных форм захавання помнікаў матэрыяльнай культуры і іх папулярызацыі з'яўляюцца скансены — музеі пад адкрытым небам. У адрознен-

не ад звычайных музеяў, дзе экспанаты знаходзяцца ў закрытых памяшканнях, тут яны экспануюцца на ўлонні прыроды, ва ўмовах, максімальна набліжаных да натуральных.

У СССР на розных стадыях стварэння і функцыяніравання налічваецца больш як 40 музеяў пад адкрытым небам. 9 снежня 1976 г. Савет Міністраў БССР прыняў пастанову аб стварэнні ў рэспубліцы Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і быту. Размесціцца ён за 12 км ад Мінска па Брэсцкай шашы каля Воўкавіцкага вадасховішча.

Асноўнай структурна-планіровачнай адзінкай музея стане сялянская сядзіба з традыцыйным комплексам жылых і гаспадарчых пабудоў, інтэр'еры якіх будуць абсталяваны ўсімі неабходнымі прадметамі хатняга ўжытку, прыладамі працы, сельскагаспадарчым інтэр'ерам— усім тым, што знаходзілася ў хаце, хлявах, свірне, гумне беларускага селяніна ў канцы XIX — пачатку XX ст.

У кожным з сектараў экспазіцыйнай зоны музея будзе паказана матэрыяльная культура адпаведнага гісторыка-этнаграфічнага раёна рэспублікі — Паазер'я, Падняпроўя, Цэнтра, Панямоння, Усходняга і Заходняга Палесся. Акрамя таго, мяркуецца стварыць сектары унікальнай і местачковай архітэктуры, без паказу якой знаёмства з народным дойлідствам і бытам будзе няпоўным. Усе сядзібы захаваюць свае планіровачныя асаблівасці і ў сваёй сукупнасці адновяць тыповую форму планіроўкі кожнага рэгіёна рэспублікі. У музеі будуць таксама шырока прадстаўлены традыцыйныя народныя промыслы і рамёствы.

Для ўкамплектавання музея патрабуецца некалькі дзесяткаў тысяч разнастайных экспанатаў — ад хаты да дзіцячых цацак. Без дапамогі шырокіх колаў насельніцтва, у першую чаргу тых, хто жыве ў сельскай мясцовасці, без падтрымкі партыйна-савецкіх устаноў і арганізацый, калгасаў і саўгасаў, школ немагчыма стварыць музей, які б шырока адлюстроўваў усе бакі жыцця беларускага народа.

Значную ролю ў зборы і захаванні помнікаў могуць адыграць краязнаўчыя і школьныя музеі, у якіх, як правіла, ёсць аддзелы этнаграфіі. Кожны з іх павінен праявіць максімум увагі да этнаграфічных помнікаў, іх збірання і захавання, а таксама перадачы ў цэнтральныя музеі.

У БССР у апошнія гады ўзнікла некалькі калгасных і саўгасных этнаграфічных музеяў. Гэтае пачынанне заслугоўвае ўхвалы і падтрымкі. Стварэнне такіх музеяў не патрабуе вялікіх выдаткаў. Звычайна ў час перабудовы вёсак пакідаецца 2—3 двары (іншы раз адзін) з тыповай традыцыйнай забудовай і планіроўкай, абсталяваныя ўсімі гаспадарчымі прыладамі, прадметамі быту, хатняга начыння з гэтай і навакольных вёсак. Да такіх музеяў можна далучыць вытворчыя і гаспадарчыя пабудовы, у тым ліку традыцыйныя млыны, кузні, дрывотні, вазоўні і г. д.

Калгасныя і саўгасныя этнаграфічныя музеі, калі б яны былі створаны паўсюдна, адыгралі б велізарную ролю ў захаванні вялікай колькасці этнаграфічных, гістарычных, культурных і іншых помнікаў. Масавае стварэнне музеяў залежыць не толькі ад ініцыятывы кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў, але і ад мясцовай грамадскасці — прафсаюзных і камсамольскіх арганізацый, мясцовай інтэлігенцыі, асабліва педагагічных калектываў мясцовых навучальных устаноў.

Пры стварэнні мясцовых музеяў, а таксама пры выяўленні і збіранні экспанатаў для Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і быту неабходна кіравацца наступнымі метадычнымі парадамі. Перш за ўсё трэба мець на ўвазе тую акалічнасць, якая прадугледжвае тыповасць архітэктурных пабудоў, гаспадарчых прылад і прадметаў

быту для дадзенай мясцовасці. Гэта дае магчымасць стварыць такую музейную экспазіцыю, якая адэкватна адлюструе сапраўдную карціну народнай культуры і быту. Разам з тым неабходна памятаць: чым больш старажытны музейны аб'ект ці прадмет, тым каштоўнейшы ён для музея і навукі. Не зусім добрая захаванасць, асобныя пашкоджанні, забруджанне не павінны бянтэжыць краязнаўца, бо экспанат лёгка адрэстаўрыраваць. Пажадана збіраць прадметы комплексна, г. зн. усё, што датычыць пэўнага працэсу (ткацтва, бандарства, пчалярства і г. д.). Цікавы для навукі і прылады працы, якія зроблены нядаўна, але на аснове мясцовых традыцый.

Значную цікавасць уяўляюць помнікі этнаграфіі, упрыгожаныя арнаментальнай разьбой у выглядзе розных разетак, узораў, спалучэння рысак, трохвугольнікаў, выяў птушак, жывёлы і г. д. Так, напрыклад, афармляліся карнізы, франтоны, вокны шмат якіх хат, брамы, прасніцы, мэбля, посуд, вырабы ткацтва, вопратка і г. д.

Кожны помнік неабходна анаціраваць—зрабіць кароткае апісанне, якое б раскрывала яго паходжанне, выкарыстанне, канструкцыю і выгляд. Пры афармленні анатацыі неабходна адзначыць:

1. Населены пункт, сельсавет, вобласць (паводле сучаснага і, па магчымасці, дарэвалюцыйнага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу — губерня, павет, воласць).

2. Прадмет, яго мясцовая назва і прызначэнне.

3. Уладальнік прадмета (прозвішча, імя і імя па бацьку, год нараджэння, прафесія, пасада).

4. Час вырабу (па магчымасці, адзначыць час і тэрыторыю бытавання прадмета).

5. Кім зроблены або дзе набыты.

6. Якія інструменты ўжываліся пры вырабе прадмета.

7. Матэрыял, з якога зроблены прадмет (зрабіць фотаздымак або малюнак).

8. Канструкцыя прадмета, назва асобных частак, памеры.

9. Спосаб і тэхніка вырабу.

10. Пераробкі, даробкі.

11. Прозвішча, імя і імя па бацьку краязнаўца.

12. Подпіс.

13. Дата.

Надзвычай пажадана сфатаграфаваць помнік, здымак разам з негатывам прыкласці да анатацыі.

Узор разгорнутай анатацыі на архітэктурныя помнікі прыведзены ў раздзеле «Народнае дойлідства». Дадатковыя метадычныя парады, якія абумоўлены спецыфікай той ці іншай вобласці матэрыяльнай культуры, змешчаны ў адпаведных раздзелах метадычнага дапаможніка.

Гэты дапаможнік, зразумела, не ахоплівае ва ўсім аб'ёме матэрыяльную культуру беларусаў. Таму краязнаўцы не павінны мінаць аб'екты і прадметы, якія не ўвайшлі ў дапаможнік.

Сабраныя звесткі (анатацыі, планы, фотаздымкі) дасылаюцца дырэкцыі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і быту (220029, Мінск, вул. Э. Пашкевіч, 3).

Метадычны дапаможнік падрыхтаваны супрацоўнікамі сектара этнаграфіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР пры ўдзеле музейнай групы Міністэрства культуры БССР.

У падрыхтоўцы рукапісу да выдання ўдзельнічаў малодшы навуковы супрацоўнік С. Ф. Цярохін.



# НАРОДНАЕ ДОЙЛІДСТВА

Асноўным крытэрыем, якім трэба кіравацца пры выбары аб'екта даследавання, з'яўляецца тыповасць. Кожная пабудова, жылая ці гаспадарчая, якая, на погляд краязнаўца, можа рэпрэзентаваць у музеі народнае дойлідства вашага раёна, павінна быць тыповай, г. зн. мець шэраг характэрных канструкцыйна-будаўнічых прыкметаў і асаблівасцей, якімі вызначаецца вясковая архітэктура. У кожным гісторыка-этнаграфічным рэгіёне па-рознаму вяжуць вуглы, мацуюць кроквы, крыюць стрэхі, зашываюць шчыты і г. д. Адрозніваюцца хаты і планіроўкай. У адным раёне больш распаўсюджана, а значыць, і больш тыповая, двухкамерная хата (хата+сенцы), у другім — трохкамерная (хата++сенцы+камора або хата+сенцы+хата). Гэтак жа адрозніваюцца планіроўкі сядзібы і планіроўкі вёсак.

Дасведчаны чалавек адразу вызначыць, адкуль той ці іншы будынак. Хату, напрыклад, з Полаччыны няцяжка адрозніць ад хаты, пабудаванай на Брэстчыне або Гомельшчыне.

Такім чынам, кожны жылы (хата, зямлянка, курэнь), гаспадарчы (свіран, гумно, хлеў, павець, вазоўня, дрывотня, стайня, свінінец, варыўня, пограб, куратнік, лазня і інш.), вытворчы будынак (кузня, вяндлярня, смалакурня, майстэрня бондара, стэльмаха, шорніка і інш.) пабудаваны паводле мясцовых архітэктурна-планіровачных і будаўнічых традыцый і з'яўляецца помнікам матэрыяльнай культуры, а значыць, і патэнцыяльным экспанатам музея пад адкрытым небам.

Выявіўшы самастойна або шляхам апытання старых людзей адзін ці некалькі тыповых будынкаў, неабходна зрабіць яго папярэдні абмер і апісанне (сабраць пашпартныя звесткі), асвятліўшы наступныя пытанні:

1. Назва вёскі, сельсавет і раён.
2. Прозвішча, імя і імя па бацьку гаспадара будынка.
3. Тып будынка (хата, гумно, хлеў і г. д.), яго мясцовая назва.
4. Дата пабудовы.
5. Хто будаваў.
6. Перавозка, перабудова, дабудова.
7. Планіроўка сядзібы.
8. Планіроўка будынка.
9. Канструкцыйна-будаўнічая характарыстыка будынка.

У залежнасці ад размяшчэння на сядзібе жылых і гаспадарчых пабудоў адрозніваюць наступныя планіровачныя тыпы двароў.

**Вяночны** (круглы) **двор** вызначаецца тым, што ўсе пабудовы пастаўлены самкнутым па перыметру і набліжаным да квадрата прамавугольнікам. Свабодныя прамежкі паміж будынкамі закрыты заметам — парканам з гарызанталь-

на закіданых у шулы бярвенняў. Вянок замыкаўся брамай з дзвюхсхільнай стрэшкай на высокіх вушаках і каліткай.

**Пагонны двор** (сцяг, рум, шар) мае два падтыпы: аднарадны і двухрадны. Усе будынкі пастаўлены шчыльна адзін да аднаго ў адну або дзве паралельныя лініі і накрыты агульнай страхой. Іншы раз паміж хатай і першым хлявом або паміж іншымі гаспадарчымі пабудовамі можа быць невялікі, як прайсці чалавеку, прамежак.

**Г- і П-падобныя двары** — прамежкавыя формы сядзібнай планіроўкі, якія ўтварыліся ў выніку выпадзення асобных будынкаў з вяночнай забудовы сядзібы.

**Двор са свабодным размяшчэннем пабудоў** атрымаў распаўсюджанне ў рэспубліцы пасля калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Пры гэтай форме сядзібнай




Аднарадны пагонны двор: 1 — палісаднік, 2 — хата, 3 — сенцы, 4 — камора, 5, 6, — хлявы, 7 — хляўчук, 8 — панадворак, 9 — дзяннік




Вяночны двор: 1 — хата, 2 — сенцы, 3 — камора, 4, 5, 6, 7, 8 — хлявы, 9 — павець, 10 — павець з разборнай сценкай, 11 — свіран




Двухрадны пагонны двор: 1 — палісаднік, 2 — хата, 3 — сенцы, 4 — камора, 5 — двор, 6, 7, 8 — хлявы, 9 — свіран




Двор з пабудовамі абапал: 1 — хата, 2 — сенцы, 3 — камора, 4 — свіран, 5 — калодзеж, 6, 7, 8 — хлявы, 9 — куратнік, 10 — гумно



П-падобны двор: 1 — палісаднік, 2 — хата, 3 — сенцы, 4 — камора, 5, 6, 8, 9 — хлявы, 7 — павець, 10 — вазоўня, 11 — свіран

планіроўкі хата стаіць на значнай адлегласці ад гаспадарчых будынкаў.

**Двор з пабудовамі абапал вуліцы** генетычна звязваецца з зямельнай рэформай 1557 г., вядомай у гістарычнай навуцы пад назвай «Устава на валокі»*. Асаблівасць забудовы такога двара — размяшчэнне жытла на адным, а гаспадарчых пабудоў — на другім баку вуліцы.

Паслядоўнасць размяшчэння пабудоў строга не рэгламентавалася. У аднаго гаспадара хлеў стаяў за паветкай, у другога — перад ёю, на адным двары быў адзін хлеў, на другім — два, тры і больш. Аднак агульная планіроўка заўсёды захоўвала традыцыйныя рысы.



Двор са свабодным размяшчэннем пабудоў: 1 — хаты, 2 — сенцы, 3 — хлявы, 4 — свіран, 5 — павець, 6 — кухня, 7 — куратнік, 8 — веранда

* Валока — адзінка вымярэння зямельнай плошчы, роўная 21 га.




Г-падобны двор: 1 — палісаднік, 2 — хата, 3 — сенцы, 4 — камора, 5, 6, 8, 9 — хлявы, 7 — павець, 10 — вазоўня, 11 — свіран




Планы жылля аднакамернага і двухкамернага (1 — хата, 2 — сенцы)

Асобныя будынкі заўсёды будавалі воддаль ад асноўнага комплексу забудовы сядзібы: гумны ў канцы агарода, на так званым прыгуменні, лазні — за мяжой сядзібы, звычайна каля вады (ракі, возера, крыніцы), свірны — супраць хаты.

Яшчэ дагэтуль дзе-нідзе можна сустрэць сядзібы з двума і трыма дварамі, якія ўзніклі ў выніку падзелу сямей ва ўмовах малазямелля.

П л а н і р о ў к а п а б у д о в ы ўплывае на аб'ёмна-прасторавае рашэнне і звязана з яе канструкцыяй і функцыянальнай структурай. Паводле планіроўкі традыцыйнае сялянскае жыллё можна падзяліць на тры асноўныя групы: аднакамернае, двухкамернае і трохкамернае.

**Аднакамернае жыллё**—пабудова без сенцаў, якая мае ў плане форму квадрата або падоўжнага прамавугольніка. Уваходзілі ў такую хату прама з вуліцы. Дзвярны праём рабілі звычайна з тыльнай тарцовай сцяны, хоць дзверы маглі знаходзіцца і ў падоўжнай сцяне.

Каб засцерагчы хату ад ветру і холаду, дзверы ў аднакамерным жыллі часта прыкрывалі знадворку жэрдкамі або гарбылямі, а зверху сенам ці саломай.

**Двухкамернае жыллё** развілося з аднакамернага шляхам далучэння да яго дадатковага трохсценнага зруба — т р ы с ц е н а, які і ўтвараў сенцы — другую камеру. Звязвалі трысцен з асноўным аб'ёмам пры дапамозе аднабаковых шулаў, прымацаваных да тарцовай сцяны хаты тэблямі (драўляныя цвікі, пальцы, спіцы), або металічнымі скобамі. Зачэсаныя канцы бярвенняў падоўжных сцен трысцена запускалі ў пазы шулаў. Сенцы звычайна рабілі без столі з больш таннага матэрыялу. У сенцах двухкамернага жылля часта ўпоперак або ўздоўж адгароджвалі камору. На Усходнім Палессі сенцы са страхой на сохах плялі з лазы.

**Трохкамернае жыллё** бытавала на ўсёй тэрыторыі Беларусі побач з двухкамерным на працягу многіх стагоддзяў. Адны лічаць, што трэцяя камера — гэта трэці далучаны да сенцаў зруб, другія прытрымліваюцца думкі, што трохкамернае жыллё ўзнікла шляхам аб'яднання аднакамернай хаты і гаспадарчай пабудовы, напрыклад варыўні, пры дапамозе сенцаў.

Беларускія этнографы падзяляюць апошні погляд. Вядома некалькі функцыянальных варыянтаў трохкамернага жылля: хата+сенцы+камора; хата+сенцы+варыўня; хата+хата+сенцы; хата+сенцы+хата.

Трохкамерныя планіроўкі звычайна маюць ускладненыя варыянты, але колькі б некапітальных перагародак ні рабілі ў сярэдзіне, планіровачная структура заставалася трохкамернай, бо члянненне жылога памяшкання (унутраная сегментацыя) не ўплывае на яго планіроўку.

Падобная на трохкамернае жыллё хата-пяцісценка. Яе асаблівасцю з'яўляецца пятая, капітальная сцяна, якая рубілася адначасова з чатырма знадворнымі сценамі. Ёсць некалькі гіпотэз паходжання пяцісценак. Найбольш верагодна, што яны паходзяць ад аднакамернай хаты з трысценам. Нягледзячы на даўняе паходжанне, пяцісценкі на Беларусі не набылі шырокага распаўсюджання.

Канструкцыя (будаўніча-тэхнічныя часткі і дэталі будынка, іх узаемнае размяшчэнне і спосабы спалучэння) поруч з планіроўкай з'яўляецца адным з асноўных кампанентаў кожнага збудавання. Да традыцыйных канструкцый народнага дойлідства належаць фундамент, зруб, страха, падлога, столь, вокны, дзверы, шчыты, ганак.

**Фундамент** (падмурак) — з'ява даволі позняя. Каменнаму, цаглянаму, бетоннаму заліўному фундаменту пасля-




Канструкцыйныя элементы: а — шула, б — штандара




Планы трохкамернага жылля: 1 — хаты, 2 — сенцы, 3 — каморы, 4 — варыўня




Канструкцыя зруба: а — слупавая, б — вяночная




Віды вуглоў: а — «у чашку» з адна- і двухбаковай вырубкай, б — просты, в — «у каню», г — чысты

доўна папярэднічалі наступныя спосабы ўстаноўкі пабудоў:

— на зямлі. Ніжні вянок зруба, які называўся падрубай, укладвалі на выраўнены грунт будаўнічай пляцоўкі;

— на палях. Хаты на палях будавалі на нізкіх, балоцістых землях або на задзе. Сустракаюцца спарадычна, як перажытак старадаўняга палафітнага будаўніцтва (в. Вялікае Малешава Столінскага раёна Брэсцкай вобл.);

— на 4—6 дубовых лягарах, пакладзеных на зямлю па даўжыні хаты;

— на штандарах (шкандары, шандары, штэмпалі, падкопіны, стопчыкі) — дубовых ці са смалістай хвоі калодах, укопаных пад вуглы і пад сярэдзіну кожнай сцяны хаты. Прастора паміж штандарамі па ўсім перыметры будынка запаўнялася падвалінамі — вертыкальнымі слупкамі ў два разы танчэйшымі за штандары або ачэсанымі бярвеннямі, канцы якіх запускаліся ў выдзеўбаныя ў штандарах пазы;

— на рагавіках — 4-х валунах, на якія абапіраліся вуглы зруба, прастору паміж рагавікамі закрывалі дробным каменнем, прысыпалі пяском або абмазвалі глінай.

Вакол хаты, калі яна стаяла на зямлі ці на штандарах, часта рабілася прызба — невысокі, да ўзроўню трэцяга вянка, земляны насып, умацаваны жэрдкамі або дошкамі. Прастора паміж дошкамі і сцяною засыпалася зямлёю, кастрыцай або хваёвай ігліцай.

Асноўным будаўнічым матэрыялам, з якога выконваліся амаль усе канструкцыі, у беларусаў здаўна было дрэва. Адносна лёгкая апрацоўка, трываласць, тэхналагічная гнуткасць і цеплаізаляцыйныя ўласцівасці рабілі яго універсальным будаўнічым матэрыялам. Зруб рубілі з кругляка, плашчакоў або паўкругляка (расшчэпленых на дзве палавіны бярвенняў), брусоў (дылі) рознага (квадратнага або прамавугольнага) ся-

чэння і з ачэсанага з аднаго або абодвух бакоў бярвення. З усіх парод драўніны перавага аддавалася хвоі. Ніжні вянок (падруба) вязаўся з дубу. Сцены імшыліся, бярвенне шчыльна падганялася адно да другога.

Здаўна вядомы дзве канструкцыі зруба — слупавая і вяночная. З цягам часу вяночная тэхніка драўлянага будаўніцтва распаўсюдзілася і выціснула ў жыллёвым будаўніцтве слупавую. Апошняя як анахранізм цяпер сустракаецца спарадычна. Такая хата, напрыклад, выяўлена ў в. Кусцічы Камянецкага раёна Брэсцкай вобл. Аднак у гаспадарчым будаўніцтве слупавая тэхніка шырока выкарыстоўваецца дагэтуль, праўда, часцей усяго ў выглядзе камбінаванай вяночна-слупавай канструкцыі (рубленыя вуглы спалучаюцца з шуламі на прагонах сцен).

Асновай вяночнай тэхнікі будаўніцтва з'яўляецца в у г а л, пры дапамозе якога вяжуць бярвенні ў вянкі зруба. Перавага аддаецца наступным відам вуглоў.

**Вугал «у чашку»** («у вугал», «у чашку», «сабачы вугал», старадаўняя назва «у вобла»). Элементам злучэння вянка з'яўляюцца паўавальныя гнёзды — чашкі, рубленыя з аднаго або абодвух бакоў бервяна.

**Просты замок** («у замок») — разнавіднасць вугла «ў чашку», ад якога адрозніваецца прамавугольнымі гнёздамі («вырэз»). У просты замок вязалі зрубы часцей за ўсё з чорнага лесу — алешыны або асіны, бярвенні пры гэтым абавязкова абчэсвалі або апілоўвалі.

**Вугал «у каню»** (разнавіднасць — «зубчасты вугал») больш моцны і трывалы з усіх пералічаных, бо бярвенні ўмацаваны тут акрамя чашак дадатковай сувяззю — шыпам у адным бервяне і гняздом — у другім.

Ва ўсіх апісаных вышэй тыпах вуглоў канцы бярвенняў выступаюць за вонкавыя плоскасці сцен. Часта іх канцы не абрэзвалі пад шнур, а пакідалі рознай даўжыні. Таму такія вуглы называлі касматымі. Такая «касматасць» папярэджвала прамярзанне і загніванне вуглоў, а абсяканне бярвенняў сякерай сплюшчвала поры і змяншала пранікненне вільгаці ў драўніну.

**Чысты вугал** (ластаўчын хвост, нямецкі вугал, гладкі вугал) — выпілаваныя наўскос з абодвух бакоў бервяна чашкі. Канцы бярвенняў абрэзваюць па плоскасці сцен. Чысты вугал здаўна вядомы на Беларусі. Пры дапамозе яго вязалі драўляную аснову печы — апе-




Страха закотам: а — суцэльны закот, б — врубка праз адзін — два лемягі, в — закот на трох сволаках, г — фрагмент апорнай канструкцыі стажковай страхі. Элементы страхі закотам: 1 — лемягі, 2 — сволакі

чак. За апошняе дзесяцігоддзе шырока распаўсюдзіўся на сяле.

Чысты вугал мае некалькі варыянтаў. Адны з іх ускладняюцца дадатковай сувяззю пры дапамозе шыпа і гнязда, другія — тэблямі (драўлянымі пальцамі), якія забіваюць у зробленыя ў чашках адтуліны.




Тыпы каркаснай канструкцыі стрэх: а — на сохах, б — на паўсошках, в — на крыжах, г — на крокваx (1 — сволак, 2 — сохі, 3 — паўсошка, 4 — ключы, 5 — крыж, 6 — кроквы, 7 — латы)




Спосабы ўрубкі крокваў: а — у верхняе бервяно зруба, б — у верхняе бервяно і ў застрэшнае бервяно, в — ва ўмацаванае на канцах бэлек бервяно, г — у канцы папярочных бэлек

С т р э х і маюць разнастайную форму, розныя канструкцыйныя рашэнні апорнай сістэмы, featuresрознае пакрыццё. Гэта разнастайнасць абумоўлена традыцыйнымі спосабамі апрацоўкі матэрыялу і мясцовымі прыёмамі будаўніцтва.

Форма страхі залежыць ад будаўнічай традыцыі, тыпу канструкцыі апорнай сістэмы і часткова матэрыялу пакрыцця. У беларускім драўляным дойлідстве найбольш вядомы:

— двухсхільная,

— трохсхільная,

— чатырохсхільная,

— з усечаным зверху франтонам (лабяком, з вальмай, з залобкам, з начолкам, «ламаны дах»);

— з усечаным знізу франтонам («з прычолкам»).

Драўлянае дойлідства выпрацавала некалькі канструкцыйных тыпаў а п о р н а й с і с т э м ы стрэх. Па характару тэхнічнага вырашэння яны падзяляюцца на дзве групы — вяночную і каркасную.

**Вяночная** апорная сістэма страхі заснавана на зрубнай тэхніцы будаўніцтва: усе яе элементы размешчаны гарызантальна і звязаны паміж сабою такім жа чынам, як бярвенне ў вуглах зруба. З даўніх часоў вяночная канструкцыя бытавала ў форме закота і стажка.

**Закот** (страха закотам, на лемягах, у пакот, на гадунах) — апорная сістэма страхі, якая складаецца з гарызантальных сволакаў (закоцвіна, пакот, накот), пакладзеных уздоўж хаты на бярвенне шчытоў, рубленых з такога ж бярвення, як і зруб. Сволакі насцілаліся адным з

трох спосабаў: суцэльным накотам, урубкай цераз лемяг, на трох лемягах. Канструкцыя закотам сустракаецца і ў цяперашні час, але галоўным чынам у свірнах.

**Стажковая** (пірамідальная, у рускіх — «в режь») канструкцыя таксама належыць да архаічных апорных формаў страхі. Выкарыстоўвалася спарадычна на Заходнім Палессі яшчэ на пачатку XIX ст. пры пабудове шматгранных гумнаў (стадол). Канструкцыя рубілася гэтак жа, як і зруб, але з танчэйшых бярвенняў і са значнымі (ад 20 да 40 см) прамежкамі паміж імі. Кожны верхні вянок рабіўся меншым за ніжні, у выніку апорная сістэма паступова звужвалася кверху, утвараючы чатырохгранную аснову так званай шатровай страхі.

**Каркасная** канструкцыя прайшла складаны шлях эвалюцыі ад страхі на сохах да страхі на крокваx з латамі. Нягледзячы на тое што кроквенная тэхніка перакрыцця стала цяпер, асабліва ў жыллёвым будаўніцтве, пануючай, яшчэ дагэтуль шырока бытуе і такая каркасная канструкцыя страхі, як перакрыццё на стаяках (на сошках, на дзядках, на козлах, на крыжах, на чапёлках, на круччах, на ключах). Так, напрыклад, у шмат якіх вёсках Жарабковіцкага сельсавета Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобл. першая хата са страхой на кроквах пабудавана толькі ў 1928 г., таму тут яшчэ многа пабудоў са страхой на стаяках.

Каркасная канструкцыя мае падтыпы:

— сошная (страха на сохах). Увесь цяжар пакрыцця размяркоўваецца паміж сволакам (пераводзіна), пакладзеным уздоўж будынка ў рагулькі сох, і сценамі, на якія абапіраюцца ніжнія канцы ключоў (чапёлкі, крučча);

— на сошках (на стаяках, на крыжах, на чапёлках, на дзядках, на ключах) генетычна звязана з сошнай канструкцыяй. Тут замест сох выкарыстаны




Канструкцыйныя элементы страхі: 1 — вільчак, 2 — паўзіны, 3 — ветраніцы, 4 — вільчык, 5 — адліў, 6 — латы, 7 — шчыт




Вокны: а — валакавое, б — з шасцю балонкамі і адной аканіцай, в — з трыма балонкамі і дзвюма аканіцамі



Дзверы



Ганкі




Спосабы ўкладвання дошак столі: а — уразбежку, б — унакладку, в — упрытык, г — упрытык з запускам у паз

сошкі, казлы або стаякі, пастаўленыя на папярочныя бэлькі;

— на кроквах. Распаўсюджаная цяпер канструкцыя. Яе асобныя элементы — кроквы і латы. Колькасць кроквaў залежыць ад даўжыні будынка. Латы прывязвалі да кроквaў распаранымі лазовымі або бярозавымі дубцамі (перавіццё, віткі, клібы) ці саламянымі жгутамі (прывязіны, вывязкі).

У вясковым будаўніцтве вядомы наступныя **спосабы ўрубкі кроквaў**:

— у бервяно верхняга вянка зруба. Кроквы запускаюць у выразаныя гнёзды і расклiньваюць;

— у бервяно верхняга вянка і ў бервяно, пакладзенае за 30—40 см ад унутранай плоскасці сцяны (адступнае, ашлопнае, застрэшнае, закоцвіна, мурлата, бурлата);

— у бервяно, умацаванае ўздоўж падоўжнай сцяны на выпушчаных за яе знешнюю плоскасць канцах папярэчных бэлек;

— у папярочныя бэлькі (у бушмак, у пяту), канцы якіх выступаюць за сцены;

— у папярочныя бэлькі, канцы якіх не выступаюць за сцены.

Асноўным традыцыйным матэрыялам **пакрыцця** ў вясковым будаўніцтве былі салома, чарот і дрэва. Чарапіца і бляха з прычыны дарагоўлі выкарыстоўваліся да нядаўняга часу рэдка. Цяпер вялікім попытам карыстаецца шыфер, другое месца належыць драўляным відам пакрыцця, саламяныя стрэхі засталіся толькі на старых гаспадарчых будынках, ды дзе-нідзе яшчэ можна сустрэць хату пад саломай

**Дранка** (драць, драніца, дор) — тонкія дошчачкі, якія дралі з калод разаком уручную або коньмі. Доўгая драць — тое ж самае, што і дранка, толькі даўжэйшая ў два-тры разы. Ёю

таксама абшывалі вароты, гарадзілі плот (штыкетнік) і г. д.

**Шчапа** (стружка) — блізкі да дранкі від пакрыцця, але больш тонкі і гнуткі.

**Гонта** — невялікія сасновыя або асінавыя дошчачкі, завостраныя з аднаго і з пазам з другога краю.

**Дошкі** (тарчыцы) шырока выкарыстоўваліся для пакрыцця стрэх на Усходнім Палессі. Дошкамі крылі хаты ў адзін або два прагоны, укладваючы іх унакладку. Для верхняга, накладачнага раду часам ужывалі аполкі, паўкруглай паверхняй уверх.

Салома як асобны від пакрыцця была вядома на Беларусі паўсюдна, чарот — галоўным чынам на Палессі. Вядомы тры спосабы пакрыцця саломай:

— разасланымі кулямі камлём уверх (пад колас);

— разасланымі кулямі камлём уніз (пад стрыхарку, пад стрыхоўку, пад лапату, пад бому, пад грэбень). Пры гэтым спосабе салому раўнялі стрыхаркай — драўлянай шчоткай;

— звязанымі загадзя снопікамі (паркамі), якія ўкладвалі шчыльна, звязваючы іх паміж сабою і з латамі лазовым перавіццём. Гэты спосаб абмежаваны тэрыторыяй Заходняга Палесся, сустракаецца галоўным чынам там, дзе бытуе вугал у каню;

— чаротавае пакрыццё па тэхніцы не адрозніваецца ад саламянага, часта пад пласт чароту падкладваюць саламяную падсцілку.

**Вільчык** — грэбень, месца злучэння плоскасцяў абодвух схілаў страхі. На ўсім працягу ад франтона да франтона вільчык абкладваўся кастрыцай, абмазваўся глінай і накрываўся зверху дзвюма збітымі накшталт карыта дошкамі.

**Паўзіны** (казлы, пазаддзе) — злучаныя калкамі жэрдачкі або звязаныя вершалінамі маладыя бярозкі, перакінутыя цераз вільчык на схілы страхі. Раз-




Франтоны: а — лазовы, б, в, г, д, е — дашчаныя



Дэкаратыўнае аздабленне акон




Вільчыкі: а, г — адзінарныя, б, в — падвойныя



Дэкаратыўнае аздабленне ветраніц і карнізаў

меркаваныя раўнамерна, яны прыціскаюць саламянае пакрыццё, папярэджваючы яго пашкоджанне ветрам.

**Падстрэшша** (падстрэшак) — прамежак ад ніжняга краю страхі да сцяны. Даволі часта, асабліва на захадзе рэспублікі, навіслы край страхі абапіраецца на слупкі. Падстрэшша засцерагае сцены ад дажджу, выкарыстоўваецца для захоўвання дроў і сельскагаспадарчых прыладаў.

**Капёж** — ніжні край страхі.

**Ветраніцы** (ветравыя дошкі, апухі, закрыліны) — дошкі, якія прыкрываюць тарцы схілаў саламяных стрэх. У некаторых мясцовасцях цераз іх прапускаюць канцы лат.

**Вільчык**—верхнія скрыжаваныя канцы ветраніц, звычайна дэкаратыўна аформленыя ў выглядзе рагоў, конскіх галоў і іншых выяў жывёльнага ці расліннага свету.

**Адліў** (казырок) — вузкі на ўсю шырыню хаты застрэшак, які навісае над тарцовай сцяной, засцерагаючы яе, як падстрэшак падоўжныя сцены, ад атмасферных ападкаў.

**Франтон** (шчыт, зашчытак) — трохкутная частка будынка, абмежаваная двухсхільнай страхой і верхнім бервяном тарцовай сцяны. Франтоны зашываліся саломай, дошкамі, дорам, расшчэпленымі бярвеннямі, аполкамі, цяпер — дошкай-шалёўкай. Часам франтон падзяляўся на дзве роўныя часткі вертыкальнай шулай. У цэнтры прарэзвалася акенца.

Вокны развіліся ў вясковым дойлідстве з вентыляцыйна-светлавой адтуліны. Пасля далучэння да яе драўлянай засаўкі ўзнікае прататып сучаснага акна—валакавое акно. Па сутнасці гэта яшчэ не акно, а адтуліна з засаўкай, але яна ўжо дазваляла рэгуляваць паступленне ў памяшканне святла і паветра.

Сучаснае акно, якое ўзнікла на мяжы XIII—XIV стст., складаецца з каробкі (шуфляда), якая акаймоўвае пра-

рублены ў сцяне ваконны праём, рамы на тры — чатыры — шэсць шыбак (балонак), ліштваў, што прыкрываюць асадачныя пазы, і падаконніка. Характэрнай асаблівасцю традыцыйна беларускага жытла была наяўнасць трох акон: адно ў тарцовай і два ў падоўжнай сцяне, якая выходзіла на двор. Чацвёртае акно ў глухой сцяне праразалася толькі ў некаторых раёнах Беларусі. Часта вокны мелі адну ці дзве аканіцы. Там, дзе іх не было, вокны да з'яўлення дубальтаў прыкрывалі зімою саламянымі матамі.

Дзверы маюць канструкцыйна-функцыянальныя элементы: вушакі, прыталака, парог, ліштвы і дзвярное палатно з клямкай, замком і завесамі.

Звычайна дзвярную створку рабілі з трох-чатырох абгабляваных дошак, злучаных шпонамі — драўлянымі планкамі, шчыльна забітымі ў пазы. Раней дзверы ў сялянскіх хатах не ўпрыгожваліся. Адзіным элементам аздобы былі падоўжныя жалабкі, выразаныя ўздоўж абодвух краёў дзвярных ліштваў.

Сучасная гарызантальная столь (столь, сталяванне, суфіт, пацёс, пакот) развілася са скляпеністай столі, форма якой была абумоўлена сошнай і стажковай апорнай канструкцыяй страхі.

Паводле размяшчэння бэлек столь бывае:

— на дзвюх падоўжных бэльках;
— на траме або траме і адной ці дзвюх папярочных бэльках (крыжавіна);
— на папярочных бэльках.

Канец трама выступаў за знешнюю плоскасць тарцовай сцяны і фігурна апрацоўваўся.

Стальнічыны маглі быць з абчэсаных дошак, плахаў і аполкаў, яны насціламіся ўразбежку, унакладку, упрытык.

Прамежкі паміж дошкамі пры першым і шчыліны паміж імі пры другім спосабе прыкрыты, як правіла, аполкамі, неабрэзаным бокам уверх. Адным з варыянтаў спосабу ўпрытык з'яўляецца запуск дошак у выдзеўбаныя наўсцяж бэлек пазы.

У народным дойлідстве з даўніх часоў паралельна бытавалі тры тыпы падлогі:

— земляная;
— глінабітная;
— драўляная.

Земляная і глінабітная падлога (ток, тачок) на першым этапе будаўніцтва рабілася аднолькава: у сярэдзіну зруба да ўзроўню другога вянка насыпалі і добра ўтрамбоўвалі зямлю. Глінабітную падлогу залівалі дадаткова да ўсяго растворам гліны і старанна загладжвалі. У асобных раёнах Заходняга Палесся такую падлогу яшчэ паліравалі сумессю гліны з рачным глеем.

Драўляная падлога (мост, памост) насцілалася на папярочныя лягары (падмоснікі, шлігавіны, пляніцы) з дошак (маснічыны, масніцы), аполкамі гладкай паверхняй уверх або ачэсанымі жэрдкамі. Падлогу з жэрдак звычайна рабілі ў сенцах і каморы.

**Ганак** — прыбудова з прыступкамі, апорнымі слупкамі, адна- або двухсхільнай страхой, а часам з парэнчамі і балюстрадай. Да сярэдзіны XIX ст. для сялянскага жытла ганак як элемент хаты не быў тыповы. Звычайна над уваходам рабілі невялікі казырок, а ля парога клалі камень або калоду з двума-трыма вырубленымі прыступкамі.

Сучасны ганак у вясковым дойлідстве пачаў шырока распаўсюджвацца ў пачатку XX ст., але пратрымаўся нядоўга, бо неўзабаве на змену яму прыйшла веранда.

Для беларускага народнага дойлідства характэрна стрыманае, нават сціплае дэкаратыўнае аздабленне жылых пабудоў. Майстар галоўную ўвагу надаваў кампазіцыі будынка і ла-




Планіроўка хлявоў: а — план свінінца (1 — зруб, 2—загародка для выгулу свіней), б—план хлява (3 — катухі, 4 — ток), в — план хлява вяночна-слупавой канструкцыі, г — малюнак і план прыбудаванага да хаты хлява (3 — катухі, 5 — хата, 6 — сенцы)

гічнасці яго аб'ёмаў. Асноўную мастацкую нагрузку неслі вільчак, франтон і вокны.

У дэкоры жытла выкарыстоўваліся тры асноўныя групы арнаментальных матываў: матывы нябесных цел, фауны і флоры, а таксама разнастайных геаметрычных абстрактных формаў.

Упрыгожанне франтона дасягалася галоўным чынам мастацкай укладкай шалёўкі: ялінкай, ромбамі, наўскасяк і г. д.; рознымі разеткамі, а сярод іх найбольш распаўсюджана сонца з прамянямі.

У вокнах асноўную мастацкую нагрузку несла верхняя ліштва, якая часта мела выгляд сандрыка. Бакавыя ліштвы (луткі) апрацоўваліся больш стрымана, у асноўным паўавальнымі лініямі неглыбокіх жалабкоў, якія выбіраліся гэблікам. Ніжняя ліштва часцей за ўсё абразалася па ніжнім краі хвалістай лініяй з невялікімі закругленнямі.

З усіх відаў разьбы для беларускага арнаменту характэрны прапіловачная, гарадковая і ажурная. Глухая ў вясковым дойлідстве амаль не сустракалася.

Найбольш старажытным відам аздаблення з'яўляецца фігурная апрацоўка скрыжаваных уверсе ветраніц, канцы якіх утваралі вільчак. Ім надавалі форму стылізаваных бычыных рагоў або конскіх галоў, якія глядзелі ў супрацьлеглыя бакі. Вільчакі былі адзінарныя або падвойныя.

Ветраніцы і карніз у вясковым жыллёвым будаўніцтве ўпрыгожваліся радзей, звычайна гарадковым арнаментам (шматступенныя выразкі па краі дошкі або чаргаванне зубчыкаў з круглымі і трохвугольнымі адтулінамі).

Акрамя хаты, на сялянскай сядзібе знаходзіліся гаспадарчыя пабудовы (для жывёлы, захоўвання прадуктаў, сельскагаспадарчага інвентару, прыладаў апрацоўкі сыравіны і г. д.).

**Хлеў** — асноўная і самая распаўсюджаная гаспадарчая пабудова. У залеж-

насці ад прызначэння хлявы мелі назвы: кароўнік, аўчарня, стайня, свінінец (свінушнік, свінарнік), куратнік, вазоўня, дрывотня і г. д.

Хлявы ставілі ўпрытык адзін да аднаго, з невялікімі прамежкамі паміж імі або асобна. У першым выпадку акрамя знадворных былі ўнутраныя дзверы, праз якія можна было, не выходзячы на двор, а то і проста з сенцаў, прайсці ў любы хлеў.

Часта да адной са сцен хлява прыбудоўвалі трохсценныя хлевушкі з аднасхільнай страхой.

Хоць і рэдка, але яшчэ бытуюць хлявы, якія аддзелены ад хаты агульнай падоўжнай сцяной. Або хлеў стаіць шчыльна да падоўжнай сцяны хаты, пад адной страхой.

У бяднейшых сялян уся жывёла ўтрымлівалася ў адным хляве, у катухах — загародках з жэрдак або дошак. У паўночна-ўсходніх раёнах Беларусі ў сярэдзіне хлява рубілі з тонкага кругляка невялікія квадратныя пабудовы, дзе зімою трымалі авечак або парасят.

Хлявы, як правіла, маюць камбінаваную вяночна-слупавую канструкцыю, пры якой рубленыя вуглы спалучаюцца з шуламі на прагонах сцен.

У кароўніках, стайнях насцілаюць на бэлькі жэрдкі, якія ўтвараюць вышкі для захоўвання сена, саломы або вішы.

**Гумно** (клуня, стадола, ток, рыга) — гаспадарчая пабудова для захоўвання, прасушкі і малацьбы збажыны. Па форме бываюць чатырохвугольныя (квадратныя або прамавугольныя ў плане), а таксама шматгранныя. Першыя маюць вяночна-слупавую канструкцыю, другія — вяночную.

Апорная канструкцыя страхі чатырохвугольных гумнаў магла быць адной з трох:

— на сохах,



Гумны



— на сошках (крыжах, ключах, дзядках),

— на кроквах,

а шматгранных, асабліва сямі- і васьмісценных:

— на сохах,

— стажковая.

Зруб гумна не імшыўся, бярвенні не падганяліся шчыльна адзін да аднаго. Шчыліны забяспечвалі цыркуляцыю паветра, што паскарала сушку неабмалочаных снапоў.

У цэнтры гумна, звычайна паміж сох, знаходзіўся ток (такаўня) — глінабітная пляцоўка для малацьбы. Часткі гумна абапал тока, адгароджаныя прыстаронкам — сценкаю ў два-тры бервяны, утваралі стораны (застаронкі); частка каля супрацьлеглай ад дзвярэй сцяны — супрацівак. Стораны ў сваю чаргу разгароджваліся прыстаронкамі на гевіры (клады, кішэні).

У паўночна-ўсходніх раёнах снапы перад малацьбой сушылі ў сушнях — еўнях або асецях, якія рубіліся з кругляка ў сярэдзіне гумна; асеці ставілі і за гумном. На Палессі снапы малацілі сырамалотам.

**Свіран** (свіронак, клець, лямус) — халодная без акон пабудова для захоўвання збожжа, адзення і інш. Канструкцыя страхі закотам, сволакі (закоцвіны) укладвалі шчыльна адзін да аднаго або — радзей — з невялікімі прамежкамі.

Асаблівасцю многіх свірнаў быў навес над дзвярамі, умацаваны на правілах — выпушчаных двух-трох верхніх бярвеннях зруба або абапёрты на два-чатыры слупкі. Перад уваходам насцілалі драўляны прыклетнік — пляцоўку на ўсю шырыню свірна.

У плане (прыкладна 5×6 кв. м) свірны набліжаліся да квадрата.

Двух'ярусныя свірны мелі галерэю і называліся лямусамі. Яны больш харак-

Свірны

тэрны для шляхецкіх двароў. Падлога — насціл з тоўстых бярвенняў, абмазаных сумессю гліны з каляніцай — адпрацаваным дзёгцем. У сярэдзіне свірны разгароджваліся засекамі для зерня.

**Варыўня** (вароўня, стопка, сцёбка) — пабудова для захоўвання гародніны і малочных прадуктаў. Канструкцыя зруба вяночная або вяночна-слупавая. Каля дзвярэй прарубалася невялікая светлавая адтуліна.

Варыўню зімой абагравалі печкай-каменкай, або, што было часцей, вуголлем, якое ставілі на ноч у вядры.

Варыўня, нягледзячы на тое, што яе паступова выціскае пограб, даволі шырока распаўсюджана дагэтуль.

**Склеп** (пограб, лёх, поргаб) — пабудова для захоўвання бульбы, гародніны. Ад варыўні адрозніваецца наяўнасцю ямы, абшытай бярвеннямі, дошкамі або абмураванай цэглай ці каменнем. Зверху яна прыкрыта паграбнёй — двухсхільнай страхой на сохах, а калі абшыўка ямы выступае на некалькі бярвенняў над зямлёю,— на кроквах.

Калі яма пограба перакрыта гарызантальным насцілам, у ім робіцца люк, калі насціла няма — другія дзверы. Прамежак паміж знадворнымі і ўнутранымі дзвярмі ўтварае прыгрэбіцу — невялікі тамбур.

**Лазня** — аднакамерная або двухкамерная рубленая пабудова з двух-, трох- або чатырохсхільнай страхой. Раней лазні апальваліся печкай-каменкай без коміна, ваду награвалі напаленымі да чырвані камянямі, якія кідалі ў бочку. Такія лазні яшчэ бытуюць у Краснапольскім раёне, але найбольш распаўсюджаны двухкамерны тып з асобнымі парняй (мыльня) і прымыльнікам (прылазнік). У падлозе пакідаюць шчыліны для сцёку вады. Уздоўж сцен — лаўкі, каля печкі з умураваным катлом — палок для парэння. У некаторых раёнах Магілёўшчыны прымыльнікі плятуць з




Варыўня (а), паграбы (б, в, г)




Лазні (1 — мыльня, 2 — прымыльнік)

лазы, далучаючы іх да рубленай мыльні пры дапамозе сох.

З'яўляючыся санітарна-гігіенічным будынкам, лазні выкарыстоўваюцца і для мыцця бялізны.

**Куратнік** — невялікая рубленая, прамавугольная ў плане, пабудова для курэй. Страха можа быць любой формы, матэрыял пакрыцця — салома, дор, стружка, гонта. У адной са сцен, звычайна ля дзвярэй, невялікае акенца. На Магілёўшчыне і Віцебшчыне, дзе больш халодныя зімы, куратнікі тынкуюць і беляць.

На Падняпроўі сустракаюцца куратнікі ў выглядзе шатровай страхі, умацаванай на слупе. Пад парасонам страхі — седала, куды куры залазяць па драбінах.



Куратнікі

**Імшанік** — рубленае імшанае памяшканне, прамавугольнае ў плане, для зімоўкі пчол. Ва ўсходніх раёнах Палесся пчол на зіму пераносяць у мурню — пабудову з плеценымі і абмазанымі глінай сценамі.

Вуллі ставяць на папярочныя лягары, урубленыя ў сцены на вышыні 30—50 см ад падлогі.

Пералік гаспадарчых пабудоў можна працягваць далей, але ў гэтым няма неабходнасці. Ведаючы канструкцыйна-тэхнічныя асаблівасці апісаных вышэй асноўных будынкаў, лёгка скласці планы павеці, вазоўні, дрывотні, сенніцы і інш.

Знадворныя сцены абазначаюцца суцэльнай лініяй, унутраныя перагародкі (катухі, засекі) з дошак або жэрдак — пункцірнай. У месцы размяшчэння акон і дзвярэй у лініі робіцца разрыў, а іх памеры пазначаюцца ў дужках пад планам (вокны — 0,85×0,58 см; дзверы — 1,10×0,92 см). Агульны памер будынка ўказваецца побач з планам (6,5×12 м).



Мурня

В ы т в о р ч ы я  п а б у д о в ы служылі для першаснай апрацоўкі сельскагаспадарчай сыравіны, вырабу і рамонту прыладаў працы.

**Млын**— пабудова з размешчанымі ў ёй механізмамі для размолу зерня на розныя гатункі мукі, круп і на корм для свойскай жывёлы. Механічная энергія вады і ветру, якая прыводзіла ў рух млыны, выкарыстоўвалася і для часання воўны і вырабу сукна.

**Ветракі** канструкцыйна падзяляюцца на два тыпы: слупавыя, або казлоўкі, і шатровыя. Аснова казловых — восевы слуп, вакол якога паварочваецца корпус млына. Восевы слуп мацаваўся на казлах — крыжавіне. На паўночным захадзе Беларусі млыны гэтага тыпу невя-




Ветракі: а — сядзібны, б — слупавы, в — шатровы



Вадзяныя млыны

лікія (5—6 м вышынёй). Казлоўкі звычайна мелі квадратны план і завяршаліся двухсхільнай страхой з невялікім лабяком.

У адрозненне ад казловых у шатровых ветраках вакол восі паварочваецца разам з крыламі толькі верхняя частка — шацёр. Яны маюць значна большыя памеры і васьмігранную рубленую (6—8 бярвенняў) аснову.

Архітэктурны вобраз ветрака складаюць гарманічнасць прапорцый і выразнасць сілуэта, які ўзбагачаецца, асабліва ў шатровых млынах, нахілам да восі ўсіх граней корпуса.

Ветракі ставілі на адкрытым узгорку. Хатнія ветракі, якія забяспечвалі патрэбы адной сям'і, стаялі на сядзібе.

**Вадзяныя млыны** па месцу размяшчэння былі берагавыя і наплаўныя. Апошнія на плытах перамяшчаліся па рацэ.



Вяндлярня



Агульны выгляд і план кузні: 1 — горан з мехам, 2 — кавадла, 3 — варштат, 4 — цэбар (карыта), 5 — горан

Рубілі вадзяныя млыны часцей за ўсё з бруса, у адзін або два паверхі, і абсталёўвалі пад'ёмнай клецццю на вораце. Жорны прыводзіліся ў рух пры дапамозе млынавога кола ніжняга або верхняга боя. Апошняе адрозненне вызначала канструкцыйнае вырашэнне кола і ўсяго механізма млына, а таксама памеры плаціны.

**Конныя млыны** прыводзіліся ў рух коньмі або валамі. На поўначы Беларусі іх звычайна манціравалі ў сярэдзіне гумна, а на Палессі і Панямонні — побач з ім у асобным памяшканні з шатровай страхой.

**Вяндлярня** — пабудова для вэнджання мясных прадуктаў, сала і рыбы. Вядомы некалькі тыпаў, найбольш распаўсюджаны вежавыя збудаванні з шатровай страхой. Для канструкцый вяндлярняў характэрна старраннае дапасаванне элементаў адзін да аднаго. Гэтым дасягалася папярэджанне страты дыму. Толькі ўверсе для яго выхаду праразаліся адтуліны. Прадукты падвешваліся на жэрдках. У якасці палiва выкарыстоўвалі дровы лісцевых парод, тырсу і ядловец.

**Кузня** — невялікая зрубная пабудова з двухсхільнай дашчанай страхой, невысокімі сценамі, нізкімі шырокімі дзвярмі і малым акенцам. Найбольш распаўсюджаны памер кузні 4×5 м пры вышыні да 3 м. Раней кузні будавалі на схілах пагоркаў, стромкіх берагах рэк, уразаючы тры сцяны зруба амаль да страхі ў зямлю. На роўнай мясцовасці сцены прысыпалі зямлёю. Кузні ставілі звычайна воддаль ад пабудоў і, як правіла, побач з вадою.

У звычайных вясковых кузнях усе працэсы кавання былі заснаваны на ручной працы, а ў кузнях, якія ўваходзілі ў склад рудняў, кавальскія мяхі і молат прыводзіліся ў рух вадою. З заняпадам мясцовай вытворчасці жалеза з балотнай руды рудні спынілі існаванне ў другой палове XIX ст.




Карчма: а, б — агульны выгляд і план карчмы з цэнтральнай планіроўкай, в — план карчмы з бакавой планіроўкай (1 — шынок, 2 — кухня, 3 — пакоі адпачынку, 4 — стайні, 5 — камора, 6 — пакой карчмара)

**Карчма** мела шырокае распаўсюджанне ў мінулым. Корчмы будавалі на скрыжаваннях дарог, ля ўезду ў вёску, на рыначных плошчах, а на Палессі, у прыватнасці на Прыпяці,— на беразе.

Асноўная асаблівасць карчмы — спалучэнне ў адным комплексе памяшканняў рознага функцыянальнага прызначэння — пакояў для пастаяльцаў, жытла гаспадара або арандатара, стайні і ўласна карчмы — грамадскага памяшкання, дзе мог адпачыць падарожны, дзе адбываліся сходы жыхароў вёскі.

Вядомы два планіровачныя тыпы корчмаў:

— з бакавой прыбудовай стайні да жытла, пры гэтым будынак накрыты двухсхільнай страхой;

— з цэнтральнай прыбудовай стайні са двара. У такіх корчмах, з так званым Т-падобным планам, сенцы дзялілі жылую частку на дзве роўныя палавіны і ў іх быў скразны праезд у стайню.

Паняцце «*малыя архітэктурныя формы*» ўключае ўсе невялікія




Калодзежы: а — з жураўлём, б, в, г — з калаўротам (1 — зруб, 2 — саха, 3 — жэрдка з вочапам, 4 — вядро, 5 — супрацьвага, 6 — жураўель)

збудаванні рознага гаспадарчага прызначэння.

**Студня** (калодзеж) — умацаваная зрубам яма, выкапаная да ваданосных пластоў і абсталяваная пад'ёмным механізмам.

Паводле матэрыялу студні падзяляюцца на драўляныя і цэментавыя. Драўляныя бываюць зрубнымі і кайдубнымі. Студні-кайдубы, у якія замест зрубнай абшыўкі ў шахту апушчаны выдзеўбаны ствол дуба,— найбольш старажытны тып калодзежа.

Па спосабу чэрпання адрозніваюць тры разнавіднасці студняў:

— без пад'ёмнага прыстасавання. Ваду дастаюць жэрдкай з крукам на ніжнім канцы;

— з калаўротам (кацярынкай);

— з жураўлём.

Наземнае абсталяванне калодзежаў афармляецца па-рознаму. Вакол робіцца замок — утрамбаваны пояс з гліны. Яго прызначэнне — папярэджванне сцякання ў калодзеж забруджанай і дажджавой вады.

Усе віды агароджы маюць дзве функцыі: ахоўную (бароняць пасевы ад шкоднікаў) і прававую (вызначаюць межы сядзібы і поля). Існуе шмат тыпаў платоў. Выкарыстанне іх вызначаецца прызначэннем, месцам знаходжання агароджы, характарам наяўнага мясцовага матэрыялу і традыцыямі. На тып агароджы ўплывае і планіроўка сядзібы: у вяночных (круглых) дварах плот моцны (паркан з бярвенняў), у адкрытых — лёгкі (штыкетнік, вертыкальны пляцень або частакол).

**Жардзяным плотам** агароджвалі сядзібу з боку поля або лесу, асобныя ўчасткі і дзялянкі палетка, а таксама стойла для жывёлы.




Платы: а — жардзяны, б — частакол прамы, в — частакол касы, г — паркан, д — дашчаны, е — штакетнік




Плятні: а — гарызантальныя, б — вертыкальныя

**Частакол** — штыкетнік з пілаваных штыкецін або дору і ўсе віды плеценых платоў (гарызантальных і вертыкальных) служылі для агароджвання сядзібы з боку вуліцы і двара або агарода.

Існуе тры віды плеценых платоў, якія адрозніваюцца тэхнікай пляцення і фактурай паверхні.

У адным выпадку дубцы авіваюць кожную вертыкальную тычку, у другім тоўстыя лазовыя або бярозавыя жгуты (даўжынёю па некалькі метраў) прывязваюць асобным дубцом, які, бы расцягнутая спружына, ахоплівае і жгут, і тычку, у трэцім — вертыкальныя тычкі аплятаюцца толькі зверху.

**Паркан** (баркан, замёт) — глухі плот з бярвенняў, закінутых у шулы. Самастойна выкарыстоўваўся рэдка, часцей у сістэме забудовы вяночных двароў.

**Брамы** і **вароты** будаваліся звычайна ў комплексе з каліткай (форткай). Аснову брамы складаюць дубовыя, часам да трох метраў, вушакі, злучаныя ўверсе накшталт літары «П» такім жа масіўным бервяном. Пры наяўнасці каліткі ставілі трэці вушак. На вушаках падвешваліся адна- або двухстворкавыя вароты і калітка. Вянчала браму двухсхільная саламяная або драўляная стрэшка. Форма брам, іх памеры і дэкаратыўнае аздабленне надзвычай разнастайныя.

Брамы, як і вароты без вушакоў, былі глухімі і кратаванымі. Акрамя галоўнага ўезду ў двор з вуліцы, на сядзібе маглі быць вароты для праезду на загуменне. Звычайна гэта лёгкая, з гарызантальных жэрдак рама на лазовых ці вяровачных петлях. Шмат хто з сялян абмяжоўваўся разборным пралётам жардзянога плоту. Для праходу са двара на агарод або ў сад рабіліся веснічкі (лёгкая кратаваная калітка) або пералазчык.

Брамы і платы арганізуюць забудову сядзібы і яе асобныя часткі (падворак, агарод, сад, прыгуменне) у адзін самастойны структурна-планіровачны і



Брамы



Вароты.




Планы сядзіб: 1 — палісаднікі, 2 — хаты, 3 — свірны, 4 — стайні, 5 — кароўнікі, 6 — свінінцы, 7 — павець, 8 — вазоўня, 9 — аўчарні, 10 — гумны.

гаспадарчы комплекс вёскі, надаюць сядзібе кампазіцыйна-прасторавую завершанасць. Таму пры апісанні сядзібы неабходна абавязкова адзначыць усе віды агароджы, коратка апісаць браму, а калі яе няма, вароты. Функцыянальнае прызначэнне будынка заўсёды абумоўлівала яго канструкцыйна-кампазіцыйныя асаблівасці.

Беларускае народнае жыллё.— Мн., 1973; Гурков В. С., Терехин С. Ф. Музей народного зодчества и быта.— Строительство и архитектура Белоруссии, 1978, № 1; Гурков В. С., Терехин С. Ф. К вопросу о создании в Белоруссии музея под открытым небом.— У кн.: Вопросы этнографии и фольклористики.— Мн., 1979.

Дадатак

## ПАШПАРТНЫЯ ЗВЕСТКІ

1. Населены пункт, сельсавет, раён, вобласць *в. Лясок, Вярховіцкі с/с, Камянецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

(Па магчымасці адзначыць размяшчэнне вёскі паводле дарэвалюцыйнага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу: воласць, павет, губерня).

2. Гаспадар пабудовы *Раковіч Пётр Пракопавіч*

3. Пабудова *Свіран*

4. Мясцовая назва пабудовы *Шпіхер*

5. Дата пабудовы *1921 г.*

6. Будаўнікі *Мясцовыя сяляне: Якавук А. і Сацук М.*

7. Перавозка, перабудова, дабудова *У 1975 г. саламянае пакрыццё заменена шыферам, у 1976 г. да свірна прыбудавана паветка з аднасхільнай стрэшкай для захоўвання дроў.*

Скласці схематычны план сядзібы, паказаўшы месца размяшчэння сярод забудовы двара свірна. Адзначыць вастрыём стрэлкі поўнач і поўдзень, вызначыўшы бакі свету па компасу або сонцу.

### Канструкцыйна-будаўнічая характарыстыка

1. Фундамент *Зруб стаіць на рагавіках — чатырох валунах, падкладзеных пад вуглы свірна.*

2. Вуглы *«У каню», на прагонах задняй і бакавых сцен — шулы.*

3. Матэрыял зруба *Хваёвыя дылі ў 4 цалі, падруба дубовая, у зрубе 12 вянкоў.*

4. Агульны размер будынка *Шырыня 4,5 м, даўжыня 6 м, вышыня 1,80 м.*

5. Памеры акон *Акон няма, справа ад дзвярэй светлавая адтуліна 0,25×0,15 м.*

6. Памеры дзвярэй *Адны дзверы з чатырох абгабляваных дошак, злучаных шпонамі, памер 0,87×1,15 м.*

7. Форма страхі *Чатырохсхільная з лабяком*

8. Апорная канструкцыя страхі *Кроквенная, кроквы ўрублены ў верхняе бервяно зруба.*

9. Пакрыццё *Шыфер, раней была накрыта саломай «звязанымі снапкамі». Пад час перакрыцця апорная канструкцыя страхі засталася ранейшай.*

10. Столь *Гарызантальная, на трох папярэчных бэльках, дошкі пакладзены ўразбежку.*

11. Падлога *Колатыя плахі, абмазана сумессю гліны з каляніцай.*

12. Ганак *Няма. Перад уваходам ляжыць пляскаты валун*

13. Дэкор *На ліштвах дзвярэй тры жалабкі, выразаныя ўздоўж вонкавага краю.*

Прозвішча, імя і імя па бацьку краязнаўца *Івановіч Іван Іванавіч*

*Дата* *Подпіс краязнаўца*

# ІНТЭР'ЕР ЖЫЛЛЯ І ПАДСОБНЫХ ПАМЯШКАННЯЎ



Інтэр'ер традыцыйнай сялянскай хаты вызначала пэўная паслядоўнасць і кампазіцыйная ўзаемасувязь паміж асобнымі часткамі, печчу, хатняй мэбляй, прадметамі паўсядзённага ўжытку. У больш старажытным выглядзе для сялянскай хаты былі характэрны слабая функцыянальная размежаванасць унутранага памяшкання, скляпеністая форма столі, наяўнасць з нізкай пасадкай печы і дамініраванне стацыянарных прадметаў, якія замянялі мэблю (лавы, палаці, закапаная ў зямлю каля печы калода, дзе секлі лучыну, і інш.).

**Курная хата** — зрубнае збудаванне, прамавугольнае, а нярэдка квадратнае ў плане з глінабітнай ці земляной падлогай і адносна высокай столлю. Шырока бытавала яшчэ ў 60—70-х гадах XIX ст.

У столі, амаль пасярэдзіне хаты, быў верхнік — адтуліна для дыму, якая закрывалася зверху драўлянай крышкай або мяшком, напханым сенам. На гэтым месцы ў некаторых выпадках рабілася драўляная труба.

У хаце тры невялікія валакавыя аконцы, якія зачыняліся знутры драўлянымі засаўкамі. Яны былі зроблены ў двух суседніх вянцах зруба і не мелі касякоў. Нізкія дзверы (сярэднія памеры 150×100 см) паварочваліся ў драўляных гнёздах («на бегунах»).

Справа (радзей злева) ад дзвярэй глінабітная печ на слупавой аснове, якая займала прыблізна пятую частку ўсяго памяшкання. Каля печы, побач з парогам, размяшчаўся качарэжнік, дзе стаялі вілкі (рагач, ухват), драўляная качарга (кавеня), чапяла (чапёлка, чаплайка, ёмка), мятла і інш. Каля вугла печы, звернутага ўнутр памяшкання,— канёвы стоўб (конь), які служыў апорай для спальнага памосту, папярочных жэрдак (шост, перасоўка), палічкі.

Частку памяшкання ад печы да тарцовай (кутняй) сцяны займаў спальны памост — пол. На палу ляжалі напханы сенам матрас (сяннік), падушкі, посцілкі; у вуглу стаяў кубел з адзеннем. Вышэй, на ўзроўні верхняй пляцоўкі печы (лежака), быў больш вузкі памост — палаці (палаткі), дзе звычайна спалі старыя людзі. Каля краю пола падвешвалася калыска. Месца пад полам (падполле) нярэдка перагароджвалася на два адсекі: тут захоўвалася гародніна, некаторыя прадметы ўжытку, старыя рэчы і інш. Каля парога насупраць печы размяшчаўся гаспадарчы («бабін») кут.

Пад столлю ўздоўж сцен — грады, якія складаліся з двух паралельных бярвенняў невялікай таўшчыні, замацаваных канцамі ў сцяне. На градах ляжалі кудзелі, маткі нітак, лыка для лапцей, аўчыны, лучына і інш.

Ніжэй акон, амаль па ўсёй даўжыні сцен стаялі шырокія лавы. Над лавамі

ў сцяне былі пракручаны гнёзды, куды ўстаўляліся калкі; на іх снавалі пражу для красён.

На скрыжаванні лаў у красным куце знаходзілася хлебная дзяжа. Красны кут (покуць) — самае шаноўнае месца ў хаце. Тут каля лаў стаяў стол, засланы абрусам. Каля стала стаяў услон. На покуце віселі абразы, убраныя ўзорнымі ручнікамі — набожнікамі. Тут размяшчаліся таксама пучкі траў і жытніх каласоў, асвячоныя ў царкве.

У зімовы час сялянская хата ператваралася ў рамесную майстэрню. У доўгія зімовыя вечары пры святле лучыны тут рабілі лыжкі і посуд, плялі лапці і кошыкі, пралі, ткалі, шылі адзенне. Ля кутняй сцяны ці бліжэй да парога паміж сталом і «бабіным кутом» ставіліся кросны ці больш архаічнай формы ткацкі стан — нарад.

**Хата беларускага селяніна-серадняка** (канец XIX ст.). Кампазіцыйны малюнак і расстаноўка прадметаў у хаце яшчэ захоўвалі традыцыйныя рысы, але адбыліся і змены. Пры ўваходзе, збоку, размяшчалася печ. У апошнія дзесяцігоддзі XIX ст. у сялянскім жыллі паўсямесна пераважалі печы з комінам. На гарышчы дымаход нярэдка ўяўляў трубу, якая абмазвалася знутры глінай. Памяшканне стала больш светлым, павялічаны былі аконныя праёмы, вокны мелі падаконнік, касякі і раму. Зімою на ноч яны ўцяпляліся звонку саламянымі матамі.

Хаты мелі нярэдка драўляную падлогу (мост). Столь паўсюдна рабілася гарызантальнай, колатыя ці пілаваныя дошкі звычайна насціліся паверх бэлек двума радамі (уразбежку). Знізу бэлькі часам абапіраліся яшчэ на адзін брус — трам, які праходзіў пасярэдзіне ўздоўж хаты.

Устойлівым элементам інтэр'ера сялянскага жылля па-ранейшаму былі шырокія лавы. Аднак у некаторых выпадках яны ўкарочваліся ад тарцовай сцяны ці нават замяняліся шырокім услонам. Больш разнастайнай стала мэбля. Паступова зніклі палаці. Замест спальнага пола (ці разам з ім) сталі выкарыстоўвацца драўляныя ложкі. Ля кутняй сцяны звычайна ставіўся куфар, які замяняў традыцыйны кубел. Куфры (куфар, скрыня, сундук) адрозніваліся разнастайнасцю форм і дэкаратыўнага ўзору.

Інтэр'ер трохкамернага жылля ў тыпалагічным варыянце хата+хата+сенцы меў характэрныя рысы. Традыцый-




Покуць (а), печ з комінам (б)



Печ-каменка (а), курная печ (б)

ныя прадметы быту размяшчаліся тут у іншым парадку. У прыватнасці, печ і гаспадарчы вугал (разам з адпаведным начыннем) як бы адчляняліся ад асноўнага памяшкання — святліцы, дзе заставаўся традыцыйны красны кут, стаялі ложкі, шафа, куфар, услон, простыя крэслы.



Лучнікі

**Курная печ** рабілася з гліны на слупавой ці зрубнай аснове, не мела дымахода. Калі палілі, дым ішоў на хату. Зрубная аснова печы — апечча, ці апечак,— утварала свабодны прамежак — падпечча, дзе зімою трымалі курэй. У верхняй частцы апечак быў шырэйшы за печ, утвараючы пляцоўку — прыпечак (загнет). На прыпечку, збоку ад вусця печы, была ямка, куды зграбалі частку гарачага вуголля, закрываючы яго слоем попелу. У такім стане вугалі не згасалі больш як суткі і выкарыстоўваліся для розных гаспадарчых патрэб. У больш архаічным варыянце курная печ — каменка, якая да нядаўняга часу бытавала ў падсобных збудаваннях — лазнях і еўнях.

**Печ з дымаходам** («чыстая»). У першапачатковым выглядзе амаль не адрознівалася ад курнай печы, калі не лічыць дымаходнай трубы, якая навісала пірамідальным нізам над вусцем печы. У больш познім варыянце дымаход (комін) злучаўся з печчу ў адзінай канструкцыйнай форме. Уся печ (і комін) рабілася з цэглы.

Пераходная форма паміж двуманазванымі відамі — печ паўкурная. Яна мела дымаход, які сваім вусцем выходзіў у сенцы; пасля топкі адтуліна дымахода з боку сенцаў затыкалася ўстаўным цурбаном.

Да пачатку XX ст. сялянскія хаты асвятляліся пераважна лучынай. У святочныя дні па вечарах палілі сальныя і васковыя свечкі.

**Лучнік** (лучнік, лучыннік, стаячок, паніч, светач). У большасці выпадкаў гэта лёгкая пераносная стойка з жалезным зажымам, куды ўстаўлялася лучына. «Паніч», як правіла, меў у аснове больш масіўную калоду, на якой замацоўвалася невысокая стойка. Вядомы выпадкі, калі спецыяльны зажым для лучыны («бабка») замацоўваўся на сцяне ў адпаведным месцы. Нярэдка лучына затыкалася адным канцом у

адтуліну, зробленую з гэтай мэтай у вугле печы, або ў шчыліну сцяны.

**Лучнік падвясны** ўяўляў кароткую жэрдку з крукам на адным канцы і перакладзінай на другім. Крукам ён чапляўся за прыпечны шост ці брус столі. У папярочку на кожнім канцы былі ўбіты скобкі, якія мелі гнёзды для лучыны.

**Посвет** (светач, лучнік, каптур) — від стацыянарнага лучніка з дымаходам і падвешанай да яго знізу жалезнай рашоткай, дзе звычайна гарэў асмол. Дымаход, што звісаў са столі расшыраным конусападобным канцом, рабіўся з выдзеўбанага ствала дрэва або плёўся з лазы ці чароту і абмазваўся знутры глінай. У больш позні час посветы часта рабіліся з грубага палатна (каптур, мяшок), нярэдка з жалеза. Былі распаўсюджаны на ўсходзе Палесся і часткова ў цэнтральнай Беларусі.



Посветы, лучнік падвясны

**Стол.** Адрозніваўся разнастайнай формай. Канструкцыйнай апорай яго ў розных варыянтах з'яўляліся дзве стойкі, расшыраныя ў ніжняй частцы, або прамыя ці Х-падобныя ножкі. Апора ў выглядзе стоек была больш зручнай і практычнай у традыцыйнай сялянскай хаце з земляной падлогай.

**Услон** (слон, слонец, зэдаль, лаўка) стаяў звычайна каля стала, а таксама ў «бабіным куце».

**Услончык** (слончык, зэдлік), як і ўслон, нярэдка быў зроблены з абрубка дрэва з сучкамі ці карнявішчам.

**Табурэт** (зэдаль, табурэтка, столак) стаў шырока ўжывацца ў сялянскіх хатах з драўлянай падлогай.

**Крэсла** ў хатнім побыце сялян стала шырока выкарыстоўвацца з другой паловы XIX ст.

**Канапа** (дзіван). Як правіла, мела падлакотнікі і дэкаратыўна аформленую спінку. У сялянскім побыце стала ўжывацца з другой паловы XIX ст.

**Ложак** (кравадзь). Часта меў фігурны профіль і дэкаратыўна аздобленыя спінкі.

**Калыска** (люлька, зыбка) вядома ў двух варыянтах: вісячая і на ножках. Першая з'яўляецца больш старадаўнім і распаўсюджаным варыянтам і адрозніваецца значнай разнастайнасцю знешняй формы.

**Куфар** (скрыня, сундук). Адрозніваўся памерамі, формай крышкі, састаўнымі элементамі (шуфлядкі, колы і інш.).

**Камод** у сялянскім ужытку з'явіўся ў канцы XIX — пачатку XX ст., функцыянальна замяніў кублы для адзення.

**Шафа** для адзення. У сялянскім побыце шырока распаўсюдзілася з пачатку XX ст.

**Шкапчык** (столік) кухонны. Больш архаічны варыянт — тоўсты абрубак ствала, выдзеўбаны ўнутры (гл. раздзел «Дрэваапрацоўчыя рамёствы»). Падвясны (насценны) шкапчык звычайна

меў трохвугольны профіль і ўмацоўваўся над услонам у гаспадарчым куце.

**Сенцы.** У курнай хаце сенцы не мелі столі і драўлянага памосту, з'яўляліся неабходным падсобным памяшканнем, дзе знаходзіліся рознае начынне і прылады працы, што не змаглі змясціцца ў хаце: бандарны посуд, кашы, кадоўбы, ступа, жорны, алейніца, прасніцы, кросны, навоі, ночвы, каромысел. На бэльках былі падвешаны сакі — спецыяльныя кашы з мяснымі прадуктамі. На бакавой сцяне была прымацавана паліца для рамесных інструментаў. На сцяне, агульнай з хатай, на круках вісела верхняе адзенне — світкі, сярмягі, бурносы, кажухі.

Часам сенцы ператвараліся ў рамесную майстэрню і, такім чынам, іх інтэр'ер набываў новыя рысы і характэрнае аблічча ў залежнасці ад спецыялізацыі прамысловага занятку.

У бяднейшых сялян у сенцах звычайна адгароджвалася невялікая закута, дзе трымалася жывёла.

У падземнай частцы памяшкання сенцаў рабіўся склеп (цэнтр і поўдзень Беларусі).

Нярэдка ў сенцах адгароджвалася камора (каморка), якая ператваралася ў самастойнае падсобнае памяшканне.

**Клець.** Сустракалася як у адзіным комплексе (хата+сенцы+клець), так і асобнай пабудовай, якая звычайна размяшчалася супраць хаты. Зруб клеці ставіўся на высокія штандары, падлогу ўтвараў насціл шчыльна падагнаных тоўстых дошак ці плах. Клець нярэдка мела скляпеністую столь з цесна прыгнаных адзін да аднаго бярвенняў, якая сумяшчалася з дахам.

Амаль ва ўсіх выпадках гэтае памяшканне служыла для захоўвання зерня. Тут каля сцяны рабіліся засекі для хлеба. Побач стаялі бочкі, кадоўбы ці саламяныя корабы з зернем, крупамі, мукой, кубельцы з салам. На бэльках падвешваліся шынкі, кашы з мяснымі прыпасамі. Ля пярэдняй сцяны размяшчаліся двухдонныя бочачкі з квасам, сокам, іншым пітвом. Па другі бок ад дзвярэй знаходзіліся вупраж, інвентар, меры ёмістасці, драўляны бязмен і інш. Каля бакавой сцяны стаяў сундук ці кубел з тканінамі. Тут жа стаяў і ложак, дзе летам спалі больш маладыя члены сям'і.

**Стопка** (варыўня) — паўназемнае памяшканне (два ніжнія вянцы звычайна ўпускаліся ў зямлю) для захоўвання гародніны, садавіны, малочных прадуктаў. Перагароджвалася невысокім бар'ерам (перарубам) з двух-трох бярвенняў. У адгароджаныя адсекі ссыпалі буракі, бульбу, моркву і інш. Бліжэй да дзвярэй стаялі кадушкі ці бочкі з квашанай капустай, буракамі, агуркамі і інш. Збоку ад уваходу на паліцах ляжалі некаторыя гаспадарчыя рэчы, стаялі гладышы з малаком і да т. п.

У сярэдзіне памяшкання быў невялічкі ачаг — жароўня, куды зімой насыпалі гарачае вуголле для абагрэву.

Як падсобныя традыцыйныя збудаванні стопкі шырока бытавалі сярод сялянскіх пабудоў на Палессі і поўначы Беларусі. На астатняй частцы іх функцыянальна замянялі скляпы (склеп, пограб).

---

Никифоровский Н. Я. Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обихода.— Витебск, 1895; Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. III.— Спб., 1902; Сербаў І. А. Вічынскія паляне.— Мн., 1928; Беларускае народнае жыллё.— Мн., 1973; Сахута Я. М. Народная разьба па дрэву.— Мн., 1978.

# СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫЯ ПРЫЛАДЫ ПРАЦЫ



З глыбокай старажытнасці ў беларусаў асноўнай прыладай апрацоўкі глебы з'яўлялася двухлямешная саха. На тэрыторыі Беларусі здаўна вядомы два тыпы сахі — саха на пару валоў (палеская) і аднаконная (віцебска-магілёўская).

**Саха палеская.** Драўляны корпус яе складаўся з доўгага (каля 3 м) рагача, на адным канцы якога былі ручкі, а да другога мацавалася ярмо (выя) на пару валоў. Асноўная рабочая частка сахі — крыху выгнутая дошка, якая знізу раздвойвалася. На гэтыя канцы (рагі) набіваліся жалезныя сашнікі (нарогі, наральнікі). Сашнікі, як правіла, былі рознага памеру (правы сашнік вузейшы за левы). Левы сашнік выгнуты. Правы сашнік ставіўся гарызантальна, а левы — пад вуглом да зямлі. Дзве нерухома замацаваныя паліцы (альбо паліца і прыполак) адвальвалі падрэзаную скібу зямлі. У гродзенскай разнавіднасці гэтай сахі корпус быў прыстасаваны для аднаконнай вупражы.

**Саха аднаконная** (віцебска-магілёўскага тыпу) мела драўляны корпус, які складаўся з вобжаў, лямешніцы (расохі), на раздвоеныя канцы якой набіва-



Сохі аднаконныя віцебска-магілёўскага тыпу



Сохі палескага тыпу

ліся жалезныя лемяшы. Расоха пры дапамозе драўлянага бруса прыціскалася да ручкі (рагача). Жалезныя лемяшы былі аднолькавай формы. Для адвалу зямлі служыла лапаткападобная металічная паліца (перакладка). У паўночна-ўсходніх раёнах паліца пры кожным павароце перакладалася з аднаго лемяша на другі. На ўсходняй Гомельшчыне пры аднаконнай вупражы з вобжамі рабочая частка сахі была падобна да палескай.

**Сошка** — аднalямешная прылада, якой абганялі бульбу і інш. У раёнах распаўсюджання аднаконнай сахі мела аналагічную рабочую частку.



Сошкі

**Рала** — аднaлямешная прылада, якая ад сошкі адрозніваецца будовай корпуса і рэжучым прыстасаваннем. Жалезны сашнік рала, якім рыхлілі глебу, ставіўся гарызантальна, а не пад вуглом. Упор для ручак амаль пад прамым вуглом да палоза. Па баках лемяша мацаваліся два адвалы — паліцы (прадаўгаватыя дошкі). Рала ў XIX ст. выкарыстоўвалася для абгонкі бульбы і нярэдка называлася сошкай.

**Разак** — прылада, якая таксама ўжывалася для падсобных землеробчых работ і выкарыстоўвалася пры апрацоўцы абложнай зямлі, дзярніны, лугу. Разаком разрэзвалі зямлю на палоскі перад сошным ворывам. Востры доўгі нож (звычайна кавальскай работы) мацаваўся паміж вобжамі пад тупым вуглом да зямлі.

**Плуг** трывала ўвайшоў ва ўжытак беларускіх сялян у пачатку XX ст. Сялянскія плугі безцялежкавай канструкцыі звычайна саматужнай вытворчасці. Лямеш, адвал і мацаванні ў іх жалезныя, а дышаль і ручкі драўляныя. Лямеш ставіўся гарызантальна, а адвал — пад вуглом да яго. З пачатку XX ст. карысталіся і цалкам жалезнымі плугамі, якія выраблялiся на мясцовых заводах сельскагаспадарчых машын.

**Сукаватка** (галля, галлюка, вяршаліна, астрога) — прымітыўная старажытная прылада для баранавання і рыхлення глебы на лядах. Рабілі яе з верхавіны елкі, пакідаючы сукі па 40—60 см кожны, а вупраж чаплялі за тонкі канец. У канцы XIX, радзей у пачатку XX ст., выкарыстоўвалі амаль на ўсёй тэрыторыі Беларусі, у паўночна-ўсходняй Віцебшчыне не выяўлена.

**Смык** — прылада падобнага прызначэння, але больш складаная. Рабілі яго са звязаных яловых плашак, у якіх пакідалі сукі па 40—60 см. Два крайнія даўжэйшыя на 1—1,5 м ствалы ўтваралі аглоблі (вобжы). У пачатку XX ст.

смык ужываўся рэдка, часам скарыстоўвалі яго замест бараны.

**Барана плеценая** (прутковая, вязаная, бітая) вядома на значнай тэрыторыі Беларусі, за выключэннем паўночнаўсходняй часткі. Рабілі яе з тонкіх роўных пруткоў, на якія надзяваліся крыжнакрыж кольцы з вітак (абаранкі, гальвы, вужоўкі, гужоўкі). У гнёзды, якія стваралі кольцы і пруткі, забівалі драўляныя зубы (кляцы). Форму баране прыдаваў каблук (самалук, лук, абаролец). На каблуку было рухомае кальцо, каб чапляць ворчык (валёк).



Смык



Плугі



Рамная падоўжана-брусковая барана



Сукаватка



Рамныя папярочна-брусковыя бароны



Рамныя папярочна-брусковыя бароны




Плецeная барана (а), мацаванне зуба (б)



Рамная папярочна-брусковая барана, падоўжана-брусковая барана

**Барана рамная папярочна-брусковая** бытавала ў паўночна-ўсходняй частцы Беларусі, дзе не карысталіся плеценай бараной. Да двух падоўжных брускоў 1,5—1,6 м даўжынёй, якія стваралі вобжы, прымацоўвалі 3—4 папярочныя бруcкі даўжынёй 1,2 м. У пракручаныя дзіркі заганялі 14—32 драўляныя зубы (кляцы). Разнавіднасці такой бараны, але без даўжэйшых крайніх брускоў выяўлены на ўсходзе Гомельшчыны і Магілёўшчыны.

**Барана рамная падоўжна-брусковая** сустракалася ва ўсходняй Гомельшчыне і Магілёўшчыне.

**Барана рамная падоўжна-брусковая з папярочнымі планкамі** (у форме рашоткі) бытавала паўсюдна. Зафіксіравана барана, якая па форме нагадвае плеценую (Рагачоўскі раён Гомельскай вобл.).

**Барана драўляная з жалезнымі зубамі** фабрычнага або саматужнага вырабу. З'явілася ў канцы XIX ст. Па форме нагадвала рашотку прамавугольнай і трапецападобнай формы. У арэале распаўсюджання папярочна-брусковых барон самаробныя бароны найчасцей захоўвалі традыцыйную форму.

**Барана жалезная** (фабрычная або кавальскай работы) сустракалася паўсюдна, але рэдка. Яе форма — чатырохвугольная рашотка і зігзаг.

**Драпач** (драпак, дзербан) — прылада для рыхлення глебы, трох- і чатырохвугольная, зробленая з драўляных брускоў з моцнымі жалезнымі зубамі, выгнутымі ўнізе накшталт лапак.

**Спружыноўка** (спрунжыноўка, пружыноўка, культыватар) — фабрычная прылада для рыхлення і культывацыі глебы з спружыннымі зубамі, замацаванымі на металічнай раме.

**Каток** (вал, чурбан) — прылада для выраўноўвання і ўтрамбоўвання глебы. Рабочая частка — кругляк даўжынёй 1,5—2 м. Былі таксама каткі гладкія і зубчастыя.



Драўляныя бароны з жалезнымі зубамі



Жалезная барана



Драпачы



Спружыноўка



Каткі




Сахары (а, б), мач (в), крук (г), капыл (д)



Матыкі




Шуфель (а), рыдлёўкі (б, в, г, д, е)

**Сахор** — двухрогія вілы з акутымі канцамі ражкоў (нарожкі, лямешкі).

**Мач** (метач) — драўляная лапата з акутым вастрыём.

**Крук** — жалезная прылада з двума загнутымі канцамі. Служыў для скідвання гною з воза.

**Капыл** — найбольш старажытная прылада для апрацоўкі глебы. Складаўся з доўгага драўлянага трымальніка (дзяржак), на адзін канец якога насаджвалася пад прамым вуглом жалезнае лязо. Выкарыстоўваўся галоўным чынам на лядах. У асобных месцах Беларусі капылы ўжываліся да канца XIX ст.

**Лапата** (рыдлёўка, рыдзель). Рыдлёўкі былі жалезныя і драўляныя. Драўляныя рыдлёўкі (рыдлі) рабілі з цвёрдых парод дрэва. Рэжучая частка іх абівалася бляхай або акоўвалася тонкім жалезам. Форма паўкруглая, часцей чатырохвугольная.

**Капач** (капачка). Невялікая жалезная лапата паўкруглай ці круглай формы. Выкарыстоўвалася для капання бульбы на агародах.

**Матыка** (цяпка, капаніца, сапа, сапка). Матыкі выкарыстоўвалі для апрацоўкі агародных культур і акучвання бульбы. Ручкі з моцных парод дрэва — сасны, елкі, граба. Форма жалезнай часткі разнастайная: авальная, трапецападобная, прамавугольная і інш.

**Сявалка** (сеўня, сявенька, лубок) — плеценая пасудзіна, якая выкарыстоўвалася ў час сяўбы. Рабілі сявалкі з саломы, лубу або тонкіх лазовых дубцоў. Даўжыня ў сярэднім каля 35—40 см, вышыня 20—25 см, шырыня каля 18—20 см.

**Сявенька-лубка.** Выраблялі яе з кары ліпы, вяза ці тонкіх дранак з сасны.

**Сявенька-леска.** Драўляную аснову сявенькі абцягвалі палатном, дно рабілі з дошчачак ці фанеры. Значна радзей сустракаліся сявенькі з тонкіх драўляных клёпак. Для гэтага спачатку згіналі два абручы, а да іх прымацоўвалі клёпкі. Сявенька мела вушкі з лазы,



Сярпы



Цуркі

дроту ці вяроўкі. За вушкі мацавалі рэмень, вяроўку або ручнік.

У канцы XIX ст. з'явіліся і конныя сеялкі.

Асноўнымі ручнымі прыладамі для ўборкі збожжавых культур на тэрыторыі Беларусі з даўніх часоў былі сярпы і радзей косы.

**Каса** складалася з драўлянага касся (касільна, касавішча, касаўё) і металічнага палатна (лязо), у якім вылучалі пятку і насок. На сярэдзіне касся мацавалася драўляная ці плеценая з дубцоў ручка (лучок, пупок, дужка, дзяржальна, вязок). Палатно ці лязо касы прымацоўвалася да касся жалезным кальцом (банька, рэхва, напёрстак, грывянка). Радзей палатно касы мацавалі да касся з дапамогай тонкіх дубцоў лазы, яловых карэнняў і г. д.

Каса выкарыстоўвалася для касьбы траў, зерневых. У апошнім выпадку да касы прыладжвалі розныя прыстасаванні: грабелькі, лучок, вілачкі.

Значна радзей сутракалася каса-гарбуша з кароткім кассём. Яна выкарыстоўвалася для скошвання травы каля платоў, агароджаў. Касілі гарбушай, ссякаючы траву (ударамі зверху).

**Бабкі.** Выкарыстоўвалі іх для кляпання касы. Яны былі двух відаў: тупыя і вострыя. Рабілі іх з сталі, цвёрдага жалеза.

**Мянташка.** Прылада для вастрэння касы. Саматужная мянташка выраблялася з цвёрдага дрэва (дуб, граб, бяроза) у выглядзе лапатачкі з насечкамі на яе шырокім канцы. Паверхню намазвалі смалою, радзей змочвалі вадою і затым пасыпалі пяском.

**Малаток.** Выкарыстоўвалі для кляпання касы. Вострым канцом малатка кляпалі касу на тупой бабцы, а тупым канцом — на вострай бабцы.

**Серп.** Рабілі іх звычайна з жалеза або сталі. Рэжучую частку зазубрывалі. Сустракаліся сярпы двух відаў: паўкруглы (сферычны) і падоўжаны (аваль-




Вілы: а, б, в — драўляныя, г — жалезныя, д — трохножкі



Граблі



Азяроды




Азярод (а), пераплоты (б, в)



Цапы

ны). Больш распаўсюджаны быў сферычны серп.

У авальных сярпоў даўжыня ад пачатку ручкі да канца рэжучай часткі 41—43 см, а ў паўкруглых 30—32 см. Даўжыня ручкі 12—13 см.

**Цурка** — прыстасаванне для вязкі снапоў. Драўляная палачка з насечкамі на адным з канцоў. Характэрна для Палесся.

**Вілы драўляныя.** Складаюцца з доўгага драўлянага дзержака-ручкі і двух ці трох драўляных пальцаў. Выкарыстоўваліся пры ўборцы зерневых і траў, пры малацьбе, скірдаванні саломы і сена.



Абівалкі



Ручная малатарня

**Трохрожкі** — драўляныя ці жалезныя вілы з адным пальцам насупраць двух іншых. Выкарыстоўваліся звычайна пры складванні стагоў, падачы снапоў і г. д.

**Вілы жалезныя.** Часцей выкарыстоўвалі іх для падачы сена на вазы, пры накідванні гною і г. д.

**Граблі.** Састаўныя часткі: драўляная ручка (грабільна) і галоўка з зубамі. Галоўка выгнутая ці прамая. Зубы рабілі з дубу, даўжыня 8—10 см.

**Азярод.** Два высокія ўкапаныя ў зямлю драўляныя слупы з папярочнымі перакладзінамі для сушкі снапоў, травы.

**Пераплот.** Складаўся з двух злучаных папярочнымі жэрдкамі казлоў. Больш нізкі за азярод.

**Цэп.** Састаўныя часткі: цапільна (цапавільна, цапаўё, цапавіла, цаўё, стаўё), даўжыня да 2 м, біч (біцак, біла, біяк, булаўка, бічук, біцюг, біцюк), даўжыня 50—70 см, дыяметр 4—5 см. Бічы звычайна круглыя, але сустракаліся чатырохвугольныя або з патаўшчэннем на канцы. Рабілі іх з дубу, грабу, яблынідзічкі, радзей бярозы.

**Абівалка** — палка для абівання збожжа. Для абівання снапоў выкарыстоўвалі яшчэ абівалку-рашотку. Яна складалася з доўгіх брускоў. Пярэдняя яе частка ставілася на ножкі. Для абівання жыта, іншых культур і льну выкарыстоўвалі калоду, козлы, ступу, бочку, барану і г. д.

**Малатарня** — машына для абмалоту сельскагаспадарчых культур. У 20-х гадах XIX ст. у памешчыцкіх гаспадарках з'явіліся ручныя і конныя (з прывадам) малатарні. Затым іх пачалі набываць і заможныя сяляне. Апрача іх сустракаліся яшчэ таптальныя малатарні (таптакі). Гэта малатарні з драўляным нахільна пастаўленым суцэльным колам. Яно прыводзілася ў рух валамі ці коньмі.



Веялка-шуфлік



Рэшата



Жорны каменныя



Жорны драўляныя




Жорны: а, б — драўляныя, в, г, д — каменныя



Крупадзёрка



Ступы ручныя



Ступа нажная

**Веялка-шуфлік** — драўляная лапатка, выгнутая ці выдзеўбаная ўсярэдзіне, з кароткай ручкай. Рабілі яе з бруска (бяроза, асіна, вольха, ліпа, вярба) шляхам выдзёўбвання.

У некаторых мясцінах для веяння збожжа выкарыстоўвалі яшчэ шуфлікі на доўгай ручцы (веялі стоячы).

**Савок** — драўляная чатырохвугольная лапатачка. Скарыстоўвалі для перакідання збожжа, радзей веяння.

**Сіта** — рама для правейвання збожжа. Рама драўляная, з рагожнымі ці драцянымі сітамі, на вяроўках падвешвалася да бэлькі.

**Рэшата** — прылада для правейвання зерня ці прасейвання мукі. Аснова з фанеры, а дно з рагожнай, валасяной ці металічнай сеткі.

**Апалушкі** — невялікія драўляныя ночвы для правейвання зерня.

**Жорны.** Складаліся з двух камянёў, рабочыя часткі якіх мелі насечку (дыяметр ад 35 да 50 см, вышыня ад 10 да 15 см). Верхні камень паднімаўся і апускаўся з дапамогай паўпрыцы. Прыводзіўся ў рух шляхам вярчэння доўгай ручкі — **млёна**, верхні канец якога ўстаўляўся ў гняздо над цэнтрам адтуліны верхняга каменя, а ніжні канец у жалезную скабу на краі верхняга каменя. Радзей сустракаліся жорны з кароткай ручкай.

Адрозненні ў будове жорнаў толькі ў форме рамы — станка. Станок у выглядзе чатырохвугольнай скрыні быў распаўсюджаны на ўсёй Беларусі, у выглядзе вулля часцей сустракаўся ў паўднёвых раёнах (на Палессі), а ва ўсходняй частцы Беларусі — у выглядзе ночваў.

Ніжняя частка станка называлася «падок». Вышыня ад зямлі да падка 70—80 см, а вышыня самой рамы (скрынкі) — 30—40 см. Памеры скрынкі ці станка (даўжыня і шырыня) прыкладна 80×80 ці 90×90 см. Сустракаліся жорны і меншых памераў.

Пры адсутнасці камянёў ці пясчаніку для вырабу жорнавых паставоў скарыстоўвалі дубовыя калодкі, рабочую частку якіх набівалі пласцінкамі чыгуну або жалеза. Звычайна такія жорны не мелі паўпрыцы.

**Ступа ручная.** Драўляныя ручныя ступы рабілі з цвёрдых парод дрэва (дуб, граб, радзей таполя, ліпа). Дыяметр уверсе 35—40 см. Унізе ступа звужалася. Вышыня драўлянай ступы 110—120 см. Адтуліну (зеў) у ступе выдзёўбвалі або выпальвалі. Глыбіня зева каля 30—40 см. У некаторых мясцінах ніжняя частка ступы выдзёўбвалася, і яна стаяла як бы на ножках. Сустракаліся ступы васьмікантовай формы.

**Таўкач** — тоўстая доўгая палка з паўкруглымі канцамі, даўжыня 90—110 см. Для зручнасці трымання ў сярэдняй частцы рабілі выемку ці выдзёўбвалі адтуліну.

**Ступа нажная.** Спарадычна сустракалася на Палессі. Яна была ніжэйшая за ручную (вышыня не перавышала 50—60 см). У чатырохвугольным або круглым чурбане (калодзе) выдзёўбвалі конусападобную ці прамую (круглую) адтуліну для зерня. Сама калодка нярэдка ўкопвалася ў зямлю. Таўкач замацоўваўся на канцы тоўстага доўгага бруса. Брус жа мацаваўся рухома на восі ці на падстаўцы. Свабодны канец бруса служыў месцам для ног чалавека.

---

Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў.— Мн., 1974.



# ТРАНСПАРТНЫЯ СРОДКІ

Характар і разнастайнасць народных транспартных сродкаў былі абумоўлены своеасаблівасцю прыродных і эканамічных умоў, а таксама этнічных традыцый. Транспартныя сродкі падзяляюцца на сухапутныя і водныя.



Вазы

Сухапутныя сродкі перамяшчэння ў сваю чаргу падзяляюцца на летнія і зімовыя.

Для бясснежнага перыяду года характэрнымі на Беларусі былі колавыя сродкі перамяшчэння. Велічыня і канструкцыя летніх транспартных сродкаў залежалі ад іх прызначэння, а таксама ад асаблівасцей шляхоў зносін.

Цяглавай сілай на Беларусі здаўна былі коні і валы.

**Воз** (драбіны, калёсы) — транспартны сродак для перавозкі грузаў. Састаўныя часткі: передок, задок, трайня, кузаў, аглоблі з атосамі.

Перадок і задок воза мелі драўляную аснову (падушкі) і восі. Падушка перадка злучалася з воссю пры дапамозе жалезнага шворна. Раней шворан быў драўляны. Да перадка мацаваліся аглоблі з атосамі. Атосы раней былі вяровачныя.

Вялікай разнастайнасцю вызначаўся кузаў, які меў у адным выпадку бакавыя драбіны, у другім — барты з дошак рознай формы ці звычайную платформу. Выкарыстоўваўся і плецены кош ці паўкош (палукаш, палукашак), які ставіўся на воз.

Даўней колы рабілі з кавалка дрэва або збівалі з дошак. Былі два спосабы злучэння кола з воссю: а) замацоўвалася наглуха, круцячыся разам з ёю (у старажытнасці); б) круцілася на не-



Вазы



Мажара



Брычка



Каляскі




Расцяжка (а), двухколка (б)

рухомай восі. Пазнейшы тып — кола з вобадам, спіцамі і ўтулкай. Параўнаўча нядаўна сустракалася без шын. Вобад мог быць суцэльны ці збіты з асобных кавалкаў дрэва (звянчак).

**Мажары** — вялікі воз з высокімі бакавымі драбінамі, прыстасаванымі для перавозкі снапоў і сена.

**Расцяжка** (расцяжнік, раскаты, роспускі, багулы, дронкі) — калёсы для перавозкі бярвенняў.

**Фура** (хура) — вялікія калёсы для перавозкі розных грузаў, магла быць з будой.

**Двухколка** служыла для праезду па лясістай мясцовасці, а таксама ў перыяд бездарожжа.

**Брычка** (калымажка, тарантас, карахвашка, лінейка) — пасажырскі транспартны сродак заможных сялян і шляхты. Былі на жалезным хаду, часта мелі рысоры. Былі рознай формы, з упрыгожаннямі, сядзеннем, спінкай, падножкамі.



Ёрмы

**Хамут** складаўся з драўляных клешчаў, падушкі (каўбачы), акапы (скураное пакрыццё), гужоў і супоні.

**Дуга.** У залежнасці ад вугла згібу, таўшчыні і ўпрыгожання былі звычайныя і выязныя.

**Сядзёлка** служыла для апоры церасядзельніка, пры дапамозе якога падтрымліваліся на належным узроўні аглоблі.

**Аброць** — элемент вупражы з павадамі, цуглямі і шорамі. Пры запрэжцы ў воз да аброці прывязваліся лейцы. Аброць без цугляў называлі кантарам.

**Набедрыкі** — рамяні, прымацаваныя да хамута. Надзяваліся на спіну каня. Звычайна рабіліся з упрыгожаннямі — кутасамі і інш.

**Сядло** — сядзенне для верхавой язды на кані. Складалася з драўлянай асновы, двух бакавых дошчачак, абшытых лямцам, дзвюх лук — пярэдняй і задняй, падшыўкі, папругі і страмён.

**Падкова.** Прыбівалася да капыта спецыяльнымі цвікамі — ухналямі. Сустракалася ў форме лацінскай літары v і «сляпая». У зімовы час у падкову ўкручваліся тры шыпы.

Для запрагання валоў ужывалі **ярмо.** Вядомы наступныя тыпы ёрмаў.

**Прырожнае ярмо** — архаічная форма ярма, якое даўней мацавалася за рогі валоў.

**Дугавіднае ярмо.** Складалася з га-

лоўнай жардзіны і дужак, якія ўстаўляліся ў яе.

**Рабрыстае ярмо.** Замест дужак выкарыстоўваліся палкі, якія завязваліся ўнізе вяроўкамі, раменьчыкамі і інш.

**Рамнае ярмо.** Апрача галоўнай верхняй жардзіны, унізе, пад шыямі валоў, прымацоўвалася паралельная ёй тонкая планка.

**Ярэмец** — ярмо для аднаго вала. Меў такія ж разнавіднасці, як і парнае ярмо.

У далёкім мінулым існавала і конскае ярмо, але яго хутка выціснуў хамут.

**Дышаль** мацаваўся пасярэдзіне да пярэдняй восі і выкарыстоўваўся для ўпрагання двух коней або валоў.

**Пастронкі** выкарыстоўвалі пры запраганні каня ў плуг або барану. Канцы пастронкаў да гужоў прывязваліся і да ворчыка (барон, барка), а плуг — да жалезнай скабы ў цэнтры ворчыка. Пастромкі служылі і для прыпрагання другога і трэцяга (тройка) каня да воза з аглоблямі.

**Сані** — асноўны сродак зімовага транспарту. Былі ў кожным сялянскім двары. Палазы гнулі або падбіралі адпаведнай формы ствалы маладых дрэў. Сані з падабранымі палазамі былі больш моцнымі і называліся «капанікамі». Пры зборцы саняў палазы злучалі дубовымі вязамі або перакладзінамі. Канцы галовак гнутых палазоў дадаткова злучаліся хордавай перакладзінай — іцвінай, папліскай.

**Розвалкі** (розверні) — падтып рабочых саняў з павялічанай паверхняй шляхам далучэння да звычайных рабочых саняў дзвюх жэрдак, якія умацоўваліся наўскос абапал саняў.

**Кары** — лесавозы з масіўнымі палазамі. По спосабу злучэння палазоў вядомы тры тыпы: палазы з вязамі і перакладзінамі; палазы-капанікі з нізкімі галоўкамі, з меншай колькасцю капылоў, злучаных тоўстымі перакладзінамі;




Дуга (а), сядзёлка (б), хамуты (в, г)



Падковы



Колы



Сані (а, б, в), падсанкі (г), вазок (д)

з масіўнымі палазамі, злучанымі лісіцамі (падушкамі). Разам з санямі пры перавозцы лесу выкарыстоўвалі **падсанкі**, якімі на паваротах кіравалі суччкай — крывым калком, прымацаваным да падсанак.

**Вазок** — выязныя санкі з высокімі галоўкамі, загнутымі ўперадзе паўкругам. Лёгкія палазы выступалі з-пад кузава ззаду. Кузаў вазкоў, больш нізкі пасярэдзіне, абшываўся тонкімі дошкамі, лубам або бляхай, упрыгожваўся разьбой, фарбаваўся ў некалькі колераў, у шляхты дэкараваўся тканінай.

**Тачка** — аднаколавае прыстасаванне для перавозкі розных грузаў.

**Каляска.** Двухколавая, трохколавая і чатырохколавая. Самай рознай формы і памераў. Асаблівую цікавасць уяўляе дзіцячая каляска, якая мела розныя ўпрыгожванні.

Для пераносу вадкасцяў і сыпучых рэчываў здаўна выкарыстоўвалі розныя **вёдры:** а) выдзеўбанае з дрэва, б) клёпачнае, сагнутае. Вочапка (восілка) была жалезная, вяровачная і інш.

**Каромысел** (насілы) — тоўстая драўляная палка, прамая ці выгнутая, з падвешанымі кручкамі ці з выемкамі на канцах для пераносу вёдзер з вадой і інш.

**Торба** (кайстра). Служыла для пераносу самых розных прадметаў. Шылася з грубога палатна, мела вочапку.

**Кош** служыў для пераносу бульбы, мякіны і інш. Плялі з дубцоў лазы і яловых карэнняў.

**Насілы.** Для пераносу коп сена. Дзве невялікія жардзіны, асобныя або збітыя дошкамі.

**Насілкі.** Для пераносу гною, каменняў і г. д. У выглядзе дзвюх жардзін з насланымі на іх дошкамі.

**Валакуша** — прыстасаванне для перасоўвання сена да стога.

**Рэзгіны** складаліся з дзвюх дужак, абцягнутых вяровачнай сеткай. Каб падняць на плечы і несці сена ці траву,

сцягваюць дужкі пры дапамозе вяроўкі, рэменя, спецыяльнага крука.

**Крук,** пры дапамозе якога сцягвалі вяроўкі, што ўціскалі сена ці траву, клаўся на плячо.

**Полка** (лясёнка) — квадратны кавалак грубога палатна (палавіна нешырокай посцілкі) з паскамі на вуглах. Служыла для пераносу сена ці травы.

**Кульбака** (кавенька, кульба). Рабілі з розных парод дрэва, часцей з ядлоўцу. Была без ручкі і з ручкай, часта вельмі мудрагелістай. Нярэдка кульбака ўпрыгожвалася разьбой, выпальваннем і інш.

**Калдыбы** (хадулі) — высокія жэрдкі з выступамі для ног. Служылі для пераходу праз рэчку, канаву і інш.

**Нарты** — прыстасаванні для пераходу цераз балота, а таксама для хадзьбы па снезе. У форме шырокіх лыж, пляцёнак, якія прывязваліся да нагі. Назвы ў розных мясцовасцях розныя.

**Ракі** — металічныя прыстасаванні з шыпамі для хадзьбы па лёдзе. Прывяз-







Струг (а), лайба (б, в)

валіся да абутку. Маглі быць самай рознай формы, напрыклад у форме скабы або авальнай формы. Назвы ў розных мясцовасцях розныя.

Сродкамі перасоўвання па водных шляхах служылі плыты і розныя судны. Ужо ў эпоху неаліту на тэрыторыі Беларусі будаваліся чаўны. Найстаражытным суднам быў таксама струг, які шырока выкарыстоўваўся ў IX ст. У IX—X стст. па Дняпры пралягаў гандлёвы шлях «з варад у грэкі». З даўніх часоў ажыўлены рух ажыццяўляўся па Заходняй Дзвіне, Нёмане, Бугу, Прыпяці. Развіццё гандлёвых сувязей і павелічэнне вывазу тавараў выклікала з канца XVIII ст. будаўніцтва штучных водных шляхоў — каналаў: Агінскага, Дняпроўска-Бугскага, Бярэзінскай воднай сістэмы. У XVIII — першай палове XIX ст. традыцыйнае суднабудаванне дасягнула свайго найвышэйшага росквіту. Распаўсюджанне ў другой палове XIX ст. параходаў абумовіла скарачэнне пабудовы суднаў мясцовай вытворчасці. У XX ст. выкарыстоўваліся ў асноўным толькі лодкі і баржы.

Рачныя судны будаваліся з дрэва на прыстанях, берагах рэк і азёр. Спачатку яны выдзёўбваліся са ствала дрэва, пазней, каб павялічыць устойлівасць і аб'ём, пачалі рабіць дашчаныя судны. У XVI ст. гэты тып стаў пануючым у водным транспарце. Спецыфічным грузапасажырскім суднам з'явіўся паром, вядомы з XV ст. Пры будаўніцтве суднаў майстры ўлічвалі асаблівасці мясцовых рэк. Судны вызначаліся лёгкасцю і невялікай асадкай, былі пераважна пласкадонныя.

Асноўныя тыпы рачных суднаў на Беларусі: струг, віціна, шкут, байдак, лайба, барка, бярліна, лыжва і інш. Яны адрозніваліся адно ад другога канструкцыяй, памерамі і аснасткай.

Судны былі хадавыя (хадзілі па рэках уніз і ўверх) і сплаўныя (будававі-



Берліны

Калдыбы (а), ракі (б, в), нарты (г), рэзгіны (д), валакуша (е)

ся толькі на адзін рэйс уніз па цячэнні). Прыводзіліся ў рух з дапамогай вёслаў, шастоў, парусаў, а супраць цячэння — таксама і людской цягай (лінай і завозам якара).

Для кіравання суднам на карме і носе замацоўваліся рулявыя вёслы — доўгія бярвенні. На барцы яны называліся пацесь, на струзе і байдаку — кармавое вясло — сцярно, насавое вясло на струзе — дрыгалка, на байдаку — трапло.

Прылады працы суднабудаўнікоў — сякера, піла, цясло, долата, свердзел, цвікі, скобы.

**Струг** — сплаўное пласкадоннае судна без паруса і палубы, дах двухскатны, нос і карма завостраныя. Даўжыня 36—38 м, шырыня 11 м, грузападымальнасць 152 т. Хадзілі па Заходняй Дзвіне.

**Шкут** — хадавое пласкадоннае судна з парусам. Даўжыня 34—43 м, шырыня 6—11 м. Хадзілі па Заходняй Дзвіне.

**Лайба** — хадавое судна з парусам, без даху. Даўжыня 25—30 м, шырыня 4—5 м, грузападымальнасць 24—80 т. Хадзілі па Заходняй Дзвіне і верхнім Дняпры.

**Віціна** — хадавое пласкадоннае судна з парусам і палубай, без даху. Даўжыня 43—53 м, шырыня 4—11 м, грузападымальнасць 128—192 т. Хадзілі па Нёмане.

**Байдак** — хадавое пласкадоннае судна з мачтай, парусам і дахам, нос і карма звужаныя, бакі адвесныя. Даўжыня 4—9 м, грузападымальнасць 80—240 т. Будаваліся і хадзілі ў басейне Дняпра і Прыпяці.

**Берліна** — хадавое пласкадоннае судна з парусамі, палубай і дахам, нос закруглены, карма адвесная, бакі разгор-




Дуб (а), камяга (б)



Лодкі

нутыя. Даўжыня 21—45 м, шырыня 4—11 м, грузападымальнасць 32—320 т. Будаваліся ў басейне Дняпра і Прыпяці. Другі тып — з завостраным носам і кармой.

**Барка** — сплаўное пласкадоннае судна без паруса і палубы, без даху і з дахам, нос і карма закругленыя, бакі адвесныя або крыху нахіленыя. Даўжыня 42—53 м, шырыня 15—17 м, грузападымальнасць 320—800 т. Па Піне, Ясельдзе, Прыпяці і каналах хадзілі баркі меншых памераў: даўжыня 19—40 м, шырыня 3—5 м, грузападымальнасць 16—80 т. Мелі парус, маглі хадзіць і супраць цячэння.

**Лыжва** — ходавое кругладоннае судна з дахам, нос востры, карма тупая, бакі разгорнутыя. Даўжыня 21—60 м, шырыня 4—8 м.



Чаўны

Для рыбнай лоўлі, палявання, гонкі плытоў, мясцовых перавозак грузаў і людзей выкарыстоўвалі розныя лодкі — невялікія судны, выдзеўбаныя з ствала дрэва, або дашчатыя, пласкадонныя і кілевыя, з прамымі або разгорнутымі бакамі.

**Кара** — каркасная лодка з ліпавай кары (лубу).

**Лодка** дашчатая (чайка і інш.).

**Дуб** — выдзеўбаная дубовая лодка.

**Човен** — выдзеўбаная асінавая, сасновая лодка.

**Абшыванка** — човен з нашытымі дашчатымі бартамі.

**Камяга** — выдзеўбаная лодка ў выглядзе карыта з пласцінамі-крыламі па баках для ўстойлівасці.

**Шугалея** (абіянік) — выдзеўбаная дубовая лодка з сасновымі набоямі. Тыповая для Палесся.

**Паром** (перавоз) — плывучы мост на 2—3 дубовых лодках. Кіруецца з дапамогай шастоў (ялін), вёслаў (дрыгалак) або каната на блоку.



Плыты

**Плыт** — бярвенні, звязаныя ў адзін ці некалькі радоў для сплаву ці перавозкі грузу. На плытах таксама транспартавалі грузы: лён, драўляны посуд, цэглу і інш.

На Заходняй Дзвіне і Дняпры бярвенні ў плытах вязаліся тарцамі ўперад, а на Прыпяці — тарцамі ўпоперак цячэння.

Бярвенні звязваюцца ў звёны, некалькі звязаных звёнаў утвараюць плыт. Звёны мелі лакальныя асаблівасці ў памерах, канструкцыі, тэрміналогіі.



Звязванне плытоў



Прычальванне плытоў

**Грабёнкі** (таркі) — звёны плыта ў басейне Дняпра (Дняпро, Сож). Некалькі грабёнак звязваліся ў пленіцы (даўжыня 8—17 м, шырыня 5—7 м), 2—4 пленіцы складалі гонку (даўжыня 64—107 м).

**Глейна** (гусек) і **лава** — звёны плыта ў басейне Заходняй Дзвіны (Лучоса, Бобр і інш.). На Заходняй Дзвіне 4 глейны або 2—4 лавы злучаліся ў плытгонак. Лавай называўся таксама плыт на Бярэзінскай воднай сістэме (даўжыня 42—64 м, шырыня 2 м), які складаўся з 5 глейн.

**Клейна** — звяно плыта ў басейне Прыпяці, 2 клейны складалі плыт.

**Пас** — плыт з доўгіх бярвенняў.

**Каробка** — плыт на Нёмане і Віліі для перавозкі прадуктаў і тавараў. Складалася з 3 звёнаў-лавак даўжынёй да 25 м. На першы рад бярвенняў клалі ўпоперак тонкія брусы (навоі), на іх уздоўж 3 жэрдкі (повезі), потым зноў упоперак калодкі (падвалкі). Зверху засцілалі рагожу. Лаўка пакрывалася лубяным дахам і называлася кладоўкай (шафарняй). Тры шафарні, звязаныя пяньковымі вяроўкамі, складалі каробку. Грузападымальнасць 64—80 т.

Плыты звязвалі вясной на вадзе або на беразе з прасохлых акораных бярвенняў. Для затрымання бярвенняў пры звязванні, а таксама молевага лесу рабілася забома (бон).

**Віцы** (нузды, гужба, гардзялі) — перавяслы з лазовых, бярозавых, альховых пруткоў або карэнняў дрэў, таксама пяньковыя вяроўкі (радзей).

**Жэрасці** (жаросці) — папярочныя жэрдкі на абодвух канцах плыта, да

якіх прывязвалі хамутом з віц канец кожнага бервяна. «Крыжны спосаб» — кожнае бервяно прывязвалі 2 хамутамі. У некаторых выпадках бярвенні прыкручваліся дротам або збіваліся цвікамі.

**Паклёсы** — падоўжныя бярвенні або жэрдкі, перакінутыя з аднаго звяна плыта на другое і прывязаныя да жароцяў гардзялямі або дротам.

**Рулявыя вёслы** (бабайкі, брыгалкі) даўжынёй каля 4 м на першым і апошнім звёнах плыта; апачына — рулявое весла на першым звяне; уключыны (качаты, рачкі) — умацаванні для вёслаў; шост (яліна) — доўгая акораная жэрдка; ліна — канат для цягі плытоў уверх па рацэ; шрык (шарыга) — завостраны кол у галаве і хвасце плыта, выкарыстоўваўся для затарможвання плыта; гартоль (арала) — кол для замацавання плыта ў час прычальвання на начлег; барбара — канат, вяроўка для замаруджвання ходу плыта; курэнь (будка) — памяшканне на плыце (звычайна на другім звяне) для захавання прадуктаў, адзення і для адпачынку плытагонаў; касцёр (горан) — прыстасаванне для прыгатавання ежы.

**Дубы** — лодкі для рэгулявання ходу плытоў у час сплаву, з 7—8 грабцамі, на чале з дубовікам. З дапамогай канатаў і якараў грабцы адвозілі плыты ад небяспечных месцаў ракі і здымалі з мелі.

---

Россия. Полное географическое описание нашего Отечества, т. 9.— СПб., 1905; Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8.— Вильно, 1912; Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии, кн. 1, 2.— Могилев, 1882, 1884; Кузнецов В. П. Речные деревянные суда.— Л., 1956; Народная лексіка.— Мн., 1977.

# ПАЛЯЎНІЦТВА



Паляўніцтва — найстаражытнейшы занятак чалавека. На тэрыторыі Беларусі ў каменным і бронзавым вяках з'яўлялася адным з асноўных спосабаў здабычы сродкаў існавання. У палеаліце было пераважна аблаўным, загонным. У пазнейшыя эпохі ў сувязі з удасканаленнем паляўнічай тэхнікі і зменамі ў грамадскіх адносінах яно ўсё больш набывала індывідуальны характар. З развіццём земляробства і жывёлагадоўлі паступова станавілася дапаможнай галіной гаспадаркі. У феадальны перыяд прадукты палявання, акрамя таго, што ішлі на ўласныя патрэбы паляўнічых і іх сем'яў, сталі таварам. Футра займала прыкметнае месца сярод падаткаў прыгоннага сялянства. У асяроддзі памешчыкаў, дваран, чыноўнікаў паляванне было папулярнай забавай.

Аб'ектамі палявання на Беларусі з'яўляліся зубры, ласі, мядзведзі, ваўкі, дзікі, казулі, лісы, зайцы, бабры, куніцы, выдры, тхары, качкі, цецерукі, глушцы, рабчыкі, курапаткі, вальдшнепы і інш. У выніку драпежніцкага, нерэгуляванага палявання ў дасавецкі час некаторыя з іх (зубры, бабры) былі амаль поўнасцю знішчаны.

Традыцыйныя паляўнічыя прылады на Беларусі характарызуюцца значнай разнастайнасцю. Найбольш старажытныя з іх дубіны і палкі, апрацаваныя рукой чалавека, розныя самаловы. Больш пазнейшая і дасканалая прылада — стрэльба. Усе традыцыйныя прылады палявання падзяляюцца на актыўныя і самаловы.

У савецкі час паляванне стала весціся на рацыянальнай аснове, г. зн. акрамя здабычы ў паляўнічай гаспадарцы рэспублікі прадугледжваецца і ўзнаўленне прамысловай фауны.

**Дубіна** (даўбешка) — апрацаваны чалавекам кавалак дрэва. Адзін канец тонкі, другі таўсцейшы. У традыцыйным паляванні выкарыстоўвалася пры адсутнасці больш дасканалых прылад, асабліва для дабівання звера, што папаўся ў пастку або ў залезы.

**Рагаціна** (штык) — палка з вострым жалезным наканечнікам. Вядома была ў цэнтральнай Беларусі яшчэ ў 30-х гадах XX ст. Выкарыстоўвалася пры адлове баброў.

**Стрэльба** (ружжо, пістаноўка). У этнаграфічным плане цікавы самаробныя стрэльбы, фабрычныя ружжы з самаробнымі дэталямі, розныя самапалы.

**Шомпал.** Прызначаўся для чысткі ствала стрэльбы. Вырабляўся з кавалка цвёрдага дроту.

**Парахаўніца** — спецыяльна апрацаваны рог каровы, казы. Мае драўлянае днішча і затычку ў вузкай частцы.

**Шратоўніца** — палатняны мяшэчак або невялікі драўляны цыліндр, які абшываўся тканінай.

**Пістонніца**—невялікая скрыначка для капсуляў.

**Торба паляўнічага.** Шылася з суконнай альбо палатнянай тканіны.

**Труба на лася.** Выраблялася з бяросты.

**Пішчалкі** (пішчыкі) — адпрацаваныя накшталт жалейкі птушыныя косткі, ґусінае пер'е, ліпавыя пруткі.

**Палаткі** (палацi) — зроблены на галінах дрэў памост, на якім, замаскіраваўшыся, сядзеў паляўнічы.




Рагаціна (а), адвёртка самаробная (б), рог для пораху (в), шратоўніца (г), торба паляўнічага (д), труба для прываблівання ласёў (е)

**Курэнь паляўнічага.** Будаваўся з галля. У ім паляўнічы падсцерагаў здабычу.

Для маскіроўкі выкарыстоўваліся таксама ямы, накрытыя галлём.

**Сіло** (пятля) — пятля з конскага воласу або тонкага дроту. Сіло на птушак прывязвалася звычайна ніжэй за прынаду. Птушка, дастаючы ягады, пра-



Ападныя самаловы




Ступіца (а), ступа (б), ападны самалоў на тхароў (в)

соўвала галаву ў пятлю і зацiскалася ёю. Як правіла, каля прынады падвешвалася некалькі петляў. Сіло на звяроў устанаўлівалася на звярыных сцежках.

**Вуды на птушак.** Пры паляванні на качак леска прывязвалася да шаста, што ўбіваўся ў дно вадаёма. Часам частку яе, сабраўшы ў маток, клалі на тарэц шаста і накрывалі каменем. Птушка, праглынуўшы кручок, імкнулася пазбавіцца ад яго, разматвала леску.

**Нераты** — рыбалоўныя пасткі з прынадай унутры. Выкарыстоўваліся для адлову птушак.

**Цянёты.** Былі вядомы аднасценныя, двухсценныя і трохсценныя (з адным густым палатном і двума рэдкімі, размешчанымі па абодва бакі густога). Устанаўліваліся на шляху лёту птушак або на звярыных сцежках.

**Ямы лоўчыя.** Капаліся на ваўка, лася, мядзведзя. Маскіраваліся галлём. На пакрыццё ямы клалі прынаду (для драпежнікаў).

**Ваўкоўня** — спіралепадобны калідор, зроблены з калоў, якія перапляталіся лазовымі пруткамі. Вострыя канцы іх не давалі магчымасці выйсці зверу, што прабіраўся да прынады (парася, ягня або кавалак мяса), якая агароджвалася ў канцы калідора. Пастка мела форму круга, у цэнтры знаходзілася скрынка з прынадай. Воўк заходзіў у пастку праз дзверы, якія пры спробе ваўка выйсці зачыняліся. Былі ваўкоўні і дашчаныя. Да ствала дрэва прыбівалася дошка, у верхняй частцы якой меліся два выразы, што звужваліся ўнізе. Над дошкай падвешвалася прынада (кавалак мяса).




Залезы (а), пастка на воўка (б)

**Самаловыападныя.** Складаюцца звычайна з дзвюх дошак, якія ў рабочым становішчы размяшчаюцца пад вуглом або паралельна адна да другой. У такім становішчы яны знаходзяцца дзякуючы «старажку» (пруток або планка). Старажок, прытрымліваючы ўдарную частку самалова (дошка з каменем), ніжнім канцом упіраецца ў выступ гарызантальнай планкі, на якой знаходзіцца прынада. Звер, крануўшы прынаду, збіваў з устойлівага становішча падпорку, яго прыціскала дошка. Лавілі так выдраў, лісаў, норак і іншых звяроў. Пры адлове куніц выкарыстоўваўся самалоў з жэрдак, якія прымацоўваліся да ствалоў трох дрэў, што раслі побач. Былі распаўсюджаны і самаловы, верхняя дошка якіх утрымлівалася вяровачкай з драўляным язычком, што праз адтуліну ў станіне прылады злучаўся з планкай, на якую клалася прынада. Такія самаловы выкарыстоўваліся пры адлове тхароў, пацукоў.

**Ступа на лася** — цурка з выдзеўбанай у тарцы выемкай. Устанаўліваліся па некалькі штук на ласінай сцежцы, што праходзіла праз балоцістую мясцовасць. Звер, пападаючы нагой у ступу, імкнуўся вызваліцца і загразаў у балоце.

**Ступіца з дзверцамі** (на ваўка, мядзведзя і іншых звяроў). Драўляная плаха з выдзеўбаным жолабам, у якім устанаўліваліся дзверцы, што зачыняліся пад дзеяннем сагнутых пругкіх палак. У адкрытым становішчы дзверцы ўтрымліваліся клінком, злучаным з планкай, якая знаходзілася паміж дзверцамі. Пад нагой звера планка вырывала клінок, дзверцы зачыняліся і заціскалі нагу.

**Залезы** (пасткі, кляпцы). Металічныя спружыністыя прыстасаванні. Выкарыстоўваліся з прынадай. Кранаючы прынаду, звер збіваў старажок і залезы зачыняліся.




Сіло птушынае (а), ваўкоўні (б, в)


Браим И. Н. Промысловые орудия и ремесленные изделия как памятники материальной культуры.— Мн., 1976.



# РЫБАЛОЎСТВА

Рыбалоўства на тэрыторыі Беларусі вядома з палеаліту. Пры першабытнаабшчынным ладзе яно з'яўлялася адной з важнейшых галін гаспадаркі. З развіццём земляробства і жывёлагадоўлі здабыча рыбы паступова станавілася дапаможным заняткам. У перыяд феадалізму рыбная лоўля належала да павіннасцей прыгоннага сялянства. У XIX ст. рыбалоўства набыло таварны характар.

Рыбу прадавалі на мясцовых рынках і вывозілі на Украіну, у Расію, Літву, Латвію, Польшчу. У Германію экспартыравалася рыбная луска, якая выкарыстоўвалася для вырабу штучнага жэмчугу. Акрамя таго, што рыба ішла на продаж, яна заставалася важным прадуктам харчавання мясцовага насельніцтва.

У савецкі час рыбалоўства стала прамысловай галіной. Шырокае распаўсюджанне атрымала таксама аматарска-спартыўная лоўля рыбы. Яна стала папулярным відам адпачынку працоўных.

Рыбалоўная тэхніка на Беларусі з даўніх часоў характарызуецца значнай разнастайнасцю. Пры раскопках паселішчаў першабытнаабшчыннай эпохі археолагі знаходзяць восці, рыбалоўныя кручкі і грузілы сетак. З старажытных часоў насельніцтва Беларусі карысталася рыбалоўнымі лавушкамі. Пісьмовыя крыніцы эпохі феадалізму і капіталізму сведчаць аб распаўсюджанасці рыбалоўных прылад. Усе прылады можна аб'яднаць у шэсць груп: сеткі, прылады тыпу невада, стаўныя лавушкі, рухомыя лавушкі, кручковыя снасці, ударныя прылады.

У цяперашні час выкарыстанне шэрагу традыцыйных снасцей забаронена правіламі рыбалоўства, некаторыя зніклі з-за сваёй архаічнасці. Частка прылад са зменамі ў матэрыяле і канструкцыі ўжываецца ў сучасным прамысловым і аматарскім рыбалоўстве. Большасць жа традыцыйных снасцей яшчэ можна выявіць у жыхароў вёсак, што размешчаны паблізу рэк і азёр.

**Сеткі.** У рабочым стане ўяўляюць сабой сеткавую сцяну з аднаго або трох сеткавых палотнішчаў, якія зверху і знізу па даўжыні трымаюцца на дзвюх вяроўках. На верхняй вяроўцы — паплаўкі, на ніжняй — грузілы. Пры дапамозе іх сетка ў вадзе ўтрымліваецца ў вертыкальным становішчы. Сеткавае палатно вязалася з тонкіх ільняных нітак (у цяперашні час сінтэтычных). Паплаўкі з сасновай або бярозавай кары, грузілы каменныя, керамічныя, металічныя. У вадзе сеткі ўстанаўліваюцца рухома або па цячэнні.

**Аднасценныя сеткі** (сеткі, цянёткі, ліпучкі, стаўкі) былі распаўсюджаны на Беларусі. У залежнасці ад рыбы мелі памер вочка і насілі назвы: лешчаніцы, акунёўкі, плотачныя,ператоны, сяляўныя сеткі, уклейніцы. Аднасценныя сет-

кі — снасці стаўныя. За выключэннем уклейніц, якія сустракаліся па ўсёй Беларусі, астатнія аднасценкі характэрны для рыбалоўства Паазер'я.

**Трохсценныя сеткі** (трыгубіца, абор, абарэц, сетка, рыжоўка, баўтуха, свіроўка, гант, гонка, дрыгавіца) складаліся з аднаго палотнішча з малымі вочкамі і двух палотнішчаў з вялікімі вочкамі. Рыбу ў сетку заганялі шастом з выдзеўбанай выемкай у тарцы або прымацаванай на канцы конусападобнай трубкай з бразготкамі. Мясцовыя назвы шаста: боўт, бурыла, аўрыч, брахун. Трохсценкі выкарыстоўваліся па ўсёй Беларусі.

**Невад** — сеткавае палотнішча з увязаным пасярэдзіне сеткавым мяшком або без яго. Як і ў сетках, у невадах маюцца паплаўкі і грузілы, але больш масіўныя. На канцах палотнішча дзве палкі (кабылкі, клячнікі). Да іх прымацоўваюцца вяроўкі, за якія цягнуць невад. Сеткавае палотнішча невада вязалася з моцнай, звычайна канаплянай, пражы (у цяперашні час — з сінтэтычных нітак). Для падлёднай лоўлі рыбы выкарыстоўваецца вялікі невад (даўжыня каля 400 м).

**Пешня** — палка з вострым металічным наканечнікам для прасякання палонак.

**Хохла** — жэрдка для працягвання вяроўкі пад лёдам.

**Сашыла** (шашыла) — жалезныя вілы, якімі праганяюць пад лёдам хохлу з вяроўкай.

**Крук** — выгнутая палка. На адным канцы яе жалезны наканечнік, на другім — перпендыкулярная да палкі ручка.

**Баба** — кубел без дна. Уверсе выемкі для жэрдкі. Варочаецца вакол восі, якая ўстаноўлена на санях. Сані замацоўваюцца на месцы пры дапамозе адцяжак — вяровак з круччам.

**Летні невад** (падвалока). Зроблены так, як і зімовы невад, але разы са два меншы. Рыбачылі пераважна ў адкрытай вадзе. Пры лоўлі на рэках выцягвалі яго на бераг саматугам. На азёрах часта выкарыстоўвалі спецыяльныя прыстасаванні — калаўроты, якія ўстанаўліваліся ў лодках. Утрымлівалася лодка на месцы якарам.

**Брэдзень** (браднік, валачок) — малы невад для лоўлі рыбы ўброд (каля 10 м даўжыні). На Магілёўшчыне сустракаліся брэдні з планкамі ў крылах.




Сетка аднасценная (а), боўт (б), трыгубіца (в), пешня (г), сашыла (д), крук (е), баба (ж)

**Мутнік** — невад для лоўлі рыбы на вялікіх глыбінях. Мае невялікія крылы і вялікую матню. На вяроўкі такога невада чапляюцца кавалкі сеткавага палатна і рознай даўжыні анучкі для мутнення вады. Каламута адганяе рыбу на шлях руху невада. Рыбачылі мутнікамі ў Паазер'і.

**Лата** (сцяна) — невад без матні. Прызначаўся для лоўлі рыбы на хуткім цячэнні. Яго выкарыстанне вядома на Гарыні, Шчары, Нёмане.

**Крыга** — сетка, прымацаваная да двух палазоў і палкі, якія злучаны паміж сабой так, што могуць прымаць любы вугал адзін адносна другога. Ловяць крыгай утраіх уброд. Развярнуўшы пад пэўным вуглом палазы, ахопліваюць водную прастору з травой і водарасцямі, затым прыпаднімаюць снасць над вадой для праверкі ўлову.

С т а ў н ы я л а в у ш к і — плеценыя з лазовых пруткоў ці сеткавыя на драўляным каркасе камеры, звычайна з лейкападобнай або плоскай перагародкай ва ўваходнай частцы. Перагародка перашкаджае выхаду рыбы, што зайшла ў камеру.

**Паплаў** (вароты, ніць, езавая сетка) — сеткавы мяшок з плоскаснай перагародкай унутры. Мяшок прымацаваны да двух шастоў, якія ў сваю чаргу рухома звязаны з каламі, што ўбіваліся ў дно вадаёму. Устанаўлівалі паплавы зімой у палонках, вясной — у праходах плеценых або зробленых з частаколу платоў — езаў, якімі перагароджвалі пратокі, рэчкі. Паплавы размяшчаліся ў вадаёмах і без езаў. Карысталіся імі рыбаловы Палесся, цэнтральнай Беларусі, Прыдняпроўя.

**Кацец** — круглая загарадка, зробленая з частаколу, або плятнёвая камера з




Невад (а), вараток (б), якар (в), чаўнок (г) дошчачка для вязання сетак (д), крыга (е), паплаў (ж)

адыходзячымі ад яе ўваходнай часткі перагародкамі, што накіроўваюць рыбу ў загарадку. Катцы былі вядомы на Палессі.

**Буч** (буча, вярша, кош, морда) — плецены з лазовых пруткоў або зроблены з драніцы конус або цыліндр. Ля ўваходу ў камеру лейкападобная перагародка (горла, вершак, усцінак, навустак), накіраваная вузкай часткай унутр камеры. Бучы выраблялі аднагорлавыя (накшталт конуса) і двухгорлавыя (накшталт цыліндра). Апошнія ў асноўным выкарыстоўваліся для лоўлі ракаў. Сустракаліся конусападобныя бучы з пірамідальным горлам (Панямонне) і без горла (Падняпроўе). У бязгорлавых бучах рыба ўтрымлівалася напорам вады.

**Нерат** — лавушка, падобная да аднагорлавага буча, але з сеткі, якая нацягвалася на драўляны каркас. Нераты ўстанаўліваліся ў вадзе самастойна і разам з езамі. На Беларусі былі распаўсюджаны гэтыя лавушкі ў форме поўнага конуса і конуса, раздзеленага папалам. Першыя больш характэрны для Палесся, другія — для Паазер'я.

**Венцер** (жак). Складаецца з сеткавага мяшка — куля, нацягнутага на 3—5 лазовых абручоў, і аднаго або двух сеткавых крылаў, якія адыходзяць ад горла куля. Крылы перагароджвалі шлях рыбе і накіроўвалі яе ў куль. Горлаў у кулі адно або два. Сеткавае палатно крылаў нацягвалася на планкі. Да канца крылаў і глухога канца куля прымацоўваліся калы, пры дапамозе якіх венцер устанаўліваўся ў вадзе. Аднакрылыя венцеры прызначаліся для лоўлі рыбы ў стаячай вадзе, двухкрылыя — на цячэнні.

**Мярэжа.** У адрозненне ад венцера мела два кулі, злучаныя сеткавай сцяной. Уваходныя абручы кулёў мелі фор-




Нярэжка (а), каробка (б), бучы аднагорлавыя (в, г, д) буч двухгорлавы (е)

му паўкруга. У кулях мярэжы адно або два горлы. Мярэжы былі распаўсюджаны ў Паазер'і.

**Нярэжка** — сеткавы мяшок з тонкіх ільняных нітак. Прымацоўваўся да двух калоў, якія ўбіваліся ў дно вадаёму і трымалі сеткавы мяшок адкрытым. Прызначаліся нярэжкі для лоўлі рыбы ў час нерасту. Рыба заходзіла ў мяшок і, імкнучыся выйсці з яго, вырывала калы, і мяшок зацягваўся. Нярэжкі былі распаўсюджаны на Палессі.

**Каробка** (кош, дух, рэшата) — пасудзіна з прутоў, дранак або лубу. Мела горла замест дна. Нярэдка для вырабу прылады выкарыстоўваліся старыя рашоты. Каробкі ўстанаўліваліся ў палонках. Палонка закрывалася зверху галінкамі сасны і прысыпалася снегам. Прызначаліся прылады ў асноўным для лоўлі ўюноў. Асноўны раён распаўсюджання — Палессе. Былі вядомы таксама ў цэнтральнай Беларусі.

**Скрыпка** (кош) — аднагорлавы буч з прыбудаваным да ўваходнай часткі карытцам. Як і каробка, устанаўлівалася ў палонках. Бытавала ў Падняпроўі.

**Ват** — сеткавы мяшок, прымацаваны да драўлянай рамы. На вяроўках апускаўся там, дзе вада струменілася ля вадзянога млына. Ват быў вядомы на Палессі.

Па форме рухомыя лавушкі падобны да стаўных, але рыба ў іх не ўтрымлівалася спецыяльнымі перагародкамі або напорам вады. Як толькі рыба заходзіла ў камеру, яе разам са снасцю даставалі з вады.

**Таптуха** (кош, баўтуха, сетка). Мела форму палавіны конуса. Сустракалася і пірамідападобная. Таптуху выраблялі з сеткавага палатна, якое нацягвалася на ўстойлівы драўляны каркас. Найбольш архаічны тып — плеценая з пру-




Нераты (а, б), венцер аднакрылы (в), венцер двухкрылы (г), мярэжа (д), каробка (е)



Скрыпка (а), каробкі (б, в), ват (г)

тоў. Рыба ў таптуху заганялася нагамі. Снасць была распаўсюджана на ўсёй Беларусі.

**Кломля** (комля, кашэла, баўтуха, баўтуша, брэдзень). Мела форму трохвугольнай прызмы, бакавыя грані якой, за выключэннем адной, зацягнуты сеткай. Архаічны тып — прутковая кломля. Ловяць кломляю ўброд або з лодкі. Была распаўсюджана на Палессі.

**Сак** (сетка) — сеткавы мяшок, прымацаваны да абруча, які меў форму паўкруга. Да абруча ў двух месцах прымацавана ручка. Лавілі сакам уброд або з лодкі. Рыба ў сетку заганялася нагамі, шастом, вяслом. Вядома на ўсёй Беларусі.

**Падсака** (сачок, падхватка, хватка) падобна на сак, але значна меншых памераў і з больш закругленым абручом. Ручка прымацавана да абруча ў адным месцы. Выкарыстоўвалася як падсобная прылада для лоўлі рыбы невадам і некаторымі іншымі снасцямі. Сустракалася на ўсёй Беларусі.

**Хапун** (павук, павучок). Да двух перакрыжаваных дуг прымацоўвалася сеткавае палотнішча. У месцы перакрыжавання прывязваўся шост (ручка). Лавілі з лодкі і з берага. Хапунамі лавілі ў Паазер'і.

**Волак** — сеткавы мяшок, прымацаваны да двух шастоў. Ад мяшка адыходзяць дзве вяровачкі (старажы). Як толькі адчуваюць, што ў мяшку ёсць рыба, адразу ж вымаюць мяшок. Ловяць волакам з двух лодак. Сустракаўся на ўсёй Беларусі.

**Брадан** (браднік) — тое ж, што і волак, але з планкай, якая злучае ніжнія канцы шастоў. Прызначэнне — лоўля рыбы з адной лодкі і ўброд.

**Настаўка.** Па форме падобна да ўсечанага конуса. Архаічны тып — прутковая настаўка, больш пазнейшы — сеткавая на драўляным каркасе. Сетка двухсценная або трохсценная. Большая настаўка мела ручку — пруты каркаса, што злучаліся канцамі. Малыя




Таптухі (а, б, в), кломля (г), сак (д)




Падсак (а), хапун (б), волак (в), бардан (г), настаўка (д)

настаўкі без ручкі. Настаўку апускалі на дно і вяслом заганялі рыбу ў сетку. З вады рыбу даставалі рукамі. Лавілі настаўкамі на Палессі.

**Вуды.** Складаюцца з лескі, якая вілася з валасоў каня або нітак (сучасная — сінтэтычная), грузіла, паплаўка, вудзільна. Паплаўкі выраблялі з кары, коркаў, гусіных пёраў; кручкі з дроту або з сучкоў дрэва. Донныя вуды не мелі паплаўкоў. На цячэнні выкарыстоўваліся напраўныя вуды або пераваловкі, прымацаваныя вудзільнам да вяроўкі, што перацягвалася цераз раку, і лескай — да кошыка ці мяшэчка з прыкормам. Напраўнымі вудамі лавілі на Дняпры.

**Старажня** (рагулька, пастоўня, постаражэнь, жэрліца) — драўляная рагулька з наматаным на яе шнурам, на канцы якога кручок з жыўцом. Старажня падвешвалася да галін куста або да шаста. Снасць была вядома ў цэнтральнай Беларусі і Падняпроўі.

**Перамёт** (шнур) — шнур з прывязанымі да яго кручкамі, на якія насаджвалася прынада. Распаўсюджаны на ўсёй Беларусі.

Для лоўлі самоў ужываўся шнур з кручком на канцы. Да кручка з прынадай самы прываблівaліся гукам, які ўзнікаў ад ляскату па вадзе спецыяльнай лыжкай — клокам. Рыбачылі такім спосабам на рэках.

**Аблітня** (блісня, трасучка, дзёргалка) — невялікая вудачка для падлёднай лоўлі рыбы. Мела кручок, упаяны ў алавяную пласцінку.

**Дарожка** — медная пласцінка з прыкляпаным на канцы кручком ці якарком. Цягнулася за лодкай на шнуры, які наматваўся на калаўрот. Шлях пласцінкі ў вадзе зігзагападобны.

**Матылёк** (матыль) — блешня, якая круціцца на дроціку. На канцы дроціка




Кручок драўляны (а), клок (б), аблітня (в), дарожка (г), восці (д), старажня (е)

якарэц. У астатнім матылёк падобны на дарожку.

**Драка** — металічная пласцінка з прыкляпанымі да яе адным або двума кручкамі. Прызначалася для лоўлі ментузоў у час нерасту. Рыбу прывабліваді пагойдваннем пласцінкі. Як толькі рыбіна праплывала над пласцінкай, яе рэзкім рухам падчэплівалі за жывот. Вядома была лоўля дракай на Браслаўскіх азёрах.

**Восці** (астрога). Шост з жалезным наканечнікам, які налічвае ад 2 до 10 і больш зубцоў з завусеніцамі. Рыбачылі днём на нерасце, пры прыдухах, ноччу — з агнём, які гарэў у кошыку, што плёўся з дроту або вырабляўся з металічных пласцінак (каза, светач, накра). Кошык на шасце прымацоўваўся ў носе лодкі або чоўна.

**Багор** — шост з прымацаванымі на канцы двума (або адным) крукамі.

**Сіло** (пятля). Пятля з конскага воласу. Выкарыстоўвалася для лоўлі невялікіх шчупакоў, што ў спякоту стаяць блізка каля паверхні вады.

**Лібіла** — палка з прывязаным куском мяса. Выкарыстоўвалася для лоўлі ракаў.

**Рыбнік** зроблены з пруткоў або драніц.

**Шкудка** — невялікая лодка з палубай. Прызначалася для транспарціроўкі жывой рыбы. Для цыркуляцыі вады ў бартах прасвідроўваліся дзіркі.

**Лядоўня** — невялікае зрубнае збудаванне або склеп для захоўвання замарожанай рыбы.

**Курэнь рыбацкі** — конусападобнае збудаванне з галля, драўляных пласцін, якія зверху накрывалі сенам і дзёрнам. Абапіраліся сцены на жэрдкі, якія ляжалі на ўбітых у зямлю сошках. У адной з сцен пакідаўся праём. Унутры курэня адводзілася месца для вогнішча. Дым выходзіў праз адтуліну ўверсе.




Рыбнікі (а, в), шкудка (б), човен з пакорай (г), човен з накрыўкай (д)

Браім І. М. Рыбалоўства ў Беларусі.— Мн., 1976.



# БОРТНІЦТВА

Бортніцтва — найбольш старажытная форма культурнага пчалярства, заснаванага на развядзенні і ўтрыманні пчол у борцях — штучных дуплах, выдзеўбаных у дрэвах. Развіўшыся з «дзікага» пчалярства, калі чалавек задавальняўся мёдам са знойдзеных гнёздаў лясных пчол, бортніцтва шырока распаўсюдзілася і на працягу шэрагу стагоддзяў задавальняла патрэбы славян, у тым ліку і беларусаў, у мёдзе, а таксама такіх прадуктах пчалярства, як воск і прапаліс.

Паступова бортніцтва замяняецца калодачным, а пасля вынаходства П. І. Пракаповічам у 1814 г. рамовага вулля — рамовым пчалярствам. Па пераемнасці калодачнае пчалярства ўспрыняло ранейшую назву і доўгі час называлася бортніцтвам. Абумоўлена гэта было тым, што выраб калоды, спосаб догляду пчол, бортны інструмент і тэрміналогія засталіся ранейшымі. Розніца заключалася толькі ў адным: борць выдзёўбвалі ў жывым дрэве, а калодачны вулей — у спілаваным.

У першапачатковай, так званай чыстай, форме, бортніцтва цяпер — рэліктавы від пчалярства і сустракаецца спарадычна, у той час як калодачнае яшчэ бытуе на Беларусі паралельна з рамовым.

Бортніцтва выпрацавала спецыфічныя прылады і прыстасаванні, якія без істотных змен, пад рознымі назвамі або ў іх варыянтах вядомы на ўсёй тэрыторыі рэспублікі.

Бортная тэрміналогія ў беларусаў, украінцаў і палякаў не мае істотных адрозненняў. Гэта сведчыць аб тым, што бортніцтва ўзнікла ў перыяд агульнаславянскага адзінства.

**Борць** (барць, бартак, бордзь, боруць) — вулей-дупло, выдзеўбаны ў жывым дрэве, пераважна хвоі, дубе, ліпе, асіне. Камера борці мае цыліндрычную або трапецападобную форму.

У борці вылучаюць галаву (шапку), дзе знаходзіцца рой, сярэдзіну, дзе размяшчаюцца соты, і подак (пята, дно, под), куды ападаюць прадукты жыццядзейнасці пчол і пры неабходнасці ставяць падкормку (падкармячку).

**Доўжня** (даўжнік, доўж, лазейка, тварка, века) — прамавугольная адтуліна памерам 60×14 см, праз якую бортнік мае доступ у сярэдзіну борці пры доглядзе пчол і падрэзцы мёду.

**Доўжань** (длужня) — дубовы брусок са скошанымі краямі, якім закрываецца доўжня. Доўжань старанна дапасаваны па памерах доўжні. У некаторых раёнах доўжань робяць з двух частак — верхняй і ніжняй.

**Снет** (снед, сняток) — дубовая дошка, якой дадаткова закрываецца ўваход у борць. Прымацоўваецца да ствала дрэва або корпуса калодачнага вулля паверх доўжаня пры дапамозе драўляных пальцаў.




Стайліна (а), стайліна з астраўкамі (б), борць (в), папярочны і падоўжны разрэзы борці (г)

**Ляток** (лётка, лётва, вока) — невялікая круглая адтулінка для вылету пчол.

**Крыжачок** (грабёнка) — прыстасаванне са скрыжаваных або паралельных планак, на якіх мацуюцца соты.




Калоды: а, б — стаякі, в — ляжак

**Знамя** (знак, кляйно) — высечаная на дрэве каля борці метка, якая вызначала прыналежнасць бортнага дрэва таму ці іншаму гаспадару. У аснове кампазіцыі знамёнаў ляжаць розныя геаметрычныя матывы: спалучэнне трохвугольнікаў, кольцаў, дужак і г. д.



Знамёны



Вабікі



Калоды, пераабсталяваныя пад рамовыя вуллі: а, б — стаякі, в, г — лежакі



Блізняк

Бортная дрэва называлася **стайліна.** У лесе, на палявых межах, на старых могілках, а часам і на сялянскіх сядзібах яшчэ і цяпер можна знайсці стайліну. Дрэва з дзвюма борцямі называлі блізняком, з трыма — маткай, з чатырма — каралевай. Хваёвыя стайліны звычайна былі крамлёнымі — са ссечанай вяршыняй (шчыкам). Такое дрэва разрасталася ў таўшчыню і набывала большую ўстойлівасць супраць ветру. Кожная стайліна, якая захавалася да нашага часу, з'яўляецца надзвычай каштоўным помнікам матэрыяльнай культуры.

**Калода** (корань, каранёк, каранік, даўбяк, наварацень) — вулей, выдзеўбаны ў дубовай або хваёвай калодзе. Тэхніка вырабу, назвы частак і іх дэталяў такія ж самыя, як і ў борці. У некаторых раёнах іх дагэтуль называюць борцямі.

Па спосабу ўстаноўкі адрозніваюць два віды калодачных вулляў: стаяк і ляжак (лежань). Першы ўстанаўліваюць



Спосабы ўстаноўкі калод на дрэвах




Формы доўжняў: а — борць, б, в, г — калоды




Формы ляткоў: а — конусная, б — трохвугольная, в — ромбападобная




Формы доўжняў: а — борць, б, в — калоды




Крышка калоды (а), накрыўкі (б, в)




Крыжачкі



Ахоўны пояс з кудзелі

вертыкальна, другі — гарызантальна або пад вуглом каля 45° адносна паверхні зямлі.

**Станавіска** — падстаўка, на якой устанаўліваюць вуллі-стаякі.

**Вабік** (доўбанка, раёўнік, настаўка, навузнік, навужнік, стаўбун, стаўка) — вулей для прываблівання пчаліных раёў. Знешнім выглядам і формай нагадвае калодачныя вуллі, але значна меншы за іх. Вабікі рэдка выдзёўбваюць, часцей іх робяць з яловай кары або лубу. Устанаўліваюць на дрэвах, у садах і на лясных ускраінах.

Поруч з калодамі бывалі плеценыя вуллі, але шырокага распаўсюджання не атрымалі з прычыны таго, што саламяныя і лазовыя вуллі неабходна на зіму пераносіць у спецыяльнае памяшканне.

**Саламянік** — вулей, сплецены з моцна скручаных саламяных жгутоў, перавітых па вертыкалі расшчэпленымі дубцамі лазы-малакіты. Як і калодачныя вуллі, бывалі ў дзвюх формах. Стаякі мелі выгляд цыліндра або ўсечанага конуса, лежакі нагадвалі куфры з пукатым векам.

Пры добрым медазборы, калі мёд не змяшчаўся ў асноўным корпусе саламянага стаяка, яго можна было павялічыць надстаўкай. Цыліндрычныя і канічныя саламяныя вуллі накрываліся канічнай накрыўкай. На вялікіх пасеках саламяныя вуллі размяшчалі ў некалькі ярусаў у паветках з адной або трыма сценкамі.

**Лазовы вулей** — вулей з неакораных лазовых дубцоў, выкананы ў тэхніцы рабрыста-спіральнага пляцення. Сценкі такога вулля абмазвалі глінай.

Саламяныя і лазовыя вуллі на зіму пераносілі ў рублены імшанік або абмазаную глінай лазовую мурню. Калодачныя вуллі зімавалі звычайна на пасеках.

**Лязіва** (лазіва, лазня, ліна, ліня, плець, жэнь) — прыстасаванне, якое выкарыстоўваў бортнік, калі ўзбіраўся на бортнае дрэва. Асноўная частка лязіва — сплеценая з пяці палосак сырамяці або канапель вяроўка (даўжыня 25—30 м) з сядзёлкай (сядзелка, крэсла, лязвеня) на адным і драўляным крукам або пятлёй на другім канцы. Паміж імі, бліжэй да сядзёлкі, знаходзіцца казёл — прыстасаванне з бярозы-чачоткі для рэгулявання лязіва. У XV—XVI стст. лязіва плялі з лыка.

**Подкур** (падкур, адзёр, адонак, пасцель) — памост з тоўстых дошак (тарчыц) вакол дрэва з вострымі драўлянымі спіцамі (да 1 м). Бараніў борці, а пазней і калодачныя вуллі ад мядзведзяў. Узлазілі на подкур па астроўках — яліне з каратка абцятымі сукамі.




Саламяныя вуллі: а, б — стаякі, в — ляжак, г — шапка стаяка, д — надстаўка стаяка



Подкур з самабіткамі і астроўкамі




Лязіва: а, б — у зборы, в — казёл, г — сядзёлка, д — тэхніка пляцення лязіва




Калоды: а — з колам, б — з калаўротам



Матачнікі

**Самабітка** — дубовая калода, радзей камень, што вешалі ўздоўж сствалоў дрэў для абароны борцяў ад мядзведзяў.

**Кадол** — прыстасаванне з кола або вората і вяроўкі для пад'ёму калодачных вулляў на дрэвы.

**Пырскач** — помпа (драўляны цыліндр і поршань). Выкарыстоўваўся для апырсквання рою.

**Ройніца** (раёўніца, раёўня, райніца, ройнік, лупка, каробка, каробачка) — лубовы посуд з палатняным донцам для збірання і пераноскі рою.




Бортны інвентар: а — сетчаты матачнік, б — скамы (зверху), клінок (знізу), в — сітак




Бортны інвентар: а — дымакур, б — зубель, в, г — раёўніцы




Бортны інструмент: а — цясла, б — скобка аднаручная, в — лапацень, г — пешні, д — размер, е — рэзічка, ж — барта

**Матачнік** (матачніца, рашотка, рашатня) — квадратная, круглая або авальная драўляная каробачка на ручцы ці без яе, з кратаванымі сценкамі і вечкам. Выкарыстоўвалася для ўтрымання маткі.

**Скамы** (ціскі, клешчы) — прыстасаванне для выціскання мёду пры дапамозе кліноў.

**Сітак** (сіта, сітца, сетка, каробачка) — прыстасаванне для аховы твару, галавы і плеч бортніка ад укусаў пчол. Складаецца з лубяной каробачкі з нацягнутай валасяной сеткай і паўкруглага кавалка палатна — капюшона.

**Зубель** (курэль, курач, курадымка) — палачка з накрыж расшчэпленым канцом, у які заціскалі курашку — гнілушку або скручаную анучу. Выкарыстоўвалася для акурвання пчол.

**Дымакур** (дымар) — прыстасаванне з паддувалам для акурвання пчол.

**Лазьбень** (лубачка) — лубяны посуд з падвойным дном і прапушчанай пад ім вочапкай. Служыла для складвання мёду пры падглядзе пчол.

**Кадаўб** (кайдуб, калдуб, кадаўба) — выдзеўбаная з дрэва ёмістасць для працяглага захоўвання мёду.

**Дуплёнка** (дуплянка) — дзежачка для захоўвання мёду.

**Ліпаўка** (ліпечня, лазобка, лубка, мядоўка) — выдзеўбаная з ліпы бочачка з устаўным дном і вечкам для захоўвання мёду.

**Берастоўка** — бочачка з бяросты з драўляным донцам і вечкам для непрацяглага захоўвання мёду.

**Барта** (барда, серка, гак) — сякера з шырокім лязом і кароткім тапарышчам, ужывалася пры вырабе борці.

**Рэзічка** (нож-мёдарэз) — нож для падрэзкі верхніх пластоў мёду пры падглядзе пчол.

Пры вырабе борцяў ужываліся таксама такія плотніцкія інструменты, як пешня, цясла, скобка аднаручная, лапацень, размер.

---

Гуркоў У. С., Цярохін С. Ф. Бортніцтва.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1978, № 2.



# ГАНЧАРСТВА

Беларускае народнае ганчарства характарызуецца ўстойлівымі вытворчымі традыцыямі з выразнымі лакальна-тэрытарыяльнымі асаблівасцямі ў тэхналогіі апрацоўкі і фактуры, формах і назвах вырабаў, прыладах працы. Па асаблівасцях традыцыйнай фактуры, якая атрымлівалася пры вырашэнні пэўных тэхналагічных задач — змяншэння порыстасці і водапранікальнасці керамікі, на тэрыторыі Беларусі вылучаюцца два рэгіёны: паўднёвы і паўночны.

Першы ахоплівае поўдзень Гродзеншчыны (Поразава), большую частку Брэстчыны (Гарадная, Кобрын, Пагост-Загарадскі, Плябанцы, Пружаны, Ружаны, Шарашова), Гомельшчыну (Лоеў, Камарын, Стрэшын, Юравічы) і паўднёвы захад Магілёўшчыны (Бабруйск). Для гэтай тэрыторыі тыпова чорнагланцаваная, або задымленая, кераміка. Выключэннем з'яўляецца толькі гліняны посуд асобных ганчарных цэнтраў, які пасля абпальвання захоўваў натуральны белы ці з крэмавым адценнем колер. Гэта тлумачыцца асаблівасцю мясцовай каалінавай гліны.

Паўночны рэгіён ахоплівае Віцебшчыну (Глыбокае, Дзісна, Дуброўна, Бабінавічы, Старая Будаўка, Сураж, Сухачэва, Чашнікі, Экімань, Гарадок), Магілёўшчыну (Благаўка, Літвінавічы, Новае Вільянова, Касцюковічы, Хоцімск, Русакі, Стары Дзедзін), Міншчыну (Сіняўка, Ганевічы, Маствілавічы, Дарасіно, Сямёнавічы, Рэчкі, Лыжычы, Сяроды, Куранец), усходнюю частку Гродзеншчыны (Морына, Малыя Карнышы, Крэчаты, Заблацце, Ладзенікі, Крывічы, Мір), поўнач Брэстчыны (Ясінец, Пруды, Грачыхі, Кутаўшчына). Ён характарызуецца вырабам рабой, або гартаванай, абварной керамікі. Але ў многіх цэнтрах ганчарства (Мір, Глыбокае, Дзісна, Бабінавічы, Малыя Карнышы, Ясінец, Пруды, Дуброўна і інш.) адначасова з традыцыйным для гэтага рэгіёна гартаваным посудам рабілі і задымлены.

Выраб палівы, вядомы яшчэ ў сярэдневяковых гарадах Беларусі, распаўсюдзіўся галоўным чынам па мястэчках абодвух рэгіёнаў у другой палове XIX ст. і асабліва ў першай палове XX ст. Паліва была новай з'явай у народнай тэхналогіі засцерагальнай ап-



Чорнагланцаваная кераміка (в. Пагост-Загарадскі Пінскага р-на Брэсцкай вобл.)

рацоўкі керамікі. У адных цэнтрах ганчарства (Івянец, Ракаў, Крэва, Ружаны, Гарадная, Крычаў, Ясінец, Юравічы і інш.) яна паступова цалкам замяніла старажытныя спосабы знешняй апрацоўкі гліняных вырабаў, а ў іншых працяглы час бытавала паралельна з традыцыйным гартаваннем і задымліваннем.

Найбольш пашыранымі на Беларусі відамі мастацкага аздаблення вырабаў былі граціраванне і глянцаванне. Роспіс керамікі распаўсюдзіўся толькі ў мястэчках і гарадах пераважна ў пачатку XX ст.

Кераміка паўднёвага і паўночнага рэгіёнаў адрозніваецца таксама і па форме. Для поўдня са старажытных часоў тыповым быў добра прафіляваны акруглы сілуэт посуду з выразна прапрацаванымі дэталямі — венцам, шыйкай, тулавам. Керамічны посуд для гатавання ежы (гаршкі, прыжэрнікі) меў




Прылады і прыстасаванні для апрацоўкі гліны: а, б — доўбні, в — тарка, г — скрэбачка, д — зэдаль




Ганчарныя прылады і прыстасаванні: а — карыта, б, в, г, д — мяшалкі

вуха. Адметнымі рысамі форм паўночнага рэгіёна была падоўжанасць прапорцый, слабая прафіліроўка сценак. Але ў некаторых мястэчковых цэнтрах ганчарства (Ракаў, Івянец і інш.) посуд вызначаўся адносна добрай прафіліроўкай. Гэта тлумачыцца ўплывам традыцый з поўдня, якія ў той або іншай ступені ўспрымаліся ганчарамі цэнтральнай часткі Беларусі — ускраіны паўночнага рэгіёна.

Рамесная вытворчасць керамікі, галоўным чынам посуду, у другой палове XIX — пачатку XX ст. ажыццяўлялася ў асноўным местачковымі і вясковымі ганчарамі. У мястэчках паступова пачалі з'яўляцца спецыяльныя майстэрні — ганчарні, у якіх ужывалі больш да-



Ручныя аднадыскавыя ганчарныя кругі




Ручныя ганчарныя кругі: а — аднадыскавы, б — аднадыскавы з крыжавінай, в — двухдыскавы

сканалыя і разнастайныя прылады, прыстасаванні і тэхналогію. Але ў цэлым народная тэхніка ганчарнага рамяства, асабліва вясковага, вызначаецца традыцыйнасцю. Асноўныя рамесныя прылады і прыстасаванні былі вядомы яшчэ ў старажытнасці.

У нарыхтоўцы і апрацоўцы сыравіны (гліны, жарствы, глею, металаў і іх вокісаў) ужываліся галоўным чынам агульнавядомыя амаль што ў кожным паселішчы прылады працы: рыдлёўкі і капаніцы; стругі і косы, якімі стругалі гліну; для расцірання перапаленага свінца, волава, медзі (зялёнка), кавальскай дзындры (цындра), вокісу марганцу (бруштын, брухшта) і глею, з якіх рабілася празрыстая і каляровая паліва, выкарыстоўвалі звычайныя жорны; у чыгуне або катле, радзей невялікай металічнай скрынцы (каробка) перапальвалі свінец, волава, медзь; для прасявання жарствы, жвіру, вокісаў металаў ужывалі круглае або чатырохвугольнае сіта. Адначасова пры апрацоўцы сыравіны выкарыстоўваліся спецыяльныя прылады і прыстасаванні.

**Доўбня** (доўбенька, даўбешка, кука, кукешка, чакуха) — драўляны молат, якім разбіваюць гліну. Ужывалася на Палессі, Падняпроўі і поўначы рэспублікі. З гэтай жа мэтай на ўсходзе Гродзеншчыны (Мір, Брацянка) выкарыстоўвалі звычайны пранік.

**Карыта** — скрыня з тоўстых дубовых дошак, у якой захоўваюць і рыхтуюць гліну. Ужывалася на поўначы Брэстчыны (Ясінец). На Верхнім Падняпроўі (Старая Будаўка) гліну рыхтавалі ў жолабах, зробленых з асінавага або ліпавага бервяна. У іншых ачагах ганчарства выкарыстоўвалі ночвы.

**Тарка** — прылада для драблення гліны. Распаўсюджана галоўным чынам у мястэчках і гарадах на захадзе і паўночным захадзе Беларусі.

**Зэдаль** — прыстасаванне ў выглядзе нахіленай падстаўкі, на якой таркуюць гліну на ўсходзе Гродзеншчыны.



Нажныя ганчарныя кругі з нерухомай воссю




Інструменты для вырабу цацак і посуду: а, б — формы, в — горлышка, г — трасціна, д — шыпуль, е, ж, з, і, к, л, м, н — шыналі



Нажны ганчарны круг з рухомай воссю

**Скрэбачка** — металічная пласцінка, якой выбіраюць з гліны мінеральна-раслінныя дамешкі. Выкарыстоўвалася на ўсходзе Гродзеншчыны.

**Пліта** (камень) — буйны камень з увагнутай паверхняй або авальнай выемкай зверху, на якім уручную расціралі жарству невялікім каменем (бітун, бітук, бітушнік, баец, баёк). Распаўсюджаны ў паўночным рэгіёне. Мае падабенства з зерняцёркамі, якія, паводле




Ганчарныя прылады і прыстасаванні: а, б — пытлікі, в — вожух, г — ляшчоткі, д — зрэзка, е — ражок

археалагічных даследаванняў, паявіліся ў эпоху неаліту і былі ва ўжытку на тэрыторыі Беларусі да V—VI стст. Замест пліты часам выкарыстоўвалі звычайныя драўляныя ступы і жорны.

**Ганчарны круг** (круг, кружок, станок, варштат, пагон) — прылада, пры дапамозе якой фармуюць керамічныя вырабы, галоўным чынам посуд. Вырабляўся з бярозы, сасны, а яго вось (верацяно, пуп, шпень, калок, слунок, шворань, прэнт, ствол) — з цвёрдай пароды дрэва або жалеза.

Найбольш старажытнай і архаічнай формай з'яўляецца ручны ганчарны круг, вядомы ў паўночным рэгіёне беларускага ганчарства. Ён складаўся з аднаго-двух дыскаў ці дыска з крыжавінай на нерухомай восі, якая прымацоўвалася да зэдліка, дошкі або калоды.

На захадзе, поўдні, часткова ў цэнтральных і ўсходніх раёнах Беларусі быў распаўсюджаны двухдыскавы нажны ганчарны круг з чатырма, шасцю або васьмю спіцамі на нерухомай восі, якая мацавалася да падстаўкі або падлогі. У навуковай літаратуры ён вядомы таксама як круг пераходнага тыпу ад ручнога да нажнога з рухомай воссю.

Нажны ганчарны круг з рухомай воссю распаўсюдзіўся на Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст., галоўным чынам у паселішчах гарадскога і местачковага тыпу. Ён складаўся з двух дыскаў — вялікага ніжняга (сподак, спадняк, споднік, кацёлка, кружэлка, круг) і малога верхняга (верх, вярхняк, верхнік, вяршок, кацёлка, галоўка, кружок, кружэлка, кружка). Абодва дыскі былі насаджаны на вось, ніжні канец якой упіраўся ў спецыяльную падстаўку (паўпрыца, парпліца, бабка, чашачка, панеўка, камень, снарад). Вось круцілася разам з дыскамі і мацавалася кранштэйнам (лапа, лісіца, клешчы) да лавы.

**Дошчачка** — падстаўка, на якой лепяць посуд з авальнай формай дна — доўгія латушкі (ваза, прыжэрнік, пражэльнік).

**Форма** (палачка) — драўляная палачка, на якой лепяць керамічныя цацкі.

**Праколка** (горлышка, трасціна, шыпуль) — драўляная палачка, якой праколваюць у цацках адтулінкі для свісту.

**Шыналь** (шынэлік, шналь, шнара, шнарык, ножык, ножка, падчыстка) — трохвугольная або чатырохвугольная драўляная пласцінка для абточкі сце-

нак, краеў посуду і аздабленне яго гравіраванымі прамымі і хвалістымі (крывулькі) лініямі.

**Блізна** (палатнік, пэндзаль) — кавалак тканіны для загладжвання сценак і краеў посуду, які выраблялі з гліны і жарствы.

**Драчка** — драўляны грэбень, якім рабілі рысачкі на ўнутранай паверхні церніц для надання сценкам шурпатасці. Ужывалася на захадзе Міншчыны.

**Зрэзка** (рэзка, падрэзанка, струнка, дрот, медзь, нітка) — звычайна металічная ніць з палачкамі або трапачкамі па канцах для падрэзкі посуду з нажнога ганчарнага круга. Часам выкарыстоўвалася для стругання гліны.

**Пытлік** (сітнік, сітца) — прыстасаванне для абсыпання вырабаў парашком глазуры. Керамічны, радзей драўляны ці металічны з густой валасяной або шаўковай сетачкай.

**Пэндзлік** (перца) — прылада для роспісу керамікі фарбамі.

**Ражок** — каровін рог, да вострага канца якога прымацавана гусінае пяро (пісчык) для роспісу керамікі фарбамі. Быў распаўсюджаны часткова ў мястэчках і гарадах на поўначы і паўночным захадзе Беларусі.

**Крамушка** (грамушка) — крэмень для глянцавання паверхні посуду. Ужываўся ў паўднёвым рэгіёне.

**Карбоўка** — драўлянае зубчастае кольца, якім наносяць дэкаратыўныя насечкі (рубежыкі). Выкарыстоўвалася на Палессі (Гарадная).

**Вожух** (вожаг, пожах, качарга), ляшчоткі (клешчы) — прылады, якімі выцягваюць з печы і апускаюць у брагу (паджога, пажога, абвара, абара) гартаваццa або абварваццa абпалены посуд. Распаўсюджаны ў паўночным рэгіёне.

**Горан** (гарон, гарно, гартоўня) — печ для абпальвання керамікі. Будаваўся з каменняў, цэглы, гліны. Вядомы двух відаў: напольны і крыты. Наполь-



Кольцападобны горан (в. Гарадная Столінскага р-на Брэсцкай вобл.)



Двухкамерны чатырохвугольны горан (в. Ясінец Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл.)



Гаршкі (а — г. п. Мір Гродзенскай вобл., б — г. Пружаны Брэсцкай вобл.)

ныя горны размяшчаліся воддаль ад жылых і гаспадарчых будынкаў і былі заглыблены ў зямлю. Перад вусцем топкі (печ, пячора, чалеснікі, пелюсць) рабілі яму для дроў (паленнік, шыя, буда, прыгорніца), якая часам мела стрэшку. На тэрыторыі паўднёвага рэгіёна і большай часткі Падняпроўя ўжываліся двухкамерныя кольцападобныя горны. Яны складаліся з топкі і камеры для абпальвання, якія падзяляліся гарызантальным перакрыццём (под, чэран, рашотка, слёсы) з адтулінамі (люхты, юхты, люфты, дучкі) для агню. Лакальныя варыянты горнаў гэтага тыпу адрозніваюцца па канструкцыі апоры (дзед, баба, казёл, слуп, стоўб) перакрыцця. На астатняй тэрыторыі Беларусі бытавалі чатырохвугольныя горны. Найбольш простыя аднакамерныя горны сустракаліся на паўднёвым захадзе (Шарашова). Яны падобны на звычайную хатнюю печ. На захадзе, паўночным захадзе і поўначы рэспублікі будавалі больш дасканалыя двухкамерныя чатырохвугольныя горны. Топка і камера для абпальвання ў іх падзяляліся скляпеністым перакрыццем (скляпенне).

Крытыя горны размяшчаліся ў ганчарных майстэрнях. Па канструкцыі яны чатырохвугольныя, двухкамерныя, са скляпеністым перакрыццем, але адрозніваліся ад падобных напольных горнаў тым, што мелі закрыты верх (верхняе скляпенне) з комінам, а часам і з дымавымі каналамі (ляжак). У камеру для абпальвання кераміка загружалася праз асобнае акно. Крытыя горны бытавалі паралельна з напольнымі чатырохвугольнымі і выкарыстоўваліся звычайна для паліванай керамікі.

Але традыцыйнымі, найбольш распаўсюджанымі збудаваннямі для абпальвання гліняных вырабаў у паўночным рэгіёне беларускага ганчарства, дзе выраблялі гартаваны посуд, былі звычайныя хатнія печы. Горны пачалі пашырацца тут адначасова з паліванай



Латка (а), доўгая латушка (б)



Рынка (а), макацёр (б)



Цёрніца (а), прыжэрнік (б)



Макотра (а), мяліца (б)

керамікай у другой палове XIX — пачатку XX ст. У паўднёвым арэале, за выключэннем Пружан і Плябанцаў, хатнія печы для абпальвання вырабаў не выкарыстоўваліся.

Керамічныя вырабы, вядомыя на тэрыторыі Беларусі з часоў неаліту, трывала ўвайшлі ў побыт насельніцтва. На працягу тысячагоддзяў, амаль да ня-



Бабачніца (а), пасачнік (б)



Формы (а — г. п. Ракаў Мінскай вобл., б — г. п. Поразава Гродзенскай вобл.)



Друшлякі (а — г. п. Ружаны Брэсцкай вобл., б — г. п. Ракаў Мінскай вобл.)



Бойка (а), адстойнік (б)



Гладыш (а), слоік (б)



Карчага (а), берасцень (б)



Глякі (а — г. Гарадок Віцебскай вобл., б — г. п. Мір Гродзенскай вобл.)



Гляк (а — в. Гарадная Столінскага р-на Брэсцкай вобл.), гаршчок-паліванец (б)



Абеднік (а), спарышы (б)

даўняга часу ўдасканальваліся іх формы і асартымент. У XIX — пачатку XX ст. асабліва глыбокай традыцыйнасцю і ўстойлівасцю форм вызначалася кераміка вясковых ганчароў-гаршкалепаў. Яны выраблялі кухонны посуд для ўласных патрэб, а таксама для продажу ў навакольных паселішчах. Прадукцыю гарадскіх і местачковых майстроў, пераважна ганчароў-паліўнікаў, адрознівала некаторая зменлівасць форм і больш шырокі асартымент. Ён папаўняўся ў выніку стварэння параўнальна новых прадметаў для пэўных гаспадарчых мэт, а таксама шляхам запазычвання форм адпаведных фабрычных і рамесных вырабаў. Паводле функцыянальнага прызначэння беларуская народная кераміка падзяляецца на асобныя групы: кухонны посуд (для гатавання ежы), посуд для захоўвання і транспартавання прадуктаў і ежы, сталовы посуд, сасуды для піцця, гігіенічны посуд, дэкаратыўная кераміка (для аздаблення інтэр'ера), архітэктурна-будаўнічая кераміка, вырабы рознага гаспадарчага ўжытку, цацкі.

**Гаршчок** (горшчык)—пасудзіна для варкі ежы. На паўднёвым захадзе Беларусі рабіўся з вухам і ў залежнасці ад памеру меў асобную назву. У вялікіх гаршках на 6—10 л варылі студзень, ежу для свойскай жывёлы, грэлі ваду, а часам выварвалі бялізну, захоўвалі прадукты. У гаршках сярэдніх памераў (саганчык, скляпнік, паўзлівач, злівач, нярознак) аб'ёмам 2—6 л гатавалі ежу на ўсю сям'ю. У маленькіх гаршчочках (гарнушак, гаршчэчак, гарнуль, абеднічак, пітушка) ёмістасцю да 1 л парылі малако, гатавалі дзецям кашу, заварвалі лекавыя расліны. На Верхнім Падняпроўі невялікія кухонныя гаршкі, у якія адлівалася ежа, называлі адлеўнікамі. На поле ці сенажаць іх насілі ў трапкачы, або скарачы (прамавугольны кавалак тканіны з тасёмкамі па вугалках).

**Латка** (латушка, доўгая латушка, ваза) — пасудзіна для смажання яечні,

рыбы, парасяціны, бульбы і інш. Часта ўжывалася замест міскі. Вядома двух відаў — з круглым і авальным дном. Бытавала ў паўночным рэгіёне беларускага ганчарства.

**Прыжэрнік** (пражэльнік) — пасудзіна, падобная на латку і доўгую латушку. Адрозніваўся невысокімі сценкамі з адной або двума ручкамі. Распаўсюджаны ў Заходнім Палессі.

**Рынка** — пасудзіна на трох ножках з вухам або ўтулкай для драўлянай ручкі. Ужывалася для смажання розных прадуктаў. На поўначы, паўночным захадзе і ўсходзе, часткова ў цэнтральных раёнах Беларусі замест рынак сяляне выкарыстоўвалі накрыўкі (пакрыўка, пакрышка, дэнка) ад гаршкоў. Яны мелі пляскатую паверхню, мелкія, злёгку адагнутыя сценкі. Нагадвалі патэльню і былі зручнымі для смажання прадуктаў.

**Макацёр** (макотра, макош, цёрніца, цёрла, цёрлічка, мяліца, мялачка, верцега) — шурпатая ўнутры пасудзіна для расцірання маку, яечных жаўткоў, сыру і іншых прадуктаў, змешвання цеста, выпякання бабкі. Рабіўся таксама з гладкімі, нярэдка паліванымі сценкамі.

**Бабачніца** (бабачнік, форма, пасачнік, стаўчык) — пасудзіна з вертыкальнымі ўмяцінамі па баках. На паўднёвым захадзе — з вухам. Ужывалася для выпякання вялікоднага пірага (бабка, куліч, пасачка).

**Друшляк** (цадзілка, міска на сыр) — пасудзіна для працэджвання і працірання ежы.

**Бойка** (біянка) — сасуд, а часам звычайны збанок або гладыш з драўляным поршнем для прыгатавання масла.

**Адстойнік** (банка, цёрла) — сасуд з невялікім шкляным акенцам унізе. Ужываўся для адстойвання малака на захадзе і поўначы Беларусі.

**Гладыш** (гладышка, ладышка, кубарка, кушын, гарлач, гарляк, збанок, жбанок, стаўбун) — сасуд з пукатымі бакамі, звужаным горлам, без вуха.



Міска (а), чашка (б)



Паўмісак (а), чайнік (б)



Збанкі (а — г. Пружаны Брэсцкай вобл., б — г. Чашнікі Віцебскай вобл.)



Кубак (а), паілка для куранят (б)

Ужываўся для захоўвання малака. На захадзе Палесся гладышы мелі пукатае тулава, якое рэзка пераходзіла ў доўгую шырокую цыліндрычную шыю. У цэнтральным Палессі яны рабіліся моцна прафіляванымі з пукатым аб'ёмным тулавам, кароткай масіўнай шыйкай і амаль гарызантальным венцам. Падняпроўскія гарлачы і кушыны, чашніцкія кубаркі вызначаліся зграбнай падоўжанай формай. Адметнай рысай паўночных стаўбуноў і паўночна-заходніх збанкоў, якія сяляне аплятаді бяростай і называлі берасцень, было высокае амаль цыліндрычнае ці бочкападобнае тулава і ледзь звужаная кароткая шыйка.

**Слой** (слоік, банка, карчага, вушкаванка) — сасуд з пукатымі або прамымі



Вазоны (а — г. п. Ракаў Мінскай вобл., б — в. Гарадная Столінскага р-на Брэсцкай вобл.)



Букетнікі (а — г. Чашнікі Віцебскай вобл., б — г. п. Поразава Гродзенскай вобл.)

бакамі і шырокім горлам. Часам меў адно або два вухі. Ёмістасць 0,5—16 л. У вялікіх слаях салілі агуркі, грыбы, капусту, мачылі яблыкі. Слоікі сярэдніх і маленькіх памераў ужываліся для захоўвання варэння, мёду, тлушчу, смятаны і іншых прадуктаў.

**Гляк** (глячок, ляк, лячок, агляк, глёк, зялянік, банька, бунька) — шарападобны сасуд з вузкай кароткай шыйкай і дзюбкай. Звычайна меў адно, радзей два вухі. Часам да гляка прымацоўвалі дзве пары дугападобных ручак, праз якія прасоўвалі вяроўку. Выкарыстоўваўся для транспартавання і захоўвання вадкасцей.

**Спарышы** (блізняты, двайнікі, дваякі, парнікі, паркі) — звычайна два, радзей тры або чатыры невялікія гаршкі з агульнай дугападобнай ручкай. Паміж гаршкамі рабілі сальнічку. Ужываліся для нашэння ежы ў поле ў паўночным рэгіёне і на паўднёвым захадзе Беларусі.

**Абеднік** — невялікі гаршчок з ручкай-дужкай для нашэння ежы ў поле. Распаўсюджаны часткова ў Падняпроўі і на поўначы Беларусі.

**Ушацік** (сучачка) — невялікі гаршчок з вушкамі, праз якія прасоўваўся матузок. Ужываўся на Падняпроўі для нашэння ежы ў поле.

**Паліванец** — паліваны гаршчок аб'ёмам 4—10 л. Меў шырокае вусце і два вухі. Ужываўся на захадзе Міншчыны для захоўвання розных прадуктаў.

**Міска** (міса, чашка, чаропка) — посуд для ежы. Вядома некалькі тыпаў. У цэнтральнай частцы і на паўночным захадзе Беларусі рабілася з прамым вертыкальным борцікам уверсе. На Палессі борцік крыху прафіліравалі. У паўночных і паўночна-ўсходніх раёнах тыповымі былі міскі без борціка, якія называліся чашкамі. Па форме яны нагадвалі латку. Чаропкі, якія ўжываліся на захадзе рэспублікі, мелі прыгнуты да сярэдзіны край.

**Паўмісак** (блюда) — вялікая неглыбокая пасудзіна. Да сталовага посуду

належаць таксама талеркі, хлебніцы, сальнічкі, цукерніцы і інш. Яны не ўваходзілі ў традыцыйны асартымент ганчарных вырабаў і з'явіліся пад уплывам фабрычных формаў пераважна ў канцы XIX — пачатку XX ст.

**Збан** (збанок, жбан, жбанок, кушын, кукшын, глечык) — сасуд з пукатымі бакамі і звужаным горлам. У ад-



Кафля (а — г. п. Івянец Мінскай вобл., б, в — г. Віцебск, г — г. Копысь Віцебскай вобл.)



Коннікі (а — в. Харосіца Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл., б — г. п. Ракаў Мінскай вобл.)



Коннік (а — г. п. Ружаны Брэсцкай вобл.), конік (б — в. Харосіца Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл.)



Конік (а — г. Дуброўна Віцебскай вобл.), сабачка (б)



Баран і сабака

розненне ад гладыша звычайна меў вуха і носік-лейку (лейка, дзюб, рыла, сычык). Ужываўся для малака і інш. Збанкі, паліваныя ўсярэдзіне і звонку, вядомы пад назвай малочнік, паліванка. На захадзе Цэнтральнай Беларусі яны мелі шырокае горла і выкарыстоўваліся як дайніцы.



Сабака (а), баран (б)



Качка (а), певень (б)



**Пары**

**Кубак** (куфлік, кварта) — цыліндрычны, радзей збанкападобны або бочкападобны невялікі сасуд з вушкам.

**Паілка** — высокі сасуд з адтулінай, а часам і з акенцам-вадамерам унізе. У якасці паілак для куранят ужываліся звычайныя гладышы, якія мелі некалькі адтулін каля венца і ставіліся на сподак уверх дном.

Адначасова з традыцыйным посудам для піцця, асабліва ў XX ст., пашырыўся выраб імбрычыкаў, чашак для чаю і кавы, бутляў, графінаў і інш.

**Рукамый** (рукамойка) — невялікі пукаты сасуд з адным або двума носікамі і вушкамі для падвешвання.

**Мядніца** (лаханка, міса) — вялікая міса, 8—12 л, для ўмывання і мыцця посуду.

**Урнал** (урыльнік, начнік) — начны гаршчок для дзяцей.

**Вазон** (вазонік, лазон, цвятнік, данічка) — гаршчок для кветак.

**Букетнік** (кветнік) — ваза для кветак.

**Сподак** (падстаўка) — блюдца для вазонаў.

Да дэкаратыўнай керамікі таксама адносяцца попельніцы, каганцы і іншыя рэчы, якія звычайна аздаблялі інтэр'ер жылля местачковага і гарадскога насельніцтва.

**Комін** (ладыш) — круглая ў сячэнні труба. Складалася з дзвюх частак, кожная з якіх рабілася ганчаром на даўжыню рукі.

**Кафля.** Ужывалася для абліцоўкі печаў. Вядома двух тыпаў. Найбольш старажытная гаршкападобная або кубкападобная кафля, якая была пашырана галоўным чынам у XIV—XV стст.

Другі тып кафлі меў борцік — румпу (ромпа) з адтулінкамі для прымацавання дротам. Знешняя паверхня звычайна была паліванай і аздаблялася рэльефным арнаментам розных узораў.

Пэўнае месца ў ганчарнай вытворчасці некалі займалі вырабы рознага гаспадарчага ўжытку. Найбольш рас-

паўсюджанымі сярод іх былі грузілы (кулька) для рыбацкіх сетак. Сустракаліся таксама падкурачкі для акурвання пчол і сасуды, у якіх гналі дзёгаць.

Адзін з цікавых відаў традыцыйнага народнага мастацтва — керамічныя цацкі. Іх выраб быў пашыраны паўсюдна на Беларусі і звычайна спадарожнічаў ганчарнаму рамяству. Але часам меў і самастойны характар. Традыцыйнымі ў творчасці майстроў беларускай глінянай цацкі былі выявы пеўнікаў, качак, конікаў, баранчыкаў і іншых жывёл. Ляпіліся таксама фігуркі людзей, складаліся гумарыстычныя і сатырычныя жанравыя кампазіцыі, у якіх адлюстроўваліся розныя бакі народнага жыцця. Цяпер хатні выраб гліняных цацак практычна спыніўся. Народныя традыцыі скульптурнай лепкі прасочваюцца ў музейных і прыватных калекцыях твораў беларускіх майстроў цацачнікаў.

---

Елатомцева И. М. Художественная керамика Советской Белоруссии.— Мн., 1966; Милюченков С. А. Методические вопросы сбора и описания белорусской народной керамики и ее классификация в музейной коллекции.— У кн.: Вопросы этнографии и фольклористики.— Мн., 1979; Сахута Я. М. Гліняная цацка.— Літаратура і мастацтва, 1979, 7 верасня.



# КАВАЛЬСТВА

Выраб з жалеза прылад працы, зброі, прадметаў штодзённага ўжытку шляхам кавання як асобны від рамяства ўзнік і развіваўся адначасова з першапачатковай формай гутніцтва. Жалеза выплаўлялі ў домніцах (дымарках) — гліняных або каменных паўшарападобных печах з балотнай і азёрнай руды. Атрыманае жалеза, якое сцякала на дно печы, ачышчалі ад шлаку (дзындры) працяглай перакоўкай. Для атрымання сталі жалеза ў працэсе перакоўкі некалькі разоў раскалялі або пераплаўлялі другі раз з большаю, чым звычайна, колькасцю драўніннага вугалю. Выплаўка жалеза была цяжкім заняткам. Таму жалеза, асабліва сталь, выкарыстоўвалі ашчадна, галоўным чынам для вырабу толькі рабочых частак прылад і зброі. Старажытныя кавалі ведалі некалькі спосабаў злучэння жалеза са сталлю і, як сведчаць археалагічныя знаходкі, дасканала валодалі імі.

Ручное каванне да XVI ст. было адзіным спосабам кавальскай апрацоўкі жалеза. Да 80-х гадоў XIX ст. вясковыя кузні належалі грамадзе і былі агульнай грамадскай уласнасцю. Кавалі працавалі па найму, стала жывучы ў вёсцы ці толькі пэўны час; кавальству навучаліся шляхам вучнёўства, часцей за ўсё ў местачковых майстроў.

Старых, традыцыйна абсталяваных кузняў захавалася мала. Большасць іх пераабсталявана: мяхі заменены электраматорамі з кампрэсарамі, а на змену ручному прыйшоў механічны молат. Аднак у шмат якіх калгасных і саўгасных кузнях тэхналогія кавання засталася ранейшай, хоць асартымент вырабаў значна змяніўся. Шмат якія рэчы і прылады, якія раней рабілі кавалі, цяпер можна набыць у сельмагу.

Адпаведная форма вырабаў дасягалася пры дапамозе простых прылад і інструментаў, большасць якіх без істотных змен дайшла да нашага часу.

**Горан** (гарно) — адкрытая печ з паглыбленнем для вугалю, паддувалам і мехам для раздзімання агню. Апечак рубілі з бярвення або муравалі з цэглы, унутраную прастору засыпалі глінай і старанна загладжвалі чарэнь. Мех (мяшок) складаўся з абцягнутых сырамяццю рам з завесамі і дашчаных верха і дна (клапанамі). Прыводзіўся ў дзеянне пры дапамозе драўлянага рычага (палкі). Над горнам вісеў выцяжны каптур.

**Кавадла** (кавала) — жалезная, да 60 кг, падстаўка з пукаватай паверхняй і паўкруглым конусным рогам. Мацуецца на шырокай дубовай калодцы, абцягнутай па верхнім краі жалезным абручом. Размяшчалася ў цэнтры кузні, побач стаяў цэбар з вадою для ахалоджвання і гартавання вырабаў.

**Варштат** — рабочы стол з дубовым верхам. Выкарыстоўваўся для выканання рознай не звязанай з каваннем рабо-

ты. Стаяў звычайна справа ад дзвярэй пад невялікім акенцам. На паліцах, прымацаваных да ножак стала, захоўваўся розны інструмент.

**Жарон** — круглы камень са скразной адтулінай у цэнтры. Ляжаў каля кузні і служыў для нацягвання шын на колы.

**Шрубстак** (шубстак)—вінтавыя ціскі. Мацаваліся да варштата.

**Шпарак** — невялікае кавадла для кавання дробных вырабаў.

**Шуфлерка** (штангель) — інструмент для вымярэння вонкавых і ўнутраных памераў вырабаў.

**Абцугі кавальскія** (клешчы звычайныя) — абцугі з доўгімі ручкамі і пляскатай рабочай паверхняй прамых губзахопаў.

**Абцугі абушныя** (клешчы абушныя) — абцугі з паўкруглымі губамі. Выкарыстоўваліся пры каванні і адцяжванні лязоў сякер.

**Рурцэнгі** — абцугі для закручвання трубак.

**Флякцэнгі** — абцугі для закручвання гаек.

**Шнайдэза** (клубік, лерка) — інструмент для нарэзкі разьбы на шрубах.

**Нацягач** — прыстасаванне для нацягвання шынаў (каткоў).

**Молат аберучны** — вялікі малаток (3—8 кг) з тронкам даўжынёю 50—70 см.

**Аднаручак** — малаток сярэдніх памераў (1—2 кг), даўжыня тронка 30—40 см.

**Малаточак** — маленькі малаток (0,5—0,75 кг).

Тронкі малаткоў рабілі з маладога дубу авальнай формы ў разрэзе.

**Сякач** — зубіла з шырокім лязом і гнутым дубовым або лазовым тронкам або без яго (шротка).




Горан (а): 1— печ кавальская, 2 — мех кавальскі, 3 — цяжар, 4 — рычаг, 5 — паглыбленне для вугалю; шпарак (б); абцугі кавальскія (в): 1 — звычайныя, 2 — абушныя; кавадла (г); малаткі і молат (д)




Ручка для секачоў і друшлякоў (а), рожкі (б), тачыла (в)

**Сякач ручны** (мусель, муслік) — зубіла без тронка.

**Друшляк** (прабоіч)—інструмент для прабівання дзірак: з тронкам — у гарачым, без тронка — у халодным метале.

**Банька** — жалезнае кальцо, якое падкладалі пад дэталь, калі прабівалі ў ёй дзірку.

**Гваздзельня** — жалезны брусок з квадратнымі адтулінамі рознай велічыні. Выкарыстоўвалася для каліброўкі цвікоў пры іх вырабе.




Секачы (а), друшлякі (б), гваздзельня (в), бабка (г), дрэлік (д), дрэль (е)

**Бабка**—круглае кавадлачка для бляхарскіх работ (да 15 см у дыяметры, вышыня да 25 см).

**Дрэль** — свярдзёлак з сырамятным або вяровачным прывадам для пракручвання дзірак у драўляных дэталях вырабаў.

**Дрэлік** — свярдзёлак з лучкова-вяровачным прывадам для пракручвання дзірак у жалезе.

**Казялок** — трыножнік для апраўкі капыт і падкоўвання коней.

**Рожкі** — прыстасаванне для завострывання сякер.

**Тачыла** — станок для завострывання лязоў рэжучых інструментаў. Складаецца з круглага тачыльнага каменя, драўлянага станка — станіны на чатырох ножках і паддона з вадою. Тачыла прыводзіцца ў дзеянне ручкай (корбай), замацаванай глуха ў цэнтры тачыльнага каменя і свабодна ў бакавінах станіны.

Пералічаныя інструменты і прыстасаванні — гэта толькі мінімальна неабходны для работы набор кавальскіх прылад працы. Звычайна ў кузні іх значна больш.

---

Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии, кн. 2.— Могилев, 1884, с. 479—499; Арашонкава Г. У. З кавальскай лексікі ў гаворцы заходняй дыялектнай зоны.— У кн.: Народная словатворчасць.— Мн., 1979, с. 223—229.

# ДРЭВААПРАЦОЎЧЫЯ РАМЁСТВЫ





Апрацоўка дрэва спрадвеку была адным з важнейшых, найбольш распаўсюджаных прамысловых заняткаў, што надавала характэрны каларыт гаспадарча-бытавому ўкладу і матэрыяльнай культуры насельніцтва беларускага краю. Паўсядзённы быт і працоўныя будні мясцовага жыхара былі цесна звязаны з лесам, сярод якога ён жыў і карыстаўся яго дарамі. З-пад лесу ён распрацоўваў сабе дзялянкі — ляды пад земляробства. З лесу рабіліся жыллёвыя і гаспадарчыя памяшканні, узводзіліся прамысловыя збудаванні і манументальныя культавыя гмахі. З дрэва выраблялісі сельскагаспадарчыя прылады, розныя прыстасаванні, прадметы дамашняга ўжытку, посуд, мэбля, транспартныя сродкі.

Адначасова з сацыяльнай эвалюцыяй і тэхнічным удасканаленнем паглыблялася вытворчая спецыялізацыя, што абумоўлівала дыферэнцыяцыю дрэваапрацоўчых рамёстваў на адносна самастойныя вытворчыя заняткі. У залежнасці ад асаблівасцей рамеснай тэхнікі і наменклатуры вырабаў сярод іх можна вылучыць цяслярства, сталярнае, стальмашнае і бандарнае рамёствы, выраб выдзеўбанай пасуды, такарнае майстэрства, разьбу па дрэву, вытворчасць дахавых матэрыялаў, выраб лубяных і плеценых ёмкасцей. Да гэтых спецыялізаваных рамесных заняткаў далучаюцца лясныя і лесахімічныя промыслы.

Ніжэйпададзеныя прылады і прадметы быту не вычэрпваюць канкрэтнай разнастайнасці матэрыяльнай культуры беларускага насельніцтва, з'яўляючыся ў большасці сваёй тыповымі, звычайнымі ва ўжыванні, яны разам з тым паслужаць узорам пры выяўленні і збіранні музейных экспанатаў.

Ц я с л я р с т в а — адзін з самых старажытных рамесных заняткаў. У народнай вытворчасці існаваў у сінкрэтычным адзінстве са сталярным рамяством. Гэта вызначалася адзіным функцыянальным значэннем, якое было падпарадкавана мэце стварэння жыллёвых умоў і ўладкавання жыллёвага асяроддзя. Кожны майстар-цясляр быў у той жа час і добрым сталяром. З другога боку, амаль усе сталярныя інструменты можна называць і цяслярскімі. Справа толькі ў частаце іх ужывання і спецыялізацыі вытворчага працэсу, што істотна не закранала іх традыцыйную форму.

**Сякера** (тапор). У больш старажытны час рабілася з наварным вастрыём.

**Склюд** (шклюд) — сякера для счэсвання кары з бярвенняў і прыдання ім брусковай формы. Меў шырокае лязо, асіметрычна заточанае з аднаго боку.

**Калун** (бандарыч). Выкарыстоўваўся для расколвання бярвенняў і калод на плахі.

**Долата** — інструмент для выдзёўбвання дзірак, пазоў і пад.




Сякера цяслярская (а), калун (б), шклюд (в)



Распілоўка бярвенняў падоўжанай пілой




Варштат (а), струг (б), скобля (в), фуганак (г), гэблік (д), шархебель (е), калёўка (ж), баран (з)




**Піла** (цяслярская). У археалагічных знаходках упершыню сустракаецца з XIV ст. (Гродзенскі замак). Пачала шырока ўжывацца з другой паловы XIX ст.

**Піла з вертыкальным ходам.** Выкарыстоўвалася для падоўжнай распілоўкі.

Іншыя інструменты — цясло, фуганак, скобля, драка, ватэрпас, шнур і інш.

Сталярнае рамяства — вытворчасць разнастайных вырабаў з дрэва — прылад працы, прадметаў хатняга ўжытку, мэблі, прыкладных элементаў жылля і гаспадарчых пабудоў. У патрыярхальнай сялянскай гаспадарцы мела характар дамашняга промыслу. Сталярствам сяляне пераважна займаліся ў асенне-зімовы сезон, свабодны ад сельскагаспадарчых работ. Як народнае рамяство сталярства вызначалася універсальнасцю, што выражалася на практыцы ў яго шырокім дыяпазоне, у разнастайнай наменклатуры вырабаў, параўнаўча складанай рамеснай тэхніцы.

**Варштат** (вярстак, сталюга). Для сталярных работ з ціскамі.

**Струг** (скобель). Выкарыстоўваецца пераважна для пярвічнай апрацоўкі дрэва. Тры разнавіднасці (гл. раздзел «Бандарнае рамяства»).

**Скобля** (склоб, скабёлка). Прызначэнне тое ж.

**Гэблік** (рубанак). Для гладкай апрацоўкі паверхні.

**Баран** (мядзведка) меў дзве гарызантальныя ручкі для работы адначасова двух чалавек (у чатыры рукі).

**Гэбель** (фуганак, спуст) — від гэбліка з доўгім, больш масіўным бруском. Зручны пры апрацоўцы брусоў, плах, дошак.

---

Пілы лучковыя (а, б), піла-нажоўка (в), піла-белачка (г), свярдзёлак (д), корба (е), дрэль (ж), размер (з), вугольнік (і), рэйсмус (к), драка (л)




Люлька (а), калыска (б), куфры (в, г)




Стол (а), услончык (б), зэдлік (в), крэслы (г), канапы (д),




**Шархебель** (шархубель, шаршэбка) — гэблік з паўкруглым лязом. У некаторых выпадках ім называўся і гэблік з парабалічнай формай бруска. прызначаны для апрацоўкі авала касяка, фігурных рам, налічнікаў і інш.

**Калёўка** (адборнік, аткоснік) — рубанак з фігурным лязом, якое мае часцей вузкі пяропадобны профіль.

**Піла** звычайная (цяслярская); лучковая, пілка-нажоўка; пілка-«белачка». Апошняя ўжываецца для неглыбокіх прапільных зрэзаў і пазаў.

Для пракручвання адтулін у залежнасці ад таўшчыні і цвёрдасці матэрыялу выкарыстоўваліся свідравальныя інструменты: свердзел (свярдзёлак), корба (калаўрот, свярдзёлак), дрэль (дрыль).

Сярод вымяральных інструментаў у народнай практыцы найбольш пашыранымі былі наступныя: цыркуль (размер); вугольнік (вінкель) — для вуглавых вымярэнняў; драка (зачэртач, чырта) — для размеркі пазоў і паралельных ліній; рэйсмус (штрыхмаз)—прызначэнне тое ж; грунтвага (шнур, ровень) — для вызначэння вертыкальнага становішча і вуглавых параметраў.

З ударных інструментаў шырока ўжываліся долата, стамескі, з другіх (універсальных) — сякера, нож, абцугі.

Стальмашнае рамяство аб'ядноўвае некалькі разнастайных вытворчых працэсаў, якія прыкметна адрозніваліся па тэхналогіі і рамеснай тэхніцы — тэрмамеханічную апрацоўку (распарку) драўніны, выраб колаў і інш. Распарка драўніны з'яўлялася неабходнай папярэдняй (падрыхтоўчай) стадыяй пры вырабе колаў, дуг, санных палазоў. Яна рабілася ў хатніх умовах у звычайных печах, у банях ці спецыяльных парнях.

Парня (а), бабы (б, в, г), лапацэнь (д), свярдзёл (е), калесня (ж)

**Парня** — памяшканне для распаркі загатовак на абады, дугі, санныя палазы (паўназемны зруб, дзе зроблена печ і ўстаноўлены кацёл для вады).

**Баба** (гбала, бгала) — прыстасаванне, пры дапамозе якога гнулі дугі, палазы, абады. Па форме: а) шаблон, зроблены на сцяне будоўлі, б) адпаведная форма, зробленая ў калодзе дрэва, в) тоўстая калода, вертыкальна ўкапаная ў зямлю. З яе дапамогай гнулі толькі абады.

**Калесня** (колесня, сталюга) — прыстасаванне ў выглядзе масіўнага ўслона з адтулінай пасярэдзіне. Ужываецца пры насадцы спіц і вобада ў працэсе вырабу колаў.

**Станок такарны** з лучковым прывадам. Выкарыстоўваўся пры вырабе калодак для кола.

**Лопацень.** Выкарыстоўваецца пры вырэзванні адтуліны ў калодцы кола.

**Тэбль** (свердзел). Прызначэнне тое ж. Ужываецца і ў іншых выпадках.

**Разцы.** Для апрацоўкі спіц, аздобы кузава вазкоў і інш.

Іншыя інструменты — сякера, струг, гэбель, долата, стамескі, корба, пілкі, малаток, цыркуль — тыя ж, што і ў сталярнай справе.

Стальмашныя вырабы: розныя віды калёс і экіпажаў, грузавыя сані (кары, дроўні), санкі, вазкі, дугі, колы, ярэмы.

Звычайна пад б а н д а р с т в а м разумеюць выраб пасуды з клёпак — трапецападобных ці авальных (парабалічна акруглых) па краях драўляных плашак, счэсаных да неабходнай таўшчыні. Найбольш ужывальнымі ў бандарнай справе пародамі дрэва былі дуб, сасна, асіна, алешына, яліна. Пад абручы часцей за ўсё выкарыстоўваліся ляшчына




Варштаты (а, б), спуст (в), стругі (г), скоблі бандарныя (д), нацягуч (е), чакуха (ж), затор (з)





і дуб. У кожным канкрэтным выпадку беларускія майстры ўлічвалі пластычнасць той ці іншай пароды, яе трываласць, даўгавечнасць, здольнасць перадаваць прадуктам, якія захоўваліся ў пасудзіне, свой спецыфічны водар і смак.

**Варштат** (вярстак, кабыла) — для апрацоўкі клёпак, вырабу абручоў і інш.

**Баба** — круглая калодка з крукам, пры дапамозе якой гнулі абручы.

**Спуст** — від фуганка для апрацоўкі клёпак.

**Струг** — інструмент для апрацоўкі клёпак і гатовых вырабаў. Могуць быць з прамым або выгнутым лязом, з асіметрычна пастаўленымі ручкамі, што зручна пры вырабе абручоў, зрэзванні тарцовага края бочак і да т. п.

**Скобля** (двухручная і аднаручная). Ужываюцца пры апрацоўцы ўнутранай часткі бандарнага посуду: скобля малая, або бандарная.

**Затор** (заторыч, уторыч, расторыч, зачэртач, закрой, прудавік). Прызначаны для выпілоўвання паза, у які заціскаецца край днішча.

**Нацягуш** (нацягач, нацягівач, сабака). Ужываецца пры сцягванні каркаса бачарных вырабаў абручамі.

**Драўляны малаток** — для набівання абручоў.

**Лісічкі** — зажымы для клёпак. Выкарыстоўваюцца пры састаўленні бандарных вырабаў.

Іншыя прылады — цыркуль, тапор (звычайны і калун, або «бандарка»), шархебель, нож, пілкі, свердзел, долата.

У залежнасці ад функцыянальнага прызначэння можна вылучыць некалькі груп.

Посуд для вады, а таксама некаторых вадкіх рэчываў; бочка для падвозу вады, вадзянка (выдзянка), вёдры, баклага (быклага, біклага, біклажка), ба-

Вадзянка (а), вёдры (б, в, г), біклагі (д, е), кубельчык (ж), конаўка (з), барыла (і)




Маслабойкі (а, б), цэбар (в), дзягцярка (г), асьміна (д), гарнец (е)

рыла (барылка), кубельчык (бельчык), конаўка (карэц).

Посуд для захоўвання сельскагаспадарчых прадуктаў: бочка (усыпішча, забойня) для зерня, кадзь (кадка, кадушка, куфа). Прызначэнне тое ж, што ў бочак і судзін; бачонак з адным дні-




Судзіна (а), кадзь (б), кубелец (в), кубел для адзення (г), дзяжа (д), жлукта (е), балея (ж), даёнка (з), ражка (і)




шчам. Выкарыстоўваўся для квашанай гароднiны, мачоных яблык і інш.; бачонак двухдонны для напіткаў; паўбачонак. Прызначэнне тое ж; кубелец (кублік, сальнік) для мясных прадуктаў.

Посуд для разнастайных дамашніх патрэб: кубел (бодня) для адзення. Меў кадзепадобную, зрэдку эліпсоідную форму; жлукта (жлукто, трынога) для вымочвання бялізны ў зольным растворы; балея для мыцця бялізны і купання. Форма ў папярочным разрэзе круглая і эліпсоідная; дзяжа (дзежка, квашня, хлебніца); даёнка (дайніца); маслабойка (бойка, біянка); цэбр (цэбер, шайка); ражка.

У якасці мер ёмістасці выкарыстоўваліся: асьміна, шаснастка (пудоўка), гарнец (гарнц).

Даўбежнае рамяство адно з самых старажытных. Рамесная тэхніка не вызначалася складанасцю. Асноўнымі інструментамі пры гэтым былі пешня і цясло.

**Пешня.** Выкарыстоўвалася пераважна пры вырабе посуду цыліндрычнай формы.

**Цясло** — для апрацоўкі посуду карытападобнай формы.

**Разец.** Ужываўся ў вытворчасці малагабарытных вырабаў.

Іншыя інструменты — скобля, піла, сякера, долата, стамескі, шархебель, затор, цыркуль.

У даўбежным рамястве, выкарыстоўваліся найчасцей падатлівыя пароды дрэў (ліпа, вольха, асіна).

Даўбежныя вырабы з даўніх часоў былі пашыраны ў сялянскай гаспадарцы. Сярод іх важнае месца побач з посудам займалі розныя прадметы ўжытку і мэбля: калодны вулей (калода, дуплянка), кухонны шкап (шкапчык),

Шафа для адзення (а), шафа кухонная (б), жлукта (в), фаска (г), кадоўбы (д, е), салонка (ж), карытца (з), камяга (і), карэц (к)




Цёслы (а), разец (б)



Такарны станок

кадоўб (кадаўб, калдуб, ліпаўка, даўбёжка, дуплянка) — для зерня; фаска (сытнік, кадка) — для мёду і квасу; салонка (саланіца), карэц, карыта, камяга (калода, карыта) — для вадапою, звычайна знаходзілася каля калодзежа, устанаўлівалася таксама ў стадолах, аўчарніку і інш.; ночвы (начоўкі) для мыцця бялізны; пыланкі (палушкі, начовачкі) для правейвання (пылання) абдзірной крупы, выкарыстоўваліся і ў іншых выпадках.

Такарнае рамяства цесна звязана з разьбой па дрэву. Як правіла, токар валодаў і навыкамі рэзчыка. У той жа час аднолькавыя наменклатурныя вырабы (блюды, чашы, падсвечнікі, карнізы, налічнікі і інш.) спалучалі і такарную апрацоўку. Такарнае рамяство, як і разьба па дрэву, у многіх выпадках мела прыкладное значэнне (як мастацка-дэкаратыўнае дапаўненне ў цяслярстве, сталярнай і стальмашнай справе).

**Станок такарны.** Яго прызначэнне— апрацоўка разцом прадмета, прыведзенага ў вярчальны рух. У асобных выпадках на вось замацоўваўся наждачны камень. На Беларусі з старажытных часоў (па археалагічных даных з XIII ст.) шырока выкарыстоўваўся такарны станок з лучковым прывадам і станок з кругавым прывадам, калі, акрамя майстра, быў неабходны і другі работнік.

Асноўныя інструменты—разцы, стамескі. Апрача таго, выкарыстоўваліся нож, напільнік, пілкі, свярдзёлак, цыркуль.




Варштат (а), драч (б), станок для вырабу шчапы (в)



Сталовы посуд — міскі, блюды, чашы, ступкі, цёркі, салонкі, каўшы, апалонікі, лыжкі.

Бытавыя прадметы і прыналежнасці — табакеркі, попельніцы, люлькі, падсвечнікі, цацкі, кіі і інш.

Прыкладныя элементы і дэталі да мэблі, экіпажаў, упрыгожвання жылля, культавых прадметаў.

Вытворчыя прылады — самапрадкі, верацёны, дэталі да кросен.

Пры вырабе дахавых матэрыялаў (дошкі, дранка, гонта) выкарыстоўваліся: піла з вертыкальным ходам; станок для апрацоўкі дора (сталюга, спуст, кабыла); драч — для вырабу дранкі (прыводзіцца ў рух націсканнем нагі на тыльны бок ляза).

Іншыя інструменты — сякера, калун, струг, гэблік, адборнік.

У вытворчасці гонты ўжывалася гантарэзка.

В ы т в о р ч а с ц ь в у г а л ю, с м а л ы, д з ё г ц ю і і н ш ы х п р а д у к т а ў сухой перагонкі драўніны. У якасці сыравіны выкарыстоўваліся смалістыя карані, дровы, бярозавая кара. У адзіным вытворчым працэсе вельмі часта спалучаюцца выпальванне вугалю, гонка смалы і дзёгцю; гонка дзёгцю і атрыманне шкіпінару. У народнай практыцы вядомы некалькі вытворчых спосабаў дабывання вугалю, смалы і дзёгцю.

1. Выпальванне вугалю і гонка дзёгцю ў спецыяльных печах або катлах.

**Печ.** Двух'яруснае збудаванне. Верхні ярус загружаўся асмолам ці дровамі, у ніжнім зроблена топка. У іншым варыянце верхні ярус замяняў кацёл або жалезная бочка.

Сухая перагонка драўніны ажыццяўлялася без доступу кіслароду. Для ад-

Конаўка (а), табакерка (б), міска (в), цёрка (г), ступка (д), коўш (е), салонка (ж), падсвечнік (з)

воду вадзянога пару зверху ў крышцы ці сценцы рабіліся невялікія адтуліны — люфты.

З перапрацаванай драўніны атрымліваўся вугаль, вадкія смалістыя рэчывы сцякалі ўніз.

2. Выпальванне вугалю і гонка дзёгцю з бярозавых дроў ямным (майданным) спосабам.

На дне конусападобнай ямы ставілася блюда- ці карытападобная форма, а паверсе складалі мулер—піраміду дроў. Зверху мулер абкладваўся слоем саломы і дзёрну. Запальваўся зверху праз адтуліны ў дзярновым пласце.

3. Гонка дзёгцю з бярозавай кары ў адмысловай ганчарнай пасудзіне з адтулінай у днішчы ці ў гаршках (чыгунах), пастаўленых на агонь.

---

Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Минская губерния. СПб., 1864; Гродненская губерния. СПб., 1863; Виленская губерния. СПб., 1861; Титов В. С. Народные деревообрабатывающие промыслы Белоруссии (1917—1941). Этнографические очерки бондарного промысла и изготовления транспортных средств.— Мн., 1976.

# ПЛЯЦЕННЕ, МАЧАЛЬНЫ ПРОМЫСЕЛ



З даўніх часоў на Беларусі былі распаўсюджаны мачальны промысел, пляценне розных вырабаў з лубу, лазы, саломы і чароту. Даступны прыродны матэрыял, лёгкасць выкарыстання абумовілі даўгавечнасць існавання гэтых народных промыслаў.

Нарыхтоўка лубу, мачалы, **лыка**, ткацтва рагож, выраб рашот, лубак, лапцей, вяровак з'яўляліся адным са старажытных заняткаў насельніцтва, аб чым сведчаць археалагічныя знаходкі «рагожнай керамікі» (адбіткаў рагож на днішчах глінянага посуду). Пра выкарыстанне лубу і рагожы ёсць звесткі і ў летапісах. У канцы XIX ст. у выніку знішчэння ліпавых лясоў мачальны промысел пачаў пастунова прыходзіць у заняпад і ў пачатку XX ст. канчаткова спыніўся.




Каробкі для бялізны (а, б), карабы (в, г)

Плецены прадметы былі зручнымі ў карыстанні, а выраб іх не патрабаваў складаных прыстасаванняў. Самыя распаўсюджаныя віды тэхнікі пляцення: спіральная, квадратная, крыжавая, раброва-крыжавая, ажурная.

**Луб** — кусок ліпавай кары сумесна з валакністай унутранай часткай. Крышачны (сухі) луб нарыхтоўваўся з камлёвай часткі дрэў, не замочваўся. Ішоў на выраб корабаў, лубак, пакрыццё рачных суднаў і да т. п.

**Мачала** — валакністая частка лубу, размочаная ў вадзе і аддзеленая ад астатніх яго тканак. Выкарыстоўвалася для ткацтва рагож, цыновак і пляцення вяровак.

**Лыка** — кара маладой ліпы і лазы.

**Кораб** (каробка) — начынне з лубу для пераноскі прадуктаў і корму для жывёлы, захоўвання зерня, збору грыбоў і ягод, мера сыпкіх рэчываў. Вядомы прамавугольныя і круглыя.




Кашы (а, б, в), каробка (г), вярэнькі (д, е), збан (ж), кораб (з)




Каробкі (а, б, в, г), сяўня (д), каробка для бялізны (е), калыска (ж), павук (з)



Карабы (а, б), лазбень (в), лубкі (г, д), калыска (е)



Рэшата (а), кашэль (б)

**Лазбень** — кораб з крышкай, падвойнымі сценкамі з лубу і падвойным дном з сасновых дошак. Служыў для выбірання мёду з вулляў і борцяў.

**Куфэрак** — лубяная каробачка з падвойнымі сценкамі і крышкай (вечкам).

**Лубка** — ручная сявалка, зробленая з лубу.

**Палукаш** (палукашак) — сплецены з лазы кузаў для вазоў і саняў.

**Люлька** — вісячая калыска з лубу.

**Рагожа** — тканіна з мачалы. Выкарыстоўвалася для падсцілкі, пакрыцця і ўпакоўкі.

**Цыноўка** — шчыльная пляцёнка з лыка, мачалы, саломы і чароту.

**Кросны** — ручны драўляны стан. Бытавалі два тыпы кроснаў — гарызантальныя і вертыкальныя. У адрозненне ад кроснаў, на якіх ткалі палатно, не мелі нітоў і навояў. Кросны для вырабу рагожы вызначаліся, акрамя таго, спецыфічнай будовай бёрда і чаўнака. Бёрда складалася з пласцінак з дзірачкамі (вочкамі). У якасці чаўнака выкарыстоўвалася ігліца рознай формы і тыпаў.

**Трапала** (біла) — прылада для прыбівання ўтка, мела форму пляскатай дошчачкі (памер 95×6,6 см) або вясла.

**Катушка** (скруцелка)—прылада для сукання стужак асновы, памер 53××17 см, круцілася на восі, якая была замацавана ў сцяне.

**Кашэль сянны** — плецены выраб, выкарыстоўваўся для транспарціроўкі ў дарозе корму для коней.

**Рэшата** — прыстасаванне для прасейвання зерня, мукі. Абічайка рабілася звычайна з сухога лубу, сетка — з тонкіх стужачак лыку. Лыка разрывалася на палоскі з дапамогай драўлянага бруска, у які былі набіты жалезныя зубцы.

**Лычакі** — лычныя вяроўкі. Вілі іх драўлянымі кручкамі.




Кросны гарызантальныя (а), кросны вертыкальныя (б, в), бёрды (г, д), іглíца (е), іголка (ж), трапалы (з)

З лыка выраблялі таксама і лапці. Прылады для іх пляцення: нож звычайны, качадык, спіцы (сугакі, занозы), падплятанька.

**Гарнец** (гарцы, гусак) — мера для зерня. Выраблялася з саламяных жгутоў, пераплеценых лазой.

**Каназобка** (саламянік, кырчаг, сыпанка) — вялікія ёмістасці (да 1,5—2 м вышыні і 1—1,5 м шырыні) з саломы і лазы для захоўвання мукі, зерня, круп.

**Кашэль** — плеценае дарожнае начынне з лыка для прадуктаў, насілі за спіной на скураным пасе або вяроўцы.

**Карзіна** — плецены выраб прамавугольнай формы з лубу. Выкарыстоўвалася для захоўвання ў дарозе прадуктаў.

**Вярэнька** (шэнька). Выраблялася з лубу, бяросты, мела розную форму (круглая, авальная, прадаўгаватая), з адной ручкай і дзвюма, без вечка і з вечкам. Прызначалася для пераноскі прадуктаў і гародніны.




Крукі для віцця лычакоў (а), спіцы (б), нажы (в), качадык (г), падплятанкі (д)

**Сяўня** (сявенька, сявок). Выкарыстоўвалася пры сяўбе ўручную. Выраблялася з саломы з лазой, часцей авальнай формы.

**Скрынька** — выраб з лыка, прызначалася для захоўвання мукі, зерня.

**Жбан** (гладыш, куземка) — невялікая ёмістасць для збірання і захоўвання ягад. Плялі з пруткоў вярбы і арэха.

З лазы рабілі таксама калыскі (люлькі), куфры, з саломы — маты для выцірання ног або ўцяплення вакон, розныя ўпрыгожанні (зорачкі, павукі) і інш.

Пляценне паступова страціла значэнне утылітарнага хатняга рамяства. У наш час яно набыло характар дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

---

Савинич И. Мочальный промысел Могилевской губернии.— записки Горы-Горецкого земледельческого института, кн. 3.— СПб., 1854; Грынблат М. Я. Сялянскія промыслы і рамёствы Беларусі ў XIX—XX стст.— Весці АН БССР, серыя грамадскіх навук, 1957, № 2; Шкут Н. Н. Мастацкія асаблівасці бытавых плеценых вырабаў XIX—XX стст.— Весці АН БССР, серыя грамадскіх навук, 1978, № 2.



# АПРАЦОЎКА СКУРЫ, ФУТРЫ, ВОЎНЫ

Апрацоўка скуры, футра і шэрсці жывёл вядома з глыбокай старажытнасці. Гэтыя матэрыялы выкарыстоўваліся для вырабу адзення, абутку, гаспадарчых рэчаў.

Вырабам футра і аўчын займаліся кушняры, аўчыннікі, апрацоўкай скур для пашыву абутку — гарбары, вырабам скуры для збруі—рымары, валеннем (катаннем) — шапавалы.

Тэхналогія промыслаў з некаторымі зменамі дайшла да нашых дзён. Інструментарый з цягам часу ўдасканальваўся, з'яўляліся новыя прылады, драўляныя інструменты замяняліся металічнымі і г. д.

Тэхналагічны працэс апрацоўкі скуры жывёл уключае падрыхтоўчыя аперацыі (прамыўка, заленне, мяздрэнне, абястлушчванне), аперацыі апрацоўкі (квашанне, змякчэнне, дубленне), аддзелачныя аперацыі (фарбаванне, цісненне і г. д.). Да канца XIX ст. аўчыны вырабляліся без дублення (белыя). Сырамятная скура (сырамяць, сырыца) падзялялася на скрэбеную (брытую), без квашання і квашаную (квашаніну).

Нож-аднаручнік, скобля, струг (нож з дзвюма ручкамі), каса звычайная — прылады для мяздрэння скур.

**Тупік** — тупы нож для скробкі мяздры і шэрсці.

**Каса з донцам** (сядзеннем) — прылада для мяздрэння пры вырабе футра ваверкі, зайца.

**Кольца жалезнае** (у выглядзе скабы) — прылада для размякчэння скуры зайца.

**Крук** (драўляны, жалезны) — прылада для размякчэння аўчын.

**Бяляк** — станок для змякчэння (разбіўкі) скур, аўчын і футраў.

**Мяла** — станок для змякчэння сырамятнай скуры.

**Галіцы** — жалезныя шрубападобныя скобы, убітыя ў драўляны слуп, для паўторнай чысткі мяздры пры вырабе футраў.

**Рама рассоўная** (драўляная) — прыстасаванне для расцягвання аўчын.

**Канёк** — дошка, на якой расцягваюць і разгладжваюць скуру ваверкі.

**Ступа вадзяная** складалася з вялікай ступы або дубовага карыта і некалькіх таўкачоў, якія прыводзіліся ў рух пры дапамозе вадзянога кола. Выкарыстоўвалася для драблення кары лісцевых парод дрэў, што ўжывалася для дублення скур. Саматужныя рамеснікі таўклі кару ў звычайных ступах або seклі секачом.

**Каток** — прылада для разгладжвання скур. Складаўся са стрыжня з крыжападобнай ручкай, на канцы якога быў замацаваны медны цыліндр, што круціўся на восі.

**Лашчыла** — прылада для глянцавання скур. Дошчачка з ручкай, у якую ўстаўлялася тупая чыгунная (медная) пласцінка ці кусок шкла.

Акрамя таго, пры апрацоўцы скур, футраў і аўчын выкарыстоўваліся чаны для залення, квашання, дублення, калода (плаха, кабылка), козлы для мяздрэння і скробкі шэрсці, шчотка, часок, чышчалка для расчэсвання і чысткі футра, краільныя нажы, наразная каталка для размякчэння, драўляная калатушка для разгладжвання, скрынкі для апілак і гліны, чарпак для фарбы, посуд для дзёгцю і тлушчу і іншыя прылады і прыстасаванні.

**Прэс** — прылада для ўціскання драўляных частак у скуру пры вырабе сядзёлак.

**Ціскі драўляныя** (клешчы, столак) — дзве паўкруглыя дошкі з шрубай пасярэдзіне. Выкарыстоўваліся пры шыцці паўшораў і да т. п.




Калоды (а), казлы (б)




Тупік (а), кольца (б), галіца (в), косы з донцамі (г), часкі (д), шчоткі металічныя (е), чышчалка (ж)



Крукі

Іншыя прылады і матэрыялы для вырабу збруі: жалезныя абцугі, малаток, шыла, іголкі, дратва (прасмоленыя льняныя ніткі), драўляныя клешчы для хамутоў, цуглі і інш.

Збруя: гужы, пастронкі, церассядзельнікі, паўшоры, аброці, хамуты, сядзёлкі, сёдлы.

Прылады для апрацоўкі воўны тыя ж самыя, што і льнянога валакна: грэбень, металічная шчотка, верацяно, калаўрот, кросны.

**Нажніцы** для стрыжкі авечак з суцэльнай палоскі сталі, без замацавальнай шрубы.




Рама (а), правідлы (б, в)




Белякі (а, б, в), мялы для сырыцы (г, д)



Ступа вадзяная



Ціскі



Нажніцы



Карыты з качалкамі




Брында (а), байкі (б), рашоткі (в)




Правідлы (калодкі): а — для валёнак, б, в — для шапак (магерак) і капелюшоў; шчотка (г), пруток (д), кабыла (е), станок (ж)

**Пруткі** (драўляныя, жалезныя) — прылады для вязання панчох.

**Кручок** (драўляны, жалезны) — прылада для вязання рукавіц.

Рубчастыя **карыта** і **качалка, ступа** звычайная з таўкачом — прылады для валення сукна.

**Сукнавальня** (фалюш) — збудаванне пры млынах. Сукно ўміналася з дапамогай вала, які прыводзіўся ў рух вадзяным колам.

**Брында** (струна, лучок) — прылада для разрыхлення (біцця) воўны. Драўляная палка, на якую нацягвалася стру-

на з авечай кішкі. Брынду вешалі на сцяне такім чынам, каб струна была павернута да майстра. Калі ўдаралі па струне байком, яна хісталася і воўна разрыхлялася.

**Рашотка** з лучыны, звязанай вяровачкамі, замацоўвалася пад брындай, на яе клалі воўну.

**Баёк** (кручок жалезны ці брусок драўляны) — прылада для нанясення ўдару па струне брынды.

**Правіддлы** — драўляныя калодкі для надання пэўнай формы шапкам і валёнкам.

**Качалка** (пруток) — жалезная прылада для раскатвання валёнак.

**Шчотка** (грэбень) — зубчастая дубовая калодка для раскатвання валёнак.

**Кабыла** — прыстасаванне для шаравання пемзай бакоў шапкі ці капелюша, нацягнутых на правідлы.

**Станок** — шырокая дошка з круглай дзіркай пасярэдзіне, у якую змяшчаўся капялюш для шаравання яго палёў пемзай.

---

Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии, кн. 2.— Могилев, 1884; Грынблат М. Я. Сялянскія промыслы і рамёствы ў Беларусі ў пачатку XX ст.— Весці АН БССР, серыя грамадскіх навук, 1957, № 2; Аронина Ю. Н. Технология выделки и крашения меха.— М., 1977; Буракоўская Н. І. Сялянскія рамёствы Беларусі ў перыяд разлажэння феадалізму і пачатку развіцця капіталізму.— Весці АН БССР, серыя грамадскіх навук, 1978, № 5.

# ТКАЦТВА



Адным з багатых і старажытных промыслаў беларусаў з'яўляецца народнае ткацтва. На працягу стагоддзяў яно развівалася, удасканальвалася і перадавалася з пакалення ў пакаленне. У народным ткацтве знайшла сваё адлюстраванне векавая гісторыя беларускага народа, яго майстэрства, мастацкі густ.

Традыцыйнае ткацтва — складаны і шматгранны працэс.

Сыравіна — лён, авечая воўна, радзей каноплі. Для апрацоўкі лёну існавала шмат спосабаў і прылад.

**Пранік** (пральнік, прач, валёк) — прылада для абівання льну.

**Нажы** (драчок) — прылада для абрывання льняных галовак. Нагадваюць матыку з зуб'ем, толькі ў нажах зуб'е было вострым з абодвух бакоў. Былі вядомы ў асноўным на поўначы Беларусі.

**Церніца** (мялка, мяліца, мячка). На Беларусі вядомы чатыры тыпы церніц: нахільная, зробленая са ствала дрэва, двухрэбравая, аднарэбравая і гарызантальная, збітая з дошак.

**Трапло** (трапачка, трапушка, трэпачка) — прылада для трапання валакна. Вядомы два асноўныя тыпы трапла: лапатападобнай формы (паўночныя і паўночна-ўсходнія раёны) і мечападобнай (на астатняй тэрыторыі Беларусі).

**Грэбень** (друка) — прылада для часання валакна. На поўдні і на ўсходзе Беларусі вядомы драўляны грэбень лапатападобнай формы з выразаным зуб'ем, на поўначы (Віцебшчына, паўночныя раёны Міншчыны і Магілёўшчыны) — грэбень з набітым драўляным зуб'ем. На ўсёй тэрыторыі Беларусі вядомы грэбень з металічным зуб'ем.

**Шчотка** (шчэць). Выраблялася са свіного шчаціння і выкарыстоўвалася для часання кужалю. Пашырана на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

**Прасніца** (прасліца, пралка, потасць) — прылада, на якой умацоўвалася кудзеля. На ўсёй тэрыторыі Беларусі пашырана прасніца лапатападобнай формы, на паўднёвым усходзе сустракаецца вёслападобнай формы.

**Верацяно** — прылада для скручвання ніткі ў працэсе прадзення.

**Калаўрот** (самапрадка, самапраха) — прылада для прадзіва. Вядомы два тыпы: калаўрот-стаяк, у якім кола размешчана вертыкальна, і калаўрот-ляжак з колам, размешчаным гарызантальна.

**Матавіла** (вітушка, баран і інш.). Для звівання пражы ў маткі служылі два тыпы матавіл. Найбольш простым, якое захавалася ў асноўным на поўдні Беларусі, з'яўлялася ручное матавіла (палка з натуральнай развілкай на адным і папярочынай на другім канцы). Больш удасканаленае матавіла — крыжавіна з брускамі на канцах, умацаваная на падстаўцы. Сустракаліся яны часцей у заходніх раёнах Беларусі. На ўсёй тэрыторыі вядома матавіла для

размaтвання пражы з маткоў (размотыч). Даволі пашыраным з'яўлялася матавіла «баран», якое складалася з двух крыжавін, злучаных тонкімі брускамі. З яго снавалі кросны.

**Сноўніца** (снойка, снойля, снавальня) — прылада для снавання кроснаў. Пашырана ў асноўным на поўначы Беларусі.

**Кросны** (станок, стаціўы і інш.).




Пранік (а), кажы (б), церніцы (в, г, д, е, ж, з)




Трапло (а, б), грэбні (в, г, д, е)




Сноўніцы

Вядомы тыпы: кросны «на сохах» (найбольш прымітыўныя і старажытныя), рамныя і варштат. Кросны «на сохах» сустракаліся на поўдні Беларусі. Варштат больш характэрны для заходніх раёнаў. Рамныя кросны былі пашыраны на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

Састаўныя часткі кроснаў класіфікуюцца па трох групах: часткі, якія складалі аснову ткацкага стана (ставы), часткі, якія вызначалі ход ткання (навоі, набілкі з бёрдам, ніты, панажы); неабходнай прыналежнасцю ў працэсе ткання з'яўляліся цэўкі, сукала, чоўнік, пругі.




Чоўнікі (а, б), цэўка (в), сукала (г)

**Ставы** (станіны, ставіціны, стацівы) — два гарызантальна ўмацаваныя брускі даўжынёю прыкладна 1,5—1,7 м, у дыяметры 25—30 см.

**Навой** (навойка, вал, калода, вараціла). Вядомы два навоі: пражны, на які накручвалася аснова, і палатняны — для накручвання гатовага палатна.

**Ніты** (нічальніцы, нічанькі, цапкі) — прыстасаванне для ўтварэння зеву.

**Чапёлкі** (кацёлкі, калясцы, пакацелкі) служылі для падвешвання нітоў.

**Панажы** (паножкі, падножкі). Пры дапамозе іх падніліся і апускаліся ніты.

**Бёрда, набілкі** (набіліцы) служылі для прыбівання ўтка.

**Чоўнік** (чаўнок, чаўнык) — прылада для прапускання ўточных нітак, накручаных на цэўку.

**Цэўка** служыла для накручвання пражы для ўтка.

**Пругі** (распоркі). Служылі для раўнамернага нацягвання палатна ў час ткання.

**Сукала** (сукайла) — прылада для накручвання пражы на цэўку.

У залежнасці ад функцыянальнага прызначэння традыцыйныя тканіны падзяляюцца на тканіны паўсядзённага карыстання і дэкаратыўныя.

**Ручнік.** У паўсядзённым карыстанні ўжываліся ручнікі, якія не вылучаліся багаццем упрыгожанняў і тэхнікай выканання. Ткалі іх звычайна ў чатыры ніты з узорам «у рады» і «ў ёлачку». Ручнікі, якія ўжываліся для выцірання твару і рук, мелі назву «ўціркa», «уцірач», «уціраннік», а кухонныя ці пасудныя ручнікі — «трапкач».

Дэкаратыўныя ручнікі разнастайныя як па тэхніцы выканання, так і па арнаментыцы. Найбольш распаўсюджанымі з'яўляюцца ручнікі, якія выконваліся пры дапамозе бранай тэхнікі. Узор на іх размяшчаўся ў выглядзе папяровых

паскаў. На паўночным усходзе Беларусі затыкаліся толькі канцы ручніка (двума-трыма паскамі). На поўдні і паўднёвым усходзе пашыраны ручнікі, узор у якіх займаў 20—60 см і больш. На Палессі вядомы так званыя паўсёмістыя ручнікі. Для іх характэрна размяшчэнне ўзору па ўсім полі ручніка, дзе ўзорныя паскі чаргуюцца з гладказатканымі.

У цэнтральных раёнах выраблялiся камбінаваныя ручнікі. Канцы затыкаліся пры дапамозе бранай тэхнікі, а сярэдзіна — спосабам шматнітовага ткання. На захадзе Беларусі сустракаюцца ручнікі, у якіх узор размяшчаўся па даўжыні.

Апрача тканых, на ўсёй тэрыторыі Беларусі вядомы ручнікі вышываныя з характэрным для іх раслінным арнаментам. Як тканыя, так і вышываныя ручнікі ўпрыгожваліся карункамі, зрэдку — махрамі.

**Абрус** (скацерка, настольнік, сурвэта). Складаўся з дзвюх полак, злучаных ажурным швом — прошвай. Святочныя абрусы ткаліся з тонкай кужэльнай пражы. Найбольш пашыраны спосаб вырабу — васьмінітовы. Узор геаметрычны (шашкі, балонкі, лішковыя абрусы). На паўночным захадзе вядомы васьмінітовыя абрусы з «перавяззю». Для іх характэрна двухколеравае вырашэнне — белая аснова і каляровы (блакітны, жоўты і інш.) уток. Ён як бы насцілаўся па аснове, утвараючы чатырохпялёсткавыя разеткі. У XX ст. атрымалі пашырэнне абрусы, вытканыя на вялікай колькасці нітоў (12, 16 і больш).



Матавілы




Прасніцы (а, б), верацяно (в), калаўрот (г)


Кросны

Усе абрусы ўпрыгожваліся карункамі або махрамі. Вузкія канцы затыкаліся чырвонымі паскамі.

Абрусы, якія засціламіся на стол кожны дзень, ткаліся з больш грубай пражы нескладаным чатырохнітовым спосабам.

**Посцілка** (просцілка, коўдра, радзюжка). Служыла для засцілання ложка. Паўсядзённыя посцілкі (радзюжкі) ткаліся з ільняной пражы. Святочныя — паўсуконныя або суконныя. Яны вылучаюцца разнастайнасцю тэхнічных прыёмаў, арнаментыкай, а таксама каляровай гамай. У канцы XIX ст. найбольш пашыранымі былі посцілкі ў клеткі (у шклянкі, у плахі), вытканыя чатырохнітовым спосабам. Клеткі ўтвараліся каляровай асновай. У канцы XIX — пачатку XX ст. шырокае распаўсюджанне мелі чатырохнітовыя посцілкі, у якіх узор (клеткі, кругі) ствараўся паліхромным утком, які насцілаўся паверх асновы. Вялікія клеткі злучаліся маленькімі клетачкамі (драбнічкі, стоўбчыкі). Для іх характэрны такія назвы, як «агурочкі», «пярэкулы», «мінёны». Амаль на ўсёй тэрыторыі Беларусі, асабліва на паўночным захадзе, была пашырана назва «дымка», «дым», «самадымка». У паўночна-заходніх раёнах бытавалі чатырохнітовыя посцілкі ў папярочныя паскі, мастацкі эфект дасягаўся паліхромным утком. Ткаліся яны на вузкім стане суцэльнымі (несшыванымі), што абумоўлівалася спосабам накідкі асновы ў ніты і ходам па панажах. У XX ст. такія посцілкі пачалі ткаць на шырокіх кроснах.

На поўдні Беларусі ткалі так званыя выцяганыя посцілкі. Узор у іх ствараўся каляровым утком, які выцягваўся петлямі пры дапамозе спецыяльнага пруточка. Для іх характэрны як геаметрычны, так і раслінны арнамент.

Усюды на Беларусі бытавалі перабіраныя посцілкі (наборкі, перабіранкі і інш.). Пры вырабе іх выкарыстоўваўся двайны ўток — фонавы і ўзорны. Узор

рэльефны, двухбаковы. На адваротным баку атрымліваўся яго негатыўны малюнак.

Багаццем узораў і каляровай гамай характарызуюцца посцілкі, вытканыя пры дапамозе тэхнікі закладання. Ткуцца яны паліхромным утком, які закладваецца не па ўсёй шырыні асновы, а толькі ў месцах узору. Посцілкі-закладанкі найбольш пашыраны на поўдні Беларусі.

Сярод дэкаратыўных тканін вылучаюцца двухасноўныя дываны (дываны суканыя). Для іх характэрна наяўнасць двух рознакаляровых асноў (калі ў адной пары асновы ідзе адна нітка, напрыклад чырвоная, а другая зялёная) і адсутнасць фонавага ўтка. Пашыраны такія дываны на захадзе Беларусі.

**Навалачка** (наўлечка). Шылася з простага ці ўзорнага матэрыялу. Вядомы два тыпы навалачак: прамавугольныя, або, як іх прынята называць, доўгія, і квадратныя або круглыя. Доўгія навалкі, як правіла, не ўпрыгожваліся. Круглыя ж упрыгожваліся тканым або вышываным узорам, а таксама вязанымі карункамі.

**Дзяруга** шылася ў выглядзе вялікага мяшка і служыла замест коўдры, таму ткалася шчыльнай, спосабам чатырохнітовага ткання «ў рады». Сустракалася на ўсходзе Беларусі.

**Полаг** развешваўся над палком або ложкам. Шыўся з трох-чатырох полак. З бакоў прышываліся «крылы». Падвешваўся полаг за петлі, прымацаваныя зверху.




Посцілкі: а — перабіранка, б, в, г, д — чатырохнітовая, е — закладанка



# АДЗЕННЕ

**Жаночы комплекс** беларускага сялянскага касцюма складаўся з нацельнага плечавога адзення — сарочкі, спадніцы, абавязковым дапаўненнем з'яўляліся фартух, безрукаўка. У канцы XIX — пачатку XX ст. у многіх мясцовасцях Беларусі замест безрукаўкі сталі надзяваць кофту з доўгімі рукавамі.

Разнастайнасць у адзенні праяўлялася ў тыпах крою і ўпрыгожанні сарочак, расфарбоўцы і крою спадніц, у характары ўпрыгожання фартухоў, у кроі і ўпрыгожанні безрукавак.

**Сарочка** (кашуля, рубаха) мела чатыры тыпы крою плечавой часткі: з палікамі — прамавугольнымі ўстаўкамі на плячах; на гестцы, пры сшыванні якой палотнішчы (станіны) збіраліся ў зборку спераду, а іншы раз і ззаду; тунікападобная — без швоў на плячах; са швом на плячах.

Сарочка з палікамі як святочнае адзенне была вядома на ўсёй тэрыторыі Беларусі, а ў паўднёвых абласцях з'яўлялася пануючым тыпам крою нацельнага адзення. Паліковая сарочка мела доўгі рукаў, нярэдка з манжэтам (манкет, абшэўка), адкладны або стаячы каўнер, рамбічныя падпашныя ўстаўкі (цвікля, цвеліх, ластавіца). Сарочкі ўпрыгожваліся тканым і вышытым узорамі: на паліках, верхняй частцы рукава або па ўсім рукаве, каўняры, грудзях, манжэтах. У паўднёвых палескіх раёнах пераважаў раслінны арнамент (кветкі, сабраныя ў бардзюр, або раскіданыя па адной). Нярэдка кветкавы арнамент спалучаўся з геаметрычным. У паўночна-ўсходніх абласцях пераважаў геаметрычны арнамент.

Сарочка з гесткай (какеткай) пераважала на поўначы Беларусі. Як правіла, яна не мела каўняра, а часта і манжэтаў. Упрыгожвалася звычайна ўздоўж шва, які мацаваў гестку са станінай, вакол шыйнага выразу бардзюрам з дробных кветак.

Тунікападобная сарочка ў пачатку XX ст. панавала ў паўночна-заходніх раёнах і, як і сарочка са швом на плячах, выконвала ролю ніжняй бялізны. Яна не ўпрыгожвалася, мела кароткі, вышэй локця, рукаў і заўсёды надзявалася пад кофту.

**Безрукаўка** (кабат, гарсет, шнуроўка, нагруднік, лейбік, кітлік, станік) надзявалася на паліковую сарочку, мела многа тыпаў крою. У цэнтральных раёнах паўднёвага Палесся (Тураўскі, Давыд-Гарадоцкі) пераважалі кароткія, да пояса, безрукаўкі прамога пакрою, упрыгожаныя нашыўкай з рознакаляровых стужак і тасьмы. У Целяханскім, Пінскім, Клецкім і іншых цэнтральнапалескіх раёнах пераважалі доўгія безрукаўкі з разрэзамі ў набедранай частцы, з вышыўкай на пярэдніх полках; у Калінкавіцкім, Мазырскім і іншых раёнах шырока вядомы доўгія безрукаўкі з чорнага сукна з адразным у таліі нізам,

сабраным ззаду ў складкі. Правая пала і прышыўны пояс упрыгожваліся вышыўкай. У асяроддзі дробнай шляхты бытавалі кароткія безрукаўкі з адрэзам у таліі, сабраныя ў складкі ці зборку па лініі адрэзу, упрыгожаныя залатым, срэбным пазументам і нашыўкамі мета-



Асноўныя комплексы традыцыйнага жаночага адзення: а, б — з безрукаўкай і фартухом, в, г — з фартухом



Комплексы жаночага адзення: а — жаночы касцюм (Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл.), б — жаночы касцюм (в. Негюбка Веткаўскага р-на Гомельскай вобл.), в — жаночы касцюм (цэнтральная Беларусь), г — жаночы касцюм (заходняе Палессе)

лічных пласцінак рознай велічыні. У раёнах Падняпроўя і ўсходняга Падзвіння безрукаўкі прышываліся да спадніцы — саяна. У некаторых мясцінах паўднёва-заходняга Палесся і заходняй Віцебшчыны безрукавак не насілі. Усе віды безрукавак мелі разрэз спераду і зашпільваліся на гаплікі або гузікі.

**Кофта,** якая прыйшла на змену безрукаўцы, была прамога крою, шылася з доўгім рукавом, адкладным або стаячым каўняром, разрэзам спераду па цэнтру.

**Спадніца** шылася з даматканага палатна, сукна і пакупных суконных тканін. Вядомая на ўсёй тэрыторыі Беларусі палатняная спадніца была звычайна белага колеру. У Падняпроўі яна ўпрыгожвалася затканымі ўнізе палосамі чырвонага колеру. Агульнавядома таксама спадніца з лёгкіх купленых (крамных) тканін (паркаль і інш.), якая упрыгожвалася нашыўкай шаўковых стужак па ніжнім краі. У паўночна-заходніх раёнах Беларусі шырока вядома суконная спадніца ў паўтары папярочныя полкі з рысункам у папярочныя рознакаляровыя палосы.

**Андарак** — спадніца, пашытая з 3—5 падоўжных полак паласатага, клетчатага або аднатоннага сукна дамашняга вырабу. Часта верхняя палова пярэдняй полкі рабілася з другой тканіны, нярэдка з палатна.

**Саян** — спадніца з сукна фабрычнага вырабу, аднатоннай афарбоўкі, звычайна з прышыўным ліфам — кабатам. Шылася ў два падоўжныя палотнішчы. Насілі ў Падняпроўі і ў некаторых мясцінах усходняй Беларусі.

**Даматкан** — святочная, часта з тонкага фабрычнага сукна спадніца, ніжні край якой упрыгожваўся пазументам. а ззаду каля пояса закладваліся глыбокія складкі. Насілі на тэрыторыі былога Пінскага павета.

**Бурка** — суконная спадніца накшталт андарака, з характэрным узорам у папярочныя палосы. Была распаўсюджана ў паўднёва-заходніх раёнах Брэстчыны.




Комплекс жаночага адзення са спадніцай (а, б), спадніцы ў клетку (в, г)




Крой жаночых сарочак: (а, б — з палікамі, в, г — са швом на плячах, д — з гесткай, е — тунікападобны крой)



Жанчына ў намітцы (в. Макраны Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл.)



Тыпы традыцыйных паясоў




Верхняе адзенне: а — мужчынскае, б — жаночае (латуха)

**Панёва** — нясшытае паясное адзенне з суконнай даматканіны, аднатоннай або клетчатай. Мела вузкалакальнае распаўсюджанне (асобныя вёскі паўднёва-ўсходніх абласцей). У некаторых месцах панёвай называлі і сшытую спадніцу тыпу андарака.




Крой мужчынскіх штаноў: а — з ромбавіднай устаўкай, б — з двума трохвугольнымі ўстаўкамі

**Фартух** (пярэднік, запон) замацоўваўся на таліі з дапамогай пояска. Шыўся з 1—3 полак даматканага палатна, а ў канцы XIX — пачатку XX ст. нярэдка з пакупнога каленкору. Фартухі з даматканіны затыкаліся папярочнымі або падоўжнымі палосамі геаметрычнага ўзору. Каленкоравыя фартухі звычайна ўпрыгожваліся паліхромнай вышыўкай або стужкамі.

Комплекс традыцыйнага мужчынскага адзення складаўся з сарочкі, штаноў і пояса, а ў некаторых мясцінах дапаўняўся безрукаўкай.

**Сарочка** (кашуля, рубаха) мела чатыры тыпы крою: тунікападобны, на гестцы, з палікамі, з плечавымі швамі. Шыліся сарочкі з палатна з выразам вакол шыі, з адкладным або стаячым каўняром. Сарочкі з плечавымі швамі мелі разрэз на грудзях па цэнтру або з левага боку. Рукавы прамыя і на манжэтах, часта ўпрыгожваліся вышыўкай.

**Штаны** (порты, нагавіцы, ганавіцы, суконнікі і інш.) шыліся з палатна, сукна, паўсукна белага, шэрага і чорнага колеру. Паводле крою і канфігурацыі ўставак падзяляліся на некалькі тыпаў. Звычайна шыліся на поясе шырынёй 3—4 см, які зашпільваўся на гузікі або на палачку (бірулька, шпонка).

**Пояс** (крайка, акрайка, кушак, каснік і інш.). Паводле спосабу вырабу паясы вядомы трох тыпаў: плеценыя, тканыя і вязаныя. Плеценыя паясы звычайна мелі ад 2,5 да 5,5 см шырыні. Сустракаліся круглыя, кручаныя. Тканыя і вязаныя паясы мелі шырыню 15—30 см, даўжыню 2—3 м і больш. Выrabляліся з суконных і паўсуконных нітак рознага колеру. Канцы пояса звычайна ўпрыгожваліся рознакаляровымі кутасамі. Шырока бытавалі і скураныя паясы (рэмень, дзяга, папруга і інш.).

**Безрукаўка** (камізэлька, жылетка, чулейка і інш.). Была найбольш пашырана ў заходніх раёнах Беларусі. Спераду зашпільвалася на гузікі (вельмі рэдка на гаплікі).




Жаночыя спадніцы-саяны




Тыпы безрукавак




Тыпы крою і віды ўпрыгожанняў блузак




Віды ўпрыгожанняў жаночых фартухоў



Тыпы мужчынскіх сарочак: а — тунікападобная з адкладным каўняром, б — з палікамі, в — са швамі на плячах



Фрагменты тканых паясоў: а — Кобрынскі р-н Брэсцкай вобл., б — Слуцкі р-н Мінскай вобл.

Суконнае верхняе адзенне любой назвы і тыпу крою было даўгаполае, з доўгімі рукавамі, стаячым або адкладным каўняром, зашпільвалася на гаплікі і завязвалася поясам.

**Світа** (латуха, армяк, сярмяга, бурка, жупан, катанка і інш.) — верхняе адзенне з даматканага сукна шэрага, белага, карычневага, чорнага колеру, розных тыпаў крою: прамога з устаўнымі клінамі (з вусам); з адразной ззаду спінкай, сабраная па лініі шва ў зборку (бытавала ў Магілёўскай і на поўдні Мінскай губерняў); з падразнымі бачкамі, зрэдку прысабранымі па лініі адрэзу.

**Бурка** (чуйка) — даўгаполае суконнае верхняе адзенне прамога крою з башлыком.

**Казачынка** — кароткае суконнае адзенне з рукавамі, стаячым або адкладным каўняром, адразное і сабранае па таліі.

**Куртка** (курцік, каптан, пінжак, кулёк, сачок, лапсардак і інш.) — кароткае суконнае адзенне мужчын і жанчын, звычайна прамога крою, з рукавамі, адкладным каўняром. Зашпільвалася на гузікі.

**Кажух** — даўгаполае адзенне з аўчын, часцей за ўсё прамога крою, з адкладным футравым каўняром, доўгімі рукавамі. Зашпільвалася на гаплікі або гузікі.

**Паўшубак** (кажушок) — кароткае аўчыннае адзенне з рукавамі, пераважна прамога крою.

**Насоў** (балахон, касталан) — верхняе адзенне з палатна, прамога халатападобнага крою. Часта надзявалі на футравае адзенне, радзей — на суконнае. Меў шырокае распаўсюджанне ў паўночнай Беларусі.

На тэрыторыі Беларусі вылучаюцца тры раёны, якія адрозніваюцца матэрыялам, з якога рабілі галаўныя ўборы, кроем, спосабамі ўпрыгожвання і г. д.

Для тэрыторыі Віцебскай, Магілёўскай і ўсходніх паветаў Мінскай губерняў былі характэрны мужчынскія валяныя шапкі. Жаночы галоўны ўбор складаўся з намёткі (або хусткі), тканкі, якую ў некаторых мясцовасцях замянялі закручаныя на кудзелю валасы ці ўкладзеныя вакол галавы косы, і чапца.

Беларускія паветы Віленскай губ., Аўгустоўскі павет Сувалкаўскай губ. і паўночная Гродзеншчына з прылеглымі да яе паветамі цэнтральнай Міншчы-




Тыпы крою світак: а — «з вусам», б — з падразнымі бакамі, в — з адразной спінкай у зборку, г — з фалдамі




Тыпы мужчынскіх безрукавак




Світка (а), латуха (б)



Тыпы кароткага верхняга адзення



Кажухі



Буркі

ны (Нясвіжчына, Случчына) характэрны адсутнасцю мужчынскіх валяных шапак, а з пачатку XX ст.— традыцыйных дзявочых галаўных убораў.

Галаўны ўбор жанчын складалі намётка (хустка)+тканка+каптур, на Случчыне — намётка (хустка+тканка+шапка).

На захадзе Палесся (тэрыторыя сучаснай Брэсцкай вобласці) у канцы XIX ст. бытавалі высокія мужчынскія футравыя шапкі — капузы і шапкі з чатырохвугольным верхам, якія мелі шырокае распаўсюджанне ў палякаў, маляўнічыя і разнастайныя жаночыя галаўныя ўборы. Найбольш пашыраны варыянт — намётка (хустка)+шапка+круглы чапец+падбічка; у сярэдзіне XIX ст.— «галава»+намётка; намётка (хустка)+пушанка+круглы чапец.

На тэрыторыі Беларусі існавалі розныя варыянты галаўнога ўбора замужніх жанчын, які складаўся з цвёрдай асновы; мяккага, звычайна сшытага з «крамнай» тканіны або вязанага з нітак чапца; ручніковага галаўнога ўбора (намётка) або хусткі.

**Намётка** (намітка, павівала, плат і інш.) — доўгі (2,5—5,3 м) ручнік з тонкага палатна шырынёй 40—60 см з затканымі (звычайна чырвонымі) баваўнянымі ніткамі канцамі. Павязвалі на чапец або каптур. У другой палове XIX ст. намётку замянілі хусткі.

**Тканка** (кібалка, бічайка, лямец) — абручык з ільняной кудзелі, лісця явара або некалькіх тонкіх гнуткіх галінак дрэва, абшытых палатном, на які накручвалі валасы. Рабіўся строга па аб'ёму галавы. Прыдаваў форму ўсяму галаўному ўбору.

У сярэдзіне XIX ст. на Палессі яшчэ бытаваў рагаты жаночы галаўны ўбор — галава, які па форме нагадваў ківер улана.

Да ліку рагатых галаўных убораў належыць і пушанка, якая бытавала на поўдні Мінскай губ.

**Чапец** (павойнік, зборнік) — неглыбокая круглая шапачка, якая, не закрываючы вушэй, шчыльна аблягала галаву. Часцей за ўсё шыўся з паркалю, шоўку, атласу, кашміру. Налобная частка ўпрыгожвалася стужкамі, карункамі, вышыўкай, пацеркамі.

**Каптур** — глыбокі чапец з завязкамі пад падбародкам. Шчыльна аблягаў галаву і закрываў вушы, нагадваючы па форме дзіцячы чэпчык. Пераважна чырвонага або чорнага колеру, шылі іх з тонкага сукна, часта ў спалучэнні з іншымі фабрычнымі тканінамі.

**Шапка** — разнавіднасць каптура. Мела больш вузкія і кароткія завязкі. Бытавала ў Слуцкім павеце Мінскай губ.

У заходнім Палессі па аколышу чапца звычайна павязвалася суконная стужка, часцей за ўсё чырвонага колеру (падбічка, гічка, куснак).

Дзявочая галаўная **павязка** (шырынка, скіндачка, ручнік) мела выгляд вузкага ручніка з арнаментаванымі канцамі або налобнікам. Шырыня павязак каля 30 см, даўжыня 1—1,2 м.

**Вянок** — традыцыйны дзявочы галаўны ўбор. Аснова рабілася з цвёрдага матэрыялу — лубу, бяросты, палоскі кардону шырынёй 10—15 см, згіналася па аб'ёму галавы, яе абшывалі палатном або лёгкай фабрычнай матэрыяй. Вышыня вянка была аднолькавая вакол усёй галавы, верх заўсёды адкрыты. Вясельныя вянкі з вонкавага боку ўпрыгожваліся жывымі або штучнымі кветкамі, фарбаваным пер'ем, а ззаду да ніжняга краю вянка чапляліся рознакаляровыя стужкі (пазней вэлюм). Раён бытавання — Магілёўская, паўднёвыя паветы Мінскай, Ваўкавыскі, Брэсцкі і Кобрынскі паветы Гродзенскай губерняў.

У Віцебскай, на большай частцы Гродзенскай і Мінскай губерняў пераважалі вясельныя вянкі са штучных кветак, замацаваных у адзін рад на дроцiку, сагнутым па аб'ёму галавы. Ззаду да вянкоў такога тыпу прымацоўваўся белы вэлюм (валь, туль, павуцінне, кісея, маслёна і інш.).



Чапец (а), шапка (б), каптуры (в, г)

**Магерка** (маргелка, валёнка, каўпак) — мужчынская валяная шапка. Была распаўсюджана на ўсходзе Беларусі. Выраблялі з воўны мясцовыя шапавалы. Колер разнастайны: чорны, сівы, карычневы, белы. Мела выгляд конуса, усечанага конуса ці цыліндра з увагнутым або выпуклым верхам. Часта магеркі рабіліся з палямі, якія шчыльна прылягалі да тулы.

**Аблавуха** — зімовая шапка. Шылася з аўчыны або іншага футра, зверху



Мужчынскія галаўныя ўборы: а — аблавуха, б — капялюш, в, г — магеркі



Абутак: а — глухі лапаць, б — пахлапень, в — скураны лапаць, г, д — жаночыя чаравікі

пацягвалася сукном. Да асновы шапкі прышывалася чатыры вухі. Бакавыя вушы завязваліся пад падбародкам, а пярэдняе і задняе — зверху.

**Кучма** — высокая зімовая шапка з аўчыны (футрам наверх) у форме высокага цыліндра або конуса.

**Капуза** — зімовая шапка вялікіх памераў. Шылася з аўчыны. Бытавала на захадзе Палесся.

**Капялюш** (брыль) — войлачная або плеценая з жытняй саломы, чароту, лазы шапка. Летнія плеценыя капелюшы шырока бытавалі ў паўднёвых раёнах Беларусі, у Гродзенскай, Віленскай і Віцебскай губернях.

**Картуз** (шапка) — летні галаўны ўбор сучаснага тыпу. Іх плялі з саломы і шылі з матэрыялу.

**Лапці** — самаробны абутак з лыка, скуры, вітушак пянькі. Па тэхніцы вырабу лапці былі прамога і касога пляцення.

Лапці прамога пляцення бытавалі амаль на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Раён распаўсюджання лапцей касога пляцення — усходнія паветы Віцебскай і Магілёўскай губерняў. Спарадычна сустракаліся на поўначы Гродзеншчыны і заходняй Міншчыне. Суіснавалі з лапцямі прамога пляцення.

**Шчарбакі** (шчарбачні, бяспятнікі) — неглыбокія лёгкія лапці, амаль без галовак і запятак. Замест вушак спераду дзве лыкавыя петлі і па баках сплеценыя з лыка заборнікі, за якія прымацоўваліся аборы. Бытавалі на тэрыторыі Віцебскай губ., у Сенненскім і Горацкім паветах Магілёўскай губ.

**Кавярзні** (глухія лапці, слепакі, куратнікі) — лапці з больш глыбокімі насамі, якія мелі вялікую пярэднюю страку для прадзявання абор. Мелі найбольшае распаўсюджанне на Беларусі.

**Зрачыя лапці** мелі кароткі, з адкрытым верхам насок. Распаўсюджаны на

Палессі і прылеглых да гэтай вобласці паветах Гродзенскай і Мінскай губерняў.

**Пахлапні** (пахрасні) — лапці касога пляцення. Глыбокія круглыя насы, высокія запяткі і бакі.

**Лапці скураныя** (лапці, пасталы, паршні, хадакі, маршчакі і інш.) былі двух відаў:

а) з авальнага кавалка скуры. Даўжыня і шырыня загатоўкі адпавядалі памеру нагі з прыпускамі на бакі, заднік і насок. Па краях загатоўкі рабіліся дзіркі для абор;

б) з прамавугольнага кавалка скуры. Галоўка і заднік сшываліся па цэнтру, па краях рабіліся дзіркі для абор.

**Боты** (чобаты). Шыліся з перадамі і без перадоў (выцяжкі, выцяжныя боты). Чорнага або рыжага колеру, з рантам, на нізкіх прамых абцасах, з шырокімі круглымі насамі.

**Чаравікі жаночыя** (чаравікі, бацінкі, паўсапожкі). На высокіх або нізкіх абцасах. Спераду або збоку чаравікі шнураваліся або зашпільваліся на гузікі, гаплікі.

**Валёнкі** (валенцы). Найбольшае распаўсюджанне атрымалі ва ўсходняй Беларусі.

**Дзеравянікі** (дзеравяшкі, кандалы) мелі нязначнае распаўсюджанне. Дзеравяшкі былі або поўнасцю выдзеўбанымі з дрэва або са скураным верхам на драўлянай падэшве. Выкарыстоўваліся як сезонны абутак.

---

Никифоровский Н. Я. Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии.— Витебск, 1895; Беларускае народнае адзенне.— Мн., 1975.

# МУЗЫЧНЫЯ ІНСТРУМЕНТЫ



Музычныя інструменты цесна звязаны з культурай і бытам народа. Спрадвеку яны былі выказнікамі яго радасці і смутку, пастаяннымі кампанентамі святаў, сямейных і каляндарных абрадаў, а таксама сродкамі падачы сігналаў у час працы, палявання, вайны.

Народныя музычныя інструменты беларусаў вывучаны яшчэ мала. Узоры, што захоўваюцца ў музеях рэспублікі, недастаткова поўна анатаваны і таму не маюць навуковай каштоўнасці.

Пры набыцці народных музычных інструментаў неабходна зафіксіраваць мясцовыя назвы як самога інструмента, так і яго асобных частак: высветліць, з якога матэрыялу зроблены інструмент і яго часткі; выявіць, хто і пры якіх абставінах іграе на інструменце, хто і ў які час года яго вырабляе; апісаць працэс вырабу інструмента, звярнуўшы ўвагу на тое, як, калі і які матэрыял падбірае для яго майстар, якія рабочыя інструменты выкарыстоўвае. Пажадана набыць загатоўкі асобных частак інструмента на розных стадыях іх вырабу, а таксама рабочыя інструменты, што дазволіла б пры экспанаванні музычных інструментаў у музеях паказаць іх у працэсе стварэння.

Пажадана таксама запісаць народныя вуснапаэтычныя творы (паданні, казкі, прыказкі, загадкі і інш.), у якіх гаворыцца аб тым ці іншым музычным інструменце, яго паходжанні, асаблівасцях канструкцыі, характары гучання.

Група самагучальных інструментаў уключае калотку, лыжкі, талеркі, вугольнік, калатушку, звон, званок, бразготку, шархуны, трашчотку. У мінулым у гэтую групу ўваходзілі яшчэ варган, брусочкі і кляшчоткі.

**Калотка** (ляхотка) — драўляная прамавугольная дошчачка з драўлянай ручкай і прымацаваным да яе рухомым малатком. Пры хуткіх узмахах малаток стукае аб дошчачку, у выніку чаго ўзнікае шэраг моцных рэзкіх гукаў. У мінулым калотка выкарыстоўвалася вартаўнікамі (Хойніцкі раён Гомельскай вобл.) і дзецьмі (Магілёўшчына), у наш час — культавы інструмент (Міншчына, Гродзеншчына).

**Лыжкі.** Па форме нічым не адрозніваюцца ад звычайных драўляных сталовых лыжак. Выкарыстоўваюцца зрэдку ў якасці ўдарна-рытмічнага інструмента ў народных інструментальных ансамблях.

**Талеркі** — два аднолькавыя або розныя па дыяметру металічныя дыскі з пукатасцю пасярэдзіне. У цэнтры пукатасці прарэзана адтуліна для скуранай або драўлянай ручкі. Талеркі выраблялiся звычайна мясцовымі кавалямі. У мінулым выкарыстоўваліся ў народных ансамблях як самастойны ўдарна-каларыстычны музычны інструмент. У наш час з'яўляюцца, як правіла, састаўной часткай «турэцкага барабана» або камбінаванай ударнай устаноўкі. Бытуюць на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

**Вугольнік** (сталькі)—сталёвы прэнт, сагнуты ў выглядзе роўнабаковага трохвугольніка з раз'яднанымі канцамі. Пры ігры па вугольніку б'юць сталёвым прэнцікам. У Верхнядзвінскім раёне Віцебскай вобл. выяўлены інструмент іншай формы — падковападобнай. У недалёкім мінулым вугольнік быў распаўсюджаны таксама і на Міншчыне, Магілёўшчыне.

**Брусочкі** (цымбалкі) — набор драўляных брусочкаў рознай даўжыні, умацаваных на двух паралельных пучках жытняй саломы, моцна перавязаных у некалькіх месцах. Пры ігры на брусочках па іх білі двума драўлянымі малаточкамі. Зафіксіраваны ў мінулым у Рэчыцкім раёне Гомельскай і Шклоўскім раёне Магілёўскай абласцей.

**Калатушка** (біла) — прамавугольная дошка з цвёрдага дрэва або металу, па якой білі доўгай палкай з круглым патаўшчэннем на канцы, або брусок з вузкім перахватам пасярэдзіне, па якім «калаталі» драўляным малатком.

**Звон.** Мае форму пустой зрэзанай знізу грушы, унутры якой прымацаваны язык (біла). На Беларусі распаўсюджаны званы двух тыпаў — візантыйска-рускага (гук узнікае пры ўдары рухомага языка па корпусу замацаванага інструмента) і заходнееўрапейскага (гук узнікае пры разгойдванні самога звона і ўдары корпуса аб нерухомы язык). У старажытнасці званы адліваліся мясцовымі майстрамі, напрыклад, у Віцебску, Магілёве, Шклове, Крычаве.

**Званок** (балабон) мае тую ж канструкцыю, што і звон, але адрозніваецца ад яго памерамі, часам формай і матэрыялам. Вядомы званкі металічныя (бронзавыя, медныя, бляшаныя) і драўляныя (ботала, кляпайла, калатушка, лапатуха, клякотка, балабайка). Металічны званок мае форму ўсечанага конуса, драўляны — трапецападобную. Драўляны званок выкарыстоўваўся звычайна пры пасьбе жывёлы, металічны — у розных рытуальных народных абрадах (ка-




Калотка (а), лыжкі (б), талеркі (в), вугольнік (г), брусочкі (д), калатушка (е), трашчотка (ж)




Звон (а), кляшчоткі (б)




Званкі (а), шархуны (б), бома (в), бразготка (г)

лядным, вясельным, пахавальным), на паштовых трактах, у касцёлах. У наш час званок вядомы як састаўная частка бубна. Сустракаецца на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

**Кляшчоткі** (ляшчоткі, калакотка) — набор нанізаных на шнур драўляных дошчачак, аддзеленых адна ад адной драўлянымі пракладкамі. Калі трэсці, утвараецца моцны ляскат. У пачатку XX ст. зафіксіраваны на Міншчыне і Магілёўшчыне як дзіцячая цацка. У наш час не выяўлены.

**Бразготка** (калатушка, трашчотка) мае прамавугольнай формы драўляны корпус з ручкай. Унутры корпуса на прымацаваную да яго адным канцом нітку нанізана жменя высушанага насення бабовых. На Беларусі вядома таксама бразготка, якая ўяўляе сабой звычайную каробачку з некалькімі каменьчыкамі або невялікім шарыкам унутры, замацаваным пасярэдзіне свабодна нацягнутай ніткі. У мінулым бразготка выкарыстоўвалася як дзіцячая цацка (Магілёўшчына) і як сігнальны інструмент вартаўнікоў (Драгічынскі раён Брэсцкай вобл.). У наш час ужываецца як музычны інструмент у народных ансамблях Рэчыцкага раёна Гомельскай і Драгічынскага раёна Брэсцкай абласцей.

**Шархуны** (бразготкі, балабоны, шалгуны, шалестуны, шумёлы, шалканы, шархоткі, шамкі, бомы, гараголі і інш.) — набор пустацелых металічных шарыкаў са шротам унутры, проразямі па баках (або без іх) і вушкам у верхняй частцы. Выкарыстоўваліся ў святочных паездках (у госці, на кірмаш, у царкву). Вядомы як састаўны канструкцыйны элемент бубна. Сустракаецца на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

**Трашчотка** (бразготка) складаецца з рабрыстага валіка з ручкай і гнуткай лучынкі, умацаванай у рамавым корпусе. Пры раскручванні трашчоткі канец лучынкі, саскакваючы з рабра на рабро, утварае рэзкі гук. Інструмент выкарыстоўваўся як сігнальны вартаўнікамі, па-

ляўнічымі, для забавы — дзецьмі, а таксама ў час святаў (каляды).

Да мембранных інструментаў належаць бубен, барабан і грэбень.

**Бубен** (барабан) — вузкі драўляны абруч («бячайка», «рэшата»), на які з аднаго боку нацягнута скура. У прамавугольных проразях абячайкі ўмацаваны штыфты з рухомымі бляшкамі (талерачкі, ляскоткі, бразготкі). Знутры бубна прымацаваны шархуны або званочкі. Пры ігры на бубне выкарыстоўваецца драўляная калатушка. Бубен — ансамблевы інструмент, сустракаецца на Беларусі паўсюдна.

**Барабан** (бубен, бухала) мае цыліндрычны драўляны або металічны корпус (бячайка, аблупка), на які з абодвух бакоў нацягнута скура. Гук узнікае пры ўдары калатушкі па скураной мембране. У наш час асабліва шырока распаўсюджаны барабан з талеркамі, які ў народзе называюць «турэцкі барабан». Ён уваходзіць у склад спецыяльнай ударнай установкі. Турэцкі барабан найбольш пашыраны на захадзе і ў цэнтральных раёнах Беларусі.

**Грэбень** для часання льну ў сялянскім побыце выкарыстоўваўся і ў якасці музычнага інструмента. Для ігры паміж зубоў грэбеня ўстаўляўся ліст тонкай паперы. Выканаўца, злёгку дакранаючыся губамі да свабодна нацягнутай паперы, выводзіў голасам мелодыю. Гралі на грэбені і палачкай, выконваючы рытмічныя фігуры.

Духавыя інструменты падзяляюць на свабодна і ўласна духавыя. Да першых належаць лісты травы і дрэва, карынка (невялікая прамавугольнай формы пласцінка, зробленая з бяросты або цэлулоіднай плёнкі), берасцянка (берасцяная стужка, замацаваная ў вузкай шчыліне цыліндрычнай драўлянай калодачкі), жужалка і чурынга — невялікая дошчачка, прывязаная



Бубен (а), турэцкі барабан (б)



Свісцёлкі (а), акарыны (б), дудкі (в), парныя дудкі (г)



Жалейкі (а, б, в, г, д), кларнет (е), дуда (ж)

да палкі (мясцовая назва невядома). Уласна духавыя інструменты бываюць флейтавыя (свісцёлка, карына, дудка і, магчыма, шматствольная дудка, так званая флейта Пана), язычковыя (жалейка, кларнет, дуда, гармонік і яго разнавіднасці — баян і акардэон) і муштучныя (труба і рог).

**Свісцёлка** (свістушка, конік, пеўнік, паненка, коннік, дудачка) мае форму птушак, жывёл, лялек, фантастычных істот, бытавых прадметаў (адсюль і назва інструмента), свістковае прыстасаванне і іграмвыя адтуліны (часцей за ўсё дзве). Вырабляецца ганчарамі, вядома паўсюдна як дзіцячая цацка.

**Карына** (акарына, конік) мае корпус сферычнай або цыліндрычнай (радзей) формы, свістковае прыстасаванне і 8—10 іграмвых адтулін. Вырабляецца ганчарамі. Сустракаецца на Гродзеншчыне і ў заходніх раёнах Віцебшчыны, Міншчыны.

**Дудка** (пасвісцёл, свісціл, свісцёлка, свірасцёлка, жалейка, сапёлка, шасцяруха, гуслі, каронка, пішчык) — драўляная, металічная або з кары трубка са свістковым прыстасаваннем (шпунт, сэрца, пробка, корачак) і 4—8 іграмвымі адтулінамі (галаснікі, перабіранкі, дзірачкі, галасы). Распаўсюджана на ўсёй тэрыторыі Беларусі сярод пастухоў і музыкантаў-аматараў. У наш час сустракаецца рэдка.

**Парныя дудкі** (парнёўка, пасвісцелі, сапёлка) складаюцца з дзвюх розных па даўжыні свістковых дудак, кожная з якіх мае па 3 іграмвыя адтуліны. Тэрыторыя бытавання — Магілёўшчына. У наш час інструмент сустракаецца рэдка.

**Жалейка** (дудка, ражок, пішчык, чаротка, пасвірэлка) — трубка з адзінарным наразным або прымацаваным язычком, з 4—8 іграмвымі адтулінамі або без іх. У якасці матэрыялу для жалейкі выкарыстоўваюцца гусінае пяро, саломіна, дрэва, рог, а для раструба — бяроста, рог, дрэва. Раней жалейка была

распаўсюджана сярод пастухоў, на ёй ігралі таксама музыканты-прафесіяналы і дзеці. Зараз сустракаецца рэдка.

**Кларнет** (дудка) мае цыліндрычны ствол, які заканчваецца з аднаго канца раструбам, з другога дзюбападобным муштуком з прымацаваным да яго язычком. У народнай інструментальнай практыцы пашыраны кларнеты як фабрычныя, так і самаробныя. Кларнет бытуе на Палессі, Міншчыне, Віцебшчыне, Гродзеншчыне.

**Дуда** ўяўляе сабой скураны мех (рэзервуар для паветра), у які ўстаўлена маленькая трубачка (соска, посмак, сапль, дудка) для напаўнення яго паветрам, і некалькі ігравых трубак: перабор з 7 ігравымі адтулінамі для выканання мелодыі, адзін, два і больш гукаў, непарыўнае гучанне якіх суправаджае мелодыю. У верхнім канцы трубак, унутры іх, знаходзіцца пішчык з адзінарным язычком, зроблены з чароту або гусінага (індычынага) пяра. У мінулым былі вядомы тры разнавіднасці дуды: з адным, двума (найбольш пашыраная разнавіднасць інструмента) і больш гукамі. Дуда бытавала на тэрыторыі Віцебскай, Вілейскай і ў некаторых раёнах Мінскай губерній.

**Гармонік** (гармошка) распаўсюджаны на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Найбольш пашыраны хромка (грамаціка) і венка (венскага строю). Вялікую цікавасць маюць інструменты мясцовых майстроў.

**Труба** (берасцянка, дуда) мае ствол цыліндрычнай, канічнай, выгнутай і авальна скручанай (з так званым «каленам») формы. Калі трубы першых трох форм былі распаўсюджаны на тэрыторыі ўсёй Беларусі, то з «каленам» — толькі на Магілёўшчыне. Выраблялiся з дрэва (нярэдка абгортваліся бяростай), кары або бляхі. Труба часта забяспечвалася спецыяльным прыстасаваннем для губ — муштуком. Труба на Беларусі — прыналежнасць перш за ўсё пастухоў. У апошні час у народных



Трубы




Трубы (а), рог (б)



Скрыпка



Басэтля



Гусляр (а), лірнік (б)

інструментальных ансамблях шырока выкарыстоўваецца металічная труба.

**Рог** (ражок) — інструмент з рога жывёлы (каровы, быка, барана), выгнутых частак дрэва (бярозы, сасны), кары (асіны, лазы, вольхі) розных памераў (ад 30 да 60 см). Ігравых адтулін, як правіла, няма. У вузкім канцы рога змяшчаецца муштук. Інструмент спрадвеку ўжываўся для падачы розных сігналаў. На вясковых святах выкарыстоўваўся часам для забавы. У наш час захоўваецца яшчэ на Гомельскім Палессі.



Цымбалы (а), цытра (б)

Група струнных музычных інструментаў уключае скрыпку, басэтлю, балалайку, цымбалы. У мінулым былі таксама пашыраны гуслі, цытра і ліра.

**Скрыпка** (скрыпіца) мае рэзанансавы корпус (каробка) з характэрным перахватам пасярэдзіне, які складаецца з дзвюх драўляных дэк — верхняй (грудзявой) і ніжняй (плечы) дошак, аб'яднаных бачкамі (лучкамі, бакавіцамі). На верхняй дэцы выразаны дзве гукавыя адтуліны (галасы, эсы), паміж імі размешчана падстаўка (кабылка, конік) для падтрымкі струн. «Шыйка» скрыпкі заканчваецца «галоўкай» з калкамі (закруткі, круцёлкі) для замацавання 4 струн — рымкі, падрымоўкі, падбаска, баса. Вядомы як фабрычныя, так і самаробныя скрыпкі. Зрэдку сустракаюцца скрыпкі нестандартных памераў з навязнымі ладамі і ніцянымі струнамі. У наш час скрыпка — адзін з найбольш распаўсюджаных народных музычных інструментаў.

**Басэтля** (басоля, бас, кантрабас) па форме і канструкцыі падобна да віяланчэлі, але мае розныя памеры і тры або чатыры жыльныя або металічныя струны. Была пашырана на Гродзеншчыне, у заходніх раёнах Брэстчыны і Мігшчыны. Зараз сустракаецца рэдка.

**Цымбалы** маюць драўляны корпус трапецападобнай формы са сталёвымі струнамі (ад 2 да 8 у хоры-«пасме»), нацягнутымі над верхняй дэкай. Гук узнікае пры ўдары па струнах дзвюма драўлянымі палачкамі (кручкамі). Цымбалы бываюць розных памераў і дыяпазону (палавінка, паўтарачка, цэлыя). Пашыраны ў Мінскай, Гродзенскай абласцях і Лельчыцкім раёне Гомельскай вобл.

**Гуслі** бытавалі на Беларусі, відаць, дзвюх форм — крылападобнай і трапецападобнай (гуслі-псалтыр), мелі розны памер і колькасць струн. Археалагічныя, выяўленчыя і літаратурныя крыніцы, вуснапаэтычная творчасць беларусаў

дазваляюць меркаваць аб існаванні інструмента хутчэй за ўсё ў тых раёнах Беларусі, што мяжуюць са Смаленшчынай, Пскоўшчынай і Латвіяй.

**Цытра** мае корпус прамавугольнай формы са зрэзаным верхнім вуглом. Над верхняй дэкай нацягнуты струны (колькасць іх, як і памеры корпуса, вар'іруецца). Над струнамі перпендыкулярна да іх замацаваны 3 «клапаны» — дошчачкі, пры націсканні на іх гучаць акорды. Пры ігры на цытры музыкант кладзе яе на калені або на падстаўку перад сабой, правай рукой ударае па струнах ці зашчыпвае іх, левай націскае клапаны. Цытра была вядома ў Чэрвенскім раёне Мінскай, Навагрудскім Гродзенскай і Докшыцкім Віцебскай абласцей.

**Ліра** (лера, рыля) мае драўляны корпус скрыпічнай (або іншай) формы, над верхняй дэкай якога нацягнуты тры струны. У ніжняй частцы корпуса знаходзіцца драўлянае калёсіка, якое пры вярчэнні ручкай трэцца аб струны, у выніку чаго ўзнікае гук. Над верхняй дэкай размешчаны ў спецыяльнай каробцы клавішна-парожкавы механізм з клавішамі (ад 5 да 13) — вузкімі драўлянымі дошчачкамі з выступамі. Сустракалася на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

**Балалайка** (балабайка) самаробная мае тую ж форму і канструкцыю, што і фабрычная, але колькасць струн вар'іруе ад 3 да 6 (па 2 у пасме). Пашырана на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

---

Никифоровский Н. Я. Очерки Витебской Белоруссии. 2. Дударь и Музыка.— Этнографическое обозрение, кн. 13—14, № 2—3.— М., 1892; Назина И. Д. Белорусские народные музыкальные инструменты (самозвучащие, ударные, духовые).— Мн., 1979.

# ІНВЕНТАР ДЛЯ НАРОДНЫХ ГУЛЬНЯЎ, ДЗІЦЯЧЫЯ ЦАЦКІ



Беларускія народныя гульні, цацкі — састаўная частка нацыянальнай культуры беларусаў. Гісторыя гульняў цесна звязана з гісторыяй народа, з яго працоўнай дзейнасцю, звычаямі і традыцыямі. Большасць гульняў адлюстроўвала вытворчую дзейнасць народа. Так, у многіх гульнях паказваліся працэсы земляробства, палявання, рыбалоўства, пчалярства, жывёлагадоўлі і інш. Гульні развівалі смеласць, спрыт, кемлівасць, вынослівасць.

Пераважная большасць народных гульняў праводзілася летам. Зімой, восенню і вясной колькасць гульняў значна скарачалася, і гэта былі ў асноўным хатнія гульні.

Інвентар для гульняў, а таксама дзіцячыя цацкі звычайна былі нескладаныя. Часта дзеці выраблялі іх самі. У некаторых гульнях абавязковым інвентаром былі пуга, лейцы, конскія дугі, кола воза, а нярэдка і выпадковыя падручныя рэчы: шышкі, каменьчыкі і інш.

**Біты** — палкі накшталт ракеткі. Выкарыстоўваліся ў гульнях «Апука», «Елка» і інш. Для гульні «Апука» яе ўдзельнікі падзяляюцца на дзве каманды — «горад» і «палявыя». У выпадку, калі мяч пападзе ў ігрока, каманды мяняюцца месцамі.

**Калкі** (рагулі, клюкі, друкі, другчкі) — палкі-клюшкі. Калкі і рагулі рабіліся з галінкі або тонкага ствала, раздвоенага на канцы ў выглядзе рагаткі. Імі звычайна падштурхоўвалі, вадзілі па лёдзе лядзяк або мячык. Клюкі, друкі, другчкі мелі на канцы корань або сук. Выкарыстоўваліся ў гульнях «У кругляк», «Свінка».

**Куля** — драўляныя або гліняныя шарыкі дыяметрам 4—8 см. Выкарыстоўваліся ў гульнях «Два агні», «Свінка».

**Пікі** (пікачы, ланка) — завостраныя з аднаго боку палкі даўжынёй 30—50 см. Выкарыстоўваліся ў гульнях тыпу «Пікар».

**Паленты** (кійкі, дубцы) — палкі для кідання ў нерухомую цэль. Выраблялісся з ліставых парод дрэў. Верхні тонкі канец палкі старанна апрацоўваўся і служыў ручкай. Выкарыстоўваліся ў гульнях «Шпень», «Рухі», «Пікар», «Ланты».

**Гарадкі** (шпянёк, пушкі, рухі, кеглі, кароглі, слупкі) — драўляныя цыліндрычныя цуркі таўшчынёй 4—7 см і даўжынёй 10—20 см. Выкарыстоўваліся ў гульнях «Шпень», «У пушкі» і інш.

**Клек** — палачка даўжынёй 10—20 см і таўшчынёй 4—6 см з завостранымі канцамі. Выкарыстоўвалася ў гульнях «Клек», «У чыжа».

**Бабкі** — надкапытныя сустаўныя косткі жывёл (бараноў, кароў, валоў). Выкарыстоўваліся ў гульнях «У бабкі». «У косці», «У казанца».

**Мячык** (апука) — скураны, з ануч, з поўсці свойскіх жывёл (карова, конь). Мячыкі з ануч і скураныя туга набіва-







Палка (а), біта (б), клюшкі (в), піка (г), гарадок (д), клек (е), жарабейкі (ж)

ліся ачосамі з лёну, анучамі, саломай. Мячы з поўсці жывёл выраблялiся наступным чынам: на спіне жывёл каталі далонню поўсць да таго часу, пакуль не атрымліваўся тугі шарык памерамі 5—6 см. Выкарыстоўваўся ў гульнях

---

Гушкалкі: а, б — вісячыя, в — апорныя; кабыла (г), кружолка (д), вятрак (е)




Санкі (а, б), драўляны канёк (в), калаўрот (г)

«Штандар», «Гаротнік», у розных варыянтах гульні «Лапта».

**Жарабейкі** (шасцёркі, зерне) — кубікі, што выкарыстоўваліся пры жараб'ёўцы. Бакі кубікаў адзначаны лічбамі, зарубкамі, кропкамі.

**Санкі дзіцячыя** (саначкі). Звычайна драўляныя, з выпілаванымі ці гнутымі палазамі.

**Канькі** — драўляныя брускі з дзіркамі для вяровачных мацаванняў. На ніжняй частцы канькоў замацоўваўся тоўсты дрот. Звычайна дзеці карысталіся адным каньком.

**Калаўрот** (кружала). У лёд умарожваўся слупок, на які надзявалася кола ад воза. Да кола крыж-накрыж прымацоўвалі дзве жэрдкі, да якіх прычаплялі санкі.

**Качэлі** (гайданка, гушкалкі) — прыстасаванне, на якім гушкаюцца для забавы. Вядомы двух відаў — падвясныя і апорныя.

**Кабыла** — прыўзнятае над зямлёй у гарызантальным становішчы бервяно. Выкарыстоўваецца для гульні (адзінаборства).

**Лялькі.** Найбольш распаўсюджанымі ў беларускіх вёсках былі самаробныя лялькі з кускоў матэрыялу. Валасы рабілі з кудзелі. Вуглём рысавалі бровы, вочы, рот. Для лялек дзеці шылі спадніцы, кофты. У гульнях з лялькамі дзяўчынкі вучыліся шыць, вышываць, прасці. Часта дарослыя для асновы лялькі рабілі з палкі ці палена фігуру чалавека.

**Кружолка.** Выраблялася з драўлянага кружка, у цэнтры якога прадзяваўся стрыжань з вострым канцом. Ніжэй кружка стрыжань выглядаў на паўвяршка, а вышэй кружка на два. Хуткімі вярчальнымі рухамі пускаюць кружолку.

**Вятрак** — дзве шырокія лучынкі, звязаныя крыж-накрыж, наколатыя на цвік, убіты ў кій.

**Кола** — драўляны кружок, дно ад вядра, абруч і г. д. Папіхаўся палкай ці тоўстым дротам.

**Пільшчык** — драўляная цацка, якая нагадвала рухі пільшчыка дроў.

Для маленькіх дзяцей выраблялісі карзінкі, каробачкі з пруткоў, лучынак, саломы; ложкі, міскі для лялек, лодкі з бяросты і сасновай кары; кароўкі з гарбуза, гурка, бульбіны і інш.

---

Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8—9.— Вильно, 1912; Вількін Я. Р. Беларускія народныя гульні.— Мн., 1969.

# ЗМЕСТ

ПАМЯТНИКИ ЭТНОГРАФИИ

МЕТОДИКА ВЫЯВЛЕНИЯ,
ОПИСАНИЯ И СБОРА

Издательство «Наука и техника»

*На белорусском языке*

Рэдактар А. С. Пякарскі

Мастак С. П. Русак

Мастацкі рэдактар В. В. Саўчанка

Тэхнічны рэдактар В. І. Кручонак

Карэктар Н. А. Дашкевіч

ІБ № 1331

Здадзена ў набор 26.09.80. Падпісана ў друк 03.03.81. АТ 18037. Фармат $70 \times 90^1/_{16}$. Папера мел. Гарнітура акадэмічная. Высокі друк. Друк. арк. 9,5. Ум. друк. арк. 11,11. Ул. выд. арк. 11,85. Тыраж 4650 экз. Заказ № 1848. Цана 1 р. 50 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.

П55 **Помнікі** этнаграфіі: Методыка выяўлення, апісання і збірання / Беларус. добраахвот. т-ва аховы помнікаў гісторыі і культуры, Сектар этнаграфіі Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР; Пад рэд. В. К. Бандарчыка.— Мн.: Навука і тэхніка, 1981.— 150 с., іл.

У пер.: 1 р. 50 к.

Метадычны дапаможнік для выяўлення, апісання і збірання помнікаў народнага дойлідства, сельскагаспадарчай тэхнікі, транспартных сродкаў, промыслаў і рамёстваў, музычных інструментаў і інш.

П $\frac{10603—048}{М316—81}$ Дад.— 80 0508000000

ББК 63.5
902.7